ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

9 снежня 1994 г. | № 49 (3771) | Кошт 75 руб.

## ПАЭТЫЧНЫ БЛАКНОТ

***Сяргея ЗАКОННІКАВА***

**4**

## "...І НІХТО НІЧОГА НЕ СКАЗАЎ"

**Уладзімір МЕХАЎ: "На мітынгу ў Мінску 6 лістапада гэтага года, на мітынгу пад чырвонымі камуністычнымі сцягамі, дзе лексікай самай нецырымоннай клеймаваліся БНФ, ЦРУ, улада і бізнесмены, у натоўпе стаялі і малойчыкі са свастыкай на рукавах. З размовамі са свастыкай суладнымі"**

**5**

## "РУПІЦЦА АБ ЭСТЭТЫЦЫ, "КРАСЕ" ТАГО, ШТО ІДЗЕ ДА ЛЮДЗЕЙ"

**Алесь БЯЛЯЦКІ: "У нашым зрусіфікаваным і пазбаўленым праз гэта культуры менавіта паэзія Максіма Багдановіча прымушае не адну чуйную і шукальную душу наблізіцца да Беларушчыны".**

**7,12**

## НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

**Уладзімір КАЛЕСНІК: "Гаварыць пра ізаляванасць Арсенневай ад беларускай рэальнасці, ад яе злыбед і нягодаў, паражэнняў руху ў змаганні з паланізатарскім рэжымам таксама было б нацягнутым. Баевікі хацелі ад яе публіцыстычных асуджэнняў ворагаў і ўсхвалення мужнасці юных змагароў, а яна выказвалася метафарычна, іншасказальна. Такі маці-прырода падаравала ёй талент".**

**13—15**



## НА ГАЛЕРЭІ — МАЛАДЫЯ

У Нацыянальным мастацкім музеі другі раз ужо экспануецца выстава маладых беларускіх мастакоў В. Саўчанкі, К. Селіханава, У. Канцэдайлава, Я. Галузы, З. Луцэвіч і У. Фёдарава разам з іспанскімі майстрамі Х. Херонай, Х. Прыста і М. Айала.

Парадокс, але для жывапіснай часткі экспазіцыі галоўнымі сталі не стылі ці пошукі асобаў, густы ці законы моды, зварот да ментальнасці альбо пачуцці кожнага. Гармонія колеравага багацця і агульнае сугучча ўсіх мастацкіх твораў, экспрэсіі і фантазіі расквецілі і расфармалізавалі акадэмічнасць рэльефаў калон і лесвіц галерэі. Невялікія ж скульптуры К. Селіханава вымагаюць дадатковай глядацкай увагі. Уздоўж акружаючы галерэю, ягоныя ажурныя формы падзяляюць выставу на дзве экспазіцыйныя прасторы. І гэта прыклад удала расстаўленых на колеравых і скульптурных пошуках акцэнтаў. Бо менавіта пошук — галоўнае для мастака, ён прымушае застацца на вастрыі сённяшніх ідэйных і форматворчых задач.

**Н. Ш.**

*На здымках: адкрыццё выставы; скульптурная кампазіцыя К. Селіханава; з серыі "Добры вечар, пан Ван Гог" В. Саўчанкі.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*







# ЖУРЫ НАЗВАЛА ЛАЎРЭАТАЎ

26 лістапада ў Канцэртнай зале філармоніі адбылося падвядзенне вынікаў Міжнароднага конкурсу музыкантаў — выканаўцаў на драўляных духавых інструментах. Адкрыў урачысты сход старшыня аргкамітэта, намеснік міністра культуры Беларусі У. Рылатка, які сярод іншага выказаў падзяку цудоўным педагогам, дзякуючы каму выйшлі на шлях творчых перамог таленавітыя маладыя музыканты. У ліку гэтых педагогаў — Н. Аўраменка, І. Піменава, Б. Нічкоў, У. Апацкі, У. Скараходаў... А годны арганізацыйны ўзровень конкурсу ў нялёгкі для краіны час Міністэрству культуры дапамаглі забяспечыць кіраўнікі БДФ, Акадэміі музыкі, Беларускага інстытута праблем культуры і спонсары: банк "Беларусь", айчынная фірма "Эльдарада", кампанія "БАНАСО" ды інш. Быў створаны прэміяльны фонд, а таксама набыты тры вельмі каштоўныя сучасныя інструменты для Акадэміі музыкі. Сярод удзельнікаў конкурсу, як зазначыў старшыня журы прафесар Б. Нічкоў, былі добрыя, былі вельмі добрыя і не было слабых музыкантаў. А вынікі? У лік лаўрэатаў трапілі ўкраінскія, беларускія, расійскія, польскія выканаўцы. Многія ўдзельнікі (у тым ліку й канцэртмайстры) атрымалі заахвочвальныя дыпломы або спецыяльныя прызы.

Запомнім імёны пераможцаў — лаўрэатаў першай прэміі: фагатыст А. Ткачук (Украіна), кларнетыст А. Вакуленка (Беларусь), флейтыст М. Папоў (Расія), габаістка В. Татур (Беларусь). Пасля цырымоніі ўзнагароджання адбыўся канцэрт з удзелам новых музычных "зорак" і "зорачак".

# УЧОРА Ў ВІЦЕБСКУ...

Няцяжка здагадацца, што ж адбылося ў Віцебску ўчора: ну, канечне, адкрыццё чарговага фестывалю! Сёлета традыцыйны фестываль імя І. Салярцінскага прадоўжыцца да 11 снежня. Праводзяць яго абласное ўпраўленне культуры, гарадскі аддзел культуры, абласная філармонія, Віцебскае музычнае таварыства ды Саюз музычных дзеячаў рэспублікі. Арганізацыйную дапамогу аказвае Санкт-пецярбургская дзяржаўная філармонія імя Д. Шастаковіча. Генеральны спонсар — "Стэфахам трэйдынг Ltd", сталую фундацыю фестывалю ажыццяўляе малое навукова-вытворчае прадпрыемства "Патэнцыял". У праграме — канцэрты Ансамбля салістаў "Класік-Авангард", вечар вакальных дуэтаў, сустрэча са знаным піцерскім кампазітарам Б. Цішчанкам, а таксама навукова-асветніцкія чытанні ў музычнай гасцёўні з удзелам цікавых гасцей Віцебска.

**Н. К.**

# "MINSK ORCHESTRA"

Нарадзіўся новы музычны калектыў. Ягонае імя — Малы сімфанічны аркестр "Minsk Orchestra". У мінулую суботу адбылася яго прэзентацыя ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі. Пры поўнай зале. У атмасферы святочнага ўздыму і шчодрых авацый. "Немаўля" заслужыла зычлівасць і авацыі беларускага "бамонда": у аркестры сабраліся лепшыя музыканты рэспублікі, якія пад кіраўніцтвам свайго маэстра Вільгельма Кайтэля (Германія) прадставілі бліскуча-прыгожую праграму з твораў Д. Расіні. Гучалі уверцюры з опер "Турак у Італіі", "Севільскі цырульнік", "Сарока-зладзейка" ды інш. Гучалі віртуозныя расініеўскія арыі з опер "Папялушка", "Семіраміда", "Шлюбны вексель", "Севільскі цырульнік", якія ў добрым партнёрстве з аркестрам выконвалі вядучыя маладыя салісты нашага ДАВТа Таццяна Варапай, Сяргей Драбышэўскі, Ганна Гур'ева, Ірэна Журко, Уладзімір Пятроў, Вікторыя Курбацкая... Унікальны для нашых эканамічных умоў недзяржаўны аркестр, можна сказаць, яшчэ знаходзіцца ў стадыі фарміравання, але ўжо мае планы: з мая па кастрычнік — замежныя гастролі, астатні час — канцэрты для беларускіх меламанаў. Першы канцэрт аркестра прайшоў на высокім узроўні, "немаўля" заявіла пра сябе на поўны голас.

# САРАЕВА: ЖЫЦЦЁ І МАСТАЦТВА ПАД АГНЁМ

Кінапраграма пад назвай "Сараева: жыццё пад агнём" 2—4 снежня прайшла ў Доме літаратара. Наладзілі яе Беларускі Фонд Сораса, Інстытут адкрытага грамадства (Будапешт), Міжнародны фонд фільмаў па правах чалавека і Беларуская федэрацыя "Кінаклуб". Аснову праграмы, у якую ўвайшло каля 20-ці дакументальных і анімацыйных фільмаў, склалі работы кінематаграфічнай групы "САГА" з Сараева. У Мінску групу прадстаўлялі кінарэжысёр і сцэнарыст Срждан Вулеціч і выканаўчы дырэктар Ясмінка Тарыч.

Як адзначыў ва ўступным слове на адкрыцці праграмы каардынатар Беларускага Фонду Сораса Д. Хрол, дадзеная кінапраграма была наладжана паводле агульнакультурных намаганняў БФС у Беларусі і мела на мэце пераадоленне браку інфармацыі адносна падзей у Босніі. Такім чынам да гуманітарнага аспекту праграмы непазбежна далучыўся аспект палітычны — чаго самі члены групы "САГА" не жадалі (пытанняў з залы падчас абмеркаванняў карцін было ці не болей палітычных, чым мастацтвазнаўчых, што вымоўна сведчыць пра ступень інфармаванасці грамадскай думкі Беларусі адносна вайны). У інтэрв'ю карэспандэнту "ЛіМа" выканаўчы дырэктар групы "САГА" Я. Тарыч адзначыла, што сэнс намаганняў гэтага творчага калектыву — у меру сваіх здольнасцей і магчымасцей паўплываць на сусветную інфармацыйную палітыку вакол вайны. На думку дырэктара (гэтак жа выказаўся на абмеркаваннях і С. Вулеціч) — еўрапейскія і амерыканскія інфармацыйныя агенцтвы і тэлебачанне "не любяць на экранах крыві", і насельніцтва Еўропы і Амерыкі не мае магчымасці ведаць праўду аб вайне. Што да былых рэспублік СССР, у тым ліку і Беларусі, то тут пануе інфармацыйная палітыка Расіі, якая па зместу і духу — аднабокая, прасербская. (Таму група "САГА", уласна, і прывезла свае фільмы ў Беларусь, каб прадставіць другі пункт гледжання на падзеі, пункт гледжання баснійцаў).

Можна адзначыць, што баснійскія кінематаграфісты прывезлі ў Беларусь не проста другі погляд, "другую праўду", а — проста праўду: відовішча таго, як жывуць ва ўмовах вайны цывільныя жыхары Сараева (трэба думаць, мірнае насельніцтва сербскіх гарадоў і вёсак жыве не лепш, калі не лічыць за розніцу пэўныя матэрыяльныя выгоды). Насельніцтва апынулася заложнікам палітычных амбіцый сваіх лідэраў, у першую чаргу — былых камуністычных, зараз "незалежніцкіх" кіраўнікоў, каму звыкла пракладаць шлях гісторыі па крыві і трупах. Асабліва ўразілі ў гэтым плане фільмы "Сербскі эпас" (рэжысёр П. Паўлікоўскі) і "Вытокі вайны" (рэжысёр К. Тальчэўскі).

Але ўсё ж такі ваюе не толькі прафесійная армія, ваюе таксама і мірнае насельніцтва, што мусіла зрабіцца войскам. **Воля да вайны простага насельніцтва** — вось той метафізічны феномен збройнага процістаяння ў былой Югаславіі. Чаму з канфлікту няма рацыянальнага выйсця, чаму не бачна сродку, як з гэтым паканчыць?.. На жаль, сярод прадстаўленых фільмаў не было работы, спецыяльна прысвечанай этнапсіхалогіі і рэлігійнай гісторыі рэгіёна. Аднак жа своеасаблівым і візуальным контрапунктам да праграмы стаў матыў асуджанасці, няведання выйсця са становішча. Не адзін раз на абмеркаваннях гучала пытанне пра магчымасць выйсця з вайны, і ў прадстаўнікоў групы "САГА" не было адказу на гэтыя пытанні, была мужна прыхаваная роспач... У многім падзеі ў Босніі развіваліся па ірацыянальнай, невытлумачальнай логіцы, заложнікамі якой сталі ўсе, хто трымае зброю на гэтай зямлі.

Як жа жывуць людзі ў Сараеве, што вызначае іх унутраны свет? Калі шукаць нейкае зборнае вызначэнне зместу кінаработ, то ўсе яны — работы экзістэнцыяльныя, г. зн. мастацтва ў іх супадае з жыццём, жыццём — з мастацтвам, мастацтвам жудасным і крывавым... Гэта — не палітычныя і не прапагандысцкія фільмы, гэта — фільмы ПРАЎДЫ пра жыццё ў не такой і далёкай частцы Еўропы, фільмы ПАКУТ, якія і не ўсвядамляюцца такімі — да іх, пакут, людзі прывыклі. Каб адчуць экзістэнцыю Сараева, трэба **бачыць**, ШТО там адбываецца, бо адна з вызначальных рыс чалавека цывілізаванага — суперажыць чужы боль як свой. У гэтым — адна з гарантый таго, што чужая трагедыя не паўторыцца ў цябе дома.

Што й казаць: дагэтуль дыстыляваная інфармацыя аб падзеях у Босніі бадай і не кранала нас асабіста, па сутнасці, не выклікала адэкватных пачуццяў. Не тое фільмы "САГІ": пасля прагляду іх нечакана цяміш, што "Бог не роўна дзеліць", і пры канцы XX стагоддзя нічым не горшыя за астатніх еўрапейцаў людзі мусяць трываць невыносныя жудасці, якія ў сучаснай Еўропе цяжка ўявіць. Не хацелася б сімвалізаваць, ды ў нечым пабачаны на экране побыт баснійцаў уявіўся знакам і папярэджаннем: знакам таго, што і да сёння чалавецтва, нягледзячы на двухтысячагадовыя намаганні хрысціянскай царквы, не здолела вытруціць са свае існасці найстаражытныя — мілітарныя інстынкты; папярэджанне — аб тым, што мэтай любой дэмакратыі павінна быць утаймаванне гэтых інстынктаў, недалушчэнне іх выхаду на паверхню жыцця.

Сараева чакае свайго Гадо, чакае Бога... Але Бога спаміж людзьмі няма, таму Бог назірае за падзеямі звонку, нікому не патрэбны, занядбаны...

У будучым група "САГА" мае намер выпусціць у міжнародны кінапракат вялікую стужку "Замкнёнае кола", у якой будзе падрабязна расказвацца пра канфлікт. Як адзначалі арганізатары праграмы, новы фільм таксама будзе паказаны ў Беларусі.

**Юрась ЛАГАДА**

Меркаванне

# НЯЎЖО ТРАПІМ У КНІГУ ГІНЕСА?

У наш час, дзякуючы развіццю цывілізацыі і дэмакратыі, актывізаваўся аб'ектыўны працэс нацыянальнага адраджэння панявольных народаў. Пасля распаду СССР на Беларусі таксама пачаўся гэты працэс, у людзей абудзілася (у адных свядома, у іншых падсвядома) натуральнае жаданне не быць у агульначалавечых нормах у нечым горшымі, непаўнацэннымі. З'явілася патрэба ведаць гісторыю і культуру свайго народа. Людзі ўспомнілі, многія нанава даведаліся аб месцы і ролі роднага слова ў развіцці чалавека як асобы.

З увядзеннем пасады прэзідэнта былі і ёсць юрыдычныя і маральныя падставы спадзявацца на паступовае тармажэнне і спыненне забойчага працэсу для беларускага этнасу: поўнай асіміляцыі шляхам русіфікацыі. На вялікі жаль, наш першы прэзідэнт ужо ўвайшоў у гісторыю як асоба, якая прымярае і пераносіць свой уласны моўны стан і светапогляд на ўсіх жыхароў Беларусі, і гэтым самым ён затармазіў, мабыць, несвядома, пачаты натуральны працэс вяртання беларусам нашай роднай мовы, а значыць і нацыянальнай культуры ў шырокім сэнсе, без якой брама ў клуб сусветнай культуры зачынена.

Я хацеў бы ганарыцца прэзідэнтам сваёй дзяржавы і з гонарам гаварыць: гэта мой Прэзідэнт! На жаль, толькі аднойчы мы бачылі спадара Лукашэнку сапраўды Прэзідэнтам дзяржавы Беларусь: калі на беларускай мове чытаў даклад у філармоніі ў Дзень Незалежнасці Беларусі. Беларуская мова з яго вуснаў гучала правільна, натуральна, мілагучна. А пасля?

Шаноўны спадар Прэзідэнт! Нават самыя "прыдзірлівыя" людзі разумеюць асабістыя цяжкасці ў пераходзе да выканання службовых функцый на беларускай мове і не патрабуюць ад Вас заўтра ж пачаць гаварыць па-беларуску (хаця часу было дастаткова — 5 год працы ў Вярхоўным Савеце). Вы маеце права на адпаведны час. Але чаму ж Вы перад прыняццем прысягі, паклаўшы руку на Канстытуцыю, не папрасілі ў народа прабачэння за часовыя цяжкасці ў карыстанні пры выкананні канстытуцыйных абавязкаў мовай карэннага этнасу дзяржавы? Чаму не назвалі тэрмін, з якога на службе будзеце карыстацца дзяржаўнай мовай (гэта намнога прасцей, чым назваць тэрмін запуску вытворчасці на ўсіх прадпрыемствах)? Чаму не запатрабавалі, як прэзідэнт, ад усіх дзяржаўных структур і чыноўнікаў выконваць 17 артыкул Канстытуцыі і Законы аб мовах і аб адукацыі? Усё гэта не затармазіла б, а наадварот, паспрыяла б нармальнаму працэсу адраджэння беларускай мовы і культуры.

Мне будзе крыўдна і я ўспрыму гэта, як асабістую абразу, калі ў кнігу рэкордаў Гінеса будзе ўнесена прозвішча першага Прэзідэнта Беларусі за тое, што ён не карыстаўся на службе мовай карэннага этнасу дзяржавы, а толькі ўжываў яе адзінкавыя словы ў іранічным сэнсе. Не дазволіць гэтай ганебнай акцыі можаце толькі Вы, шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, — першы дэмакратычна абраны Прэзідэнт.

Цікавая акалічнасць: вобраз былой першай дзяржаўнай асобы Мікалая Дземянцея застаўся ў памяці і ўвайшоў у гісторыю, на вялікі жаль, тым, што ён да апошняга моманту сваёй дзяржаўнай кар'еры не зразумеў сваё месца ў суладдзі з мовай карэннага этнасу. Зусім іншае ўспрыманне асобы Мечаслава Грыба, які з першых дзён на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета пачаў карыстацца беларускай мовай. Мы бачылі, вядома, ягоныя цяжкасці, але ніхто не кпіў, наадварот, людзі цешацца, радуюцца разуменню адказнасці, і аўтарытэт М. Грыба, як дзяржаўнай асобы, умацоўваецца, расце да яго давер і павага.

Што ж патрэбна для паспяховага адраджэння беларускай мовы і культуры? Як сведчыць гістарычны вопыт, патрэбна ясная, адкрытая дзяржаўная нацыянальная палітыка. Прэзідэнту і ўраду трэба, як і па іншых пытаннях, да канца вызначыць сваю пазіцыю і адстойваць яе па стварэнні ўмоў для ўсталявання беларускамоўнага інфармацыйнага асяроддзя ў Беларусі. Калі глядзець глыбока і ў перспектыве, то гэта ёсць асноўная, лёсаносная праблема для ўсяго беларускага этнасу.

Выхаваць нацыю ў яе роднамоўным інфармацыйным асяроддзі і правесці яе цераз поле крызісаў ёсць наша найважнейшая гістарычная задача, і найперш — задача Прэзідэнта. А гэта можна зрабіць, толькі ўразумеўшы месца і ролю роднай мовы для кожнага народа. Мы, беларусы, нічога новага, асаблівага не робім і не патрабуем. Мы паўтараем аб'ектыўны шлях іншых народаў, якія па розных, незалежных ад іх абставінах, амаль страцілі родную мову, а пасля, усвядоміўшы яе ролю для самазахавання, адрадзілі яе (іудзеі, чэхі, пакістанцы і інш.).

Нам неабходна як мага хутчэй падтрымаць і развіць крокі па вяртанні беларускай мовы ў школы і пераводзе выхавання і навучання на беларускую мову ў вышэйшай школе. І рашучыя заданні Прэзідэнта міністру адукацыі ў педагагічным універсітэце павінны былі быць скіраваны не на тармажэнне гэтых працэсаў, а на іх актывізацыю, на практычнае выкананне Канстытуцыі і Закона аб мовах, на цывілізаванае спыненне ганебнага працэсу русіфікацыі і асіміляцыі.

Дзіва дый толькі!

Пара ўсім зразумець аксіёму — мова ёсць стрыжань нацыянальнай дзяржавы, духоўнасці і моцы нацыі. Дыктатура палітыкі над культурай, мовай карэннага этнасу дзяржавы — амаральная. Трэба актыўна выступаць супраць шавінізму, рэзервацыйнай палітыкі ў дачыненні да нашага народа, ад каго б яны ні зыходзілі. Абывацельская тэза, што ва ўмовах эканамічных цяжкасцей не да мовы народа, што галоўнае — накарміць народ — шкодная і небяспечная. Толькі нацыянальна свядомая, патрыятычна выхаваная нацыя, як сведчыць вопыт іншых народаў, здольная адрадзіць і развіць сваё культуру і авалодаць сучаснай тэхналогіяй.

Час не церпіць. Поруч з распрацоўкай і прыняццем праграмы выхаду з эканамічнага крызісу павінна быць распрацавана і актыўна выконвацца праграма выхаду з крызісу культуры, маралі, духоўнасці. Ні аб якім кампрамісе з шавінізмам, імперскай ідэалогіяй не можа быць гаворкі. Нельга дазволіць рэакцыйным сілам выкарыстаць эканамічны крызіс, сённяшні стан нацыянальнай свядомасці, адлучэнне беларусаў ад кіруючых пасад для спынення працэсу Адраджэння беларускай мовы і культуры.

Роля інтэлігенцыі ў гэтай святой справе — вызначальная. Менавіта інтэлігенцыя не павінна сёння замыкацца ў кут сваіх асабістых інтарэсаў, а заняць шчырую, прынцыповую, баявітую пазіцыю супрацьстаяць страху і ўціску чыноўнікаў.

І хопіць дыскусій аб так званым двухмоўі. Хто выступае супраць беларускай мовы ў дзяржаве Беларусь, той выступае супраць яе незалежнасці, дзяржаўнасці. Двухмоўе — гэта шлях да расейскага аднамоў'я, да канчатковай страты беларусамі іх роднай мовы, гэта — смерць нацыі. З увядзеннем двухмоўя кілбасы больш не стане, а вось беларусаў у свеце стане менш на ўсе 10 мільёнаў.

**Мікола САВІЦКІ,**
**старшыня Мінскай гарадской рады таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

## РОДНАЙ МОВЕ ПРАСТОРНА!

Менавіта так называецца выступленне загадчыка кабінета беларускай мовы і літаратуры Наваградскага гандлёва-эканамічнага тэхнікума С. Судакевіча, змешчанае ў адзінаццатым нумары часопіса "Роднае слова". Выступленне мае падзагаловак: "Наваградскі гандлёва-эканамічны тэхнікум — беларускі і на словах, і на справе".

А адкрываецца нумар артыкулам галоўнага рэдактара "Роднага слова" М. Шавыркіна "Урокі мовы і праблемы выхавання". Пра вытокі верша Янкі Купалы "А хто там ідзе?" разважае Я. Гучок — "Дзівоснае пераўтварэнне". Лёс і творчасць Аляксандры Саковіч (яна ж Іна Рытар) разглядае А. Марціновіч у артыкуле "Літаратура як духоўная радасць...", што працягвае рубрыку "Літаратура беларускага замежжа".

Прапануюцца ўвазе чытачоў заканчэнне артыкулаў А. Бельскага "У асмужанай красе твой, восень, воблік" (восень у беларускай паэзіі), Т. Шамякінай "Зорнае неба над намі..." (астральныя міфы і ўяўленні пра космас у сусветнай літаратуры), артыкул І. Германовіча "Вернута нашчадкам" (да 110-годдзя з дня нараджэння Я. Лёсіка).

Рубрыка "Літаратурная карта" знаёміць з Пастаўшчынай — "Лынтупы" І. Быхаўца. А. Карлюкевіч рэцэнзуе кнігу К. Цвіркі "Лісце забытых алеяў". У "Літаратурным ветразі" — вершы А. Гуцава (вядучы рубрыкі — М. Скобла).

## І Ў САВЕЦКІХ ЛАГЕРАХ БЫЛІ ПАЎСТАННІ

А што гэта і самай справе так, можна даведацца з артыкула І. Кузняцова "Паўстанне ў лагеры", апублікаванага ў N 47 газеты "Голас Радзімы" за сёлетні год. Матэрыял, можна сказаць, сенсацыйны, таму невыпадкова ён змешчаны пад рубрыкай "Пра гэта наўрад ці хто ведае". Ды і адкуль ведаць было, калі да нядаўняга часу пра тое, што адбывалася ў савецкіх лагерах (кажуць, што гітлераўцы, ствараючы канцлагеры, шмат чаму павучыліся ў сваіх ворагаў... камуністаў, якія на некалькі гадоў апярэдзілі іх у варварстве, здзеку з чалавека), увогуле замоўчвалася.

Дык вось. 29 мая 1940 года "за контррэвалюцыйную дзейнасць" быў асуджаны на 15 гадоў папраўча-працоўных работ былы нарком асветы БССР У. Півавараў, арыштаваны яшчэ 2 ліпеня 1938 года. У чэрвені 1940-га Уладзіміра Іванавіча адправілі ў лагер "Лесарэйд" на тэрыторыі Комі АССР. Там ужо знаходзілася "звыш пяцідзесяці нашых землякоў, якія трапілі туды ў 1937—1939 гадах".

Як сведчаць матэрыялы следства НКУС і лагернай адміністрацыі, восенню 1941 года ў "Лесарэйдзе" ўзнікла змова: "Ідэйнымі правадырамі трэба лічыць А. Макеева, былога кіраўніка "Комілес", і У. Піваварава". Хутка яны знайшлі аднадумцаў і выпрацавалі цэлую праграму дзеянняў. Меркавалі вызваліць усіх зняволеных, стварыць добраахвотную армію, у тым ліку і з мясцовага насельніцтва, спецперасяленцаў. А далей роспуск калгасаў, "неадкладнае развіццё прыватнай уласнасці".

"Паўстанне пачалося 24 студзеня 1942 года. Вольныя ад дзяжурства ахоўнікі дружна збіраліся ў лазню. Варта было толькі зачыніцца дзвярам лазні, строга па распрацаваным плане паўстанцы раззброілі стралка аховы, а потым, пранікнуўшы ў казарму, і дзяжурнага. Тут жа ў казарме паранілі двух стралкоў. Пералічылі першую здабычу: 12 баявых вінтовак, 4 рэвальверы, 1682 патроны". Стралкі з лазні былі пераведзены ў сховішча гароднiны. Усе паўстанцы апрануліся ў новае абмундзіраванне: кажухі, валёнкі, бушлаты, штаны, шапкі... Праўда, са 141 чалавека згадзіліся на працяг барацьбы 109. Яны рушылі на пасёлак Усць-Уса, што знаходзіўся за шэсць кіламетраў. Вызвалілі вязняў камеры папярэдняга зняволення, занялі пошту. Але аэрадром захапіць не ўдалося. Завязаўся бой за будынак міліцыі...

Хто ведае, як бы разгортваліся падзеі далей, калі б інструктар райкома партыі М. Карпава, перапрануўшыся ў старую вопратку, не прайшла свабодна першы паверх параходства, занятага ўжо паўстанцамі, і не паднялася на другі. А там быў радыёцэнтр. Карпава перадала кароткі радыёзварот: "Таварышы! У вёсцы банда, узбройвайцеся, хто чым можа, і ўступайце ў барацьбу з бандытамі!".

Тым не менш паўстанне працягвалася да 28 студзеня, калі адбыўся рашаючы бой, што працягваўся ажно 23 гадзіны ля пасёлка Усць-Лыжа, за 70 кіламетраў ад Усць-Усы... Ацалелыя кіраўнікі паўстання (сярод іх і У. Півавараў) былі дастаўлены ў сыктыўкарскую турму НКУС. Следства працягвалася два месяцы. 30 сакавіка 1942 года іх расстралялі.

Тым самым устаноўлена і дакладная дата смерці У. Піваварава. Дагэтуль лічылася, што ён памёр 28 жніўня 1941 года.

# ЁСЦЬ У ПАЎНОЧНЫМ МОРЫ ВОСТРАЎ...

У Паўночным моры ёсць востраў Шпікерог. Гэта ўлюбёнае месца адпачынку жыхароў Германіі. На кавалачку зямлі даўжынёю — пятнаццаць, шырынёю — пяць кіламетраў за летні сезон перабывае некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. Сам статус вострава, своеасаблівы клімат уплываюць і на прыроду, і на жыццё тутэйшае грамады.

Вока вабяць выдатныя пляжы з мяккім белым пясочкам, дзюны, зарослыя асакою, пагоркі, на якіх сцелюцца-гнуцца пад пастаянным напорыстым ветрам з мора маленькія — ніжэй калена — дубкі, рабінкі, адзіны тут лес з каржакаватымі соснамі, з гнуткімі бярозамі, лазою, ляшчыннікам і алешнікам, спавітымі дзікім хмелем. А яшчэ паўсюль — шыпшына, шыпшына, шыпшына... На адных кусціках яе буяе ружовая, чырвоная, белая квецень, другія ўжо згінаюцца пад цяжарам буйных — нідзе такіх не бачыў — пладоў. Тут можна на працягу адной праходкі сустрэць і вушасціка-зайца, і ганарыстага фазана. А паблізу на маленечкіх астраўках — гняздоўі чаек, лежбішчы марскіх коцікаў. Дамашняе жывёлы няшмат, і, у асноўным, гэта авечкі з раскошнаю (аж спружыніць пад далонёю) поўсцю, і рахманыя коні, поні, на якіх з радасцю катаюцца дзеці. А дарослыя могуць пайсці да канюшні і займець на нейкі час сапраўднага скакуна. Праўда, гэта па кішэні не кожнаму. Дарэчы, з даўніх часін тут захавалася унікальная конная чыгунка, рэйкі якой пралеглі ад пасёлка да мора.

На востраве няма ніякай прамысловасці. Па ім маюць права рухацца толькі тры працуючыя на паліве машыны: "хуткая дапамога", пажарная і паліцэйская. Грузы з порта і ў порт дастаўляюць электракары. А мясцовыя жыхары і прыезджы люд карыстаюцца сваімі дваімі або садзяцца на веласіпеды.

Пасля тых бядламу і засмечанасці, якія даводзіцца пастаянна бачыць у лясах, гаях і лугах каля нашых гарадоў і вёсак, і нават на могілках, з вялікаю павагаю думалася пра культуру, акуратнасць, дысцыплінаванасць гаспадароў вострава і шматлікіх курортнікаў, якія так беражліва ахоўваюць і захоўваюць усё, што іх акаляе, што дорыць ім радасць і ўцеху.

Парадавала і тое, што на Шпікерозе ёсць свая газета "Астраўны веснік", некалькі бібліятэк, палац культуры і спорту, кінатэатры, карцінная галерэя. Вось так жывуць нармальныя людзі.

Тут, у маляўнічым кутку, праходзілі канферэнцыя, сустрэчы і дыскусіі на міратворчыя тэмы немцаў, беларусаў і палякаў, якія наладзіла суполка вернікаў царквы Святой Тройцы горада Франкфурт-на-Майне. Мне ж, акрамя таго, давялося правесці два аўтарскія літаратурныя вечары па паэме "Чорная быль", дапамагаць збору сродкаў на набыццё лекаў, медыцынскага абсталявання для ахвяр Чарнобыля. Хоць праграма была насычанай, але дазваляла спалучыць карыснае з прыемным. Ды, на жаль, нашай інтэрнацыянальнай сябрыне не пашанцавала. Ішлі зацяжныя дажджы, было холадна. Тэмпература вады ў моры не падымалася вышэй дзесяці градусаў. Зрэшты, і такая пагода мае свае перавагі: хадзі, глядзі, думай, пішы...

Прапаную невялічкую частку з таго, пра што думалася і што напісалася на гэтым востраве.

**Аўтар**

Сяргей ЗАКОННІКАЎ



## ШПІКЕРОГСКАЕ НЕБА

*Рыце і Рудольфу ДОРМАН*

Востраў,
куды мы пакутнай душой забрылі,
Ў свеце грахоўным шукаючы
цвёрдую глебу,
Дорыць вялікае неба,
акраец зямлі...
Можа, такое заўжды чалавеку і трэба?

Востраў,
як Ноеў каўчэг,
нас,
знямоглых,
прыняў,
Каб ратаваць ад зацятай, пякельнае згубы.
Дзесьці далёка — нянавісць,
вайна і хлусня,
Дзесьці далёка — абрыдлыя
дымныя трубы.

Тут толькі мора спраўляе
нястрыманы баль,
Б'ецца грудзьмі аб сцяну непахісную мола.
Пену зрываюць крылом з грэбняў
стомленых хваль
Белыя чайкі — пасланыя небам анёлы.

Розныя мы,
ды плывём на адным караблі,
Гэта не намі прыдумана,
гэта — ад Бога.
Верай,
надзеяй,
любоўю
свой лёс атулі —
Лёгкаю будзе і тут,
і праз вечнасць дарога.

Востраў душа адшукала сярод сумятні,
Так,
як галодны, —
кавалак надзённага хлеба.
Просіць душа,
хоць на хвілю
такой цішыні,
Прагне яна над сабою вялікага неба.

## ВОСТРАЎ НАДЗЕІ

На перавале стагоддзяў стаіць чалавек,
Цень выраджэння блукае
па стомленым твары,
А за спіной — ложы мёртвых,
атручаных рэк,
Сметнік суцэльны,
завалы,
лясныя пажары.

Сам ён стваральнік сваіх жа
хвароб і пакут,
Хто ж яго спыніць,
спагадай,
сумленнем надзеліць?
Можа, вось гэты трывожны
і радасны кут,
Хоць і маленькі, ды востраў
дабра і надзеі?

Тут немагчымыя спешка,
размашысты крок,
Сціпласць і веліч —
шчымлівай развагі прычына.
Ліст у далонь пакладзе табе міні-дубок,
Квеценню вочы твае пацалуе шыпшына.

Нібы пасланы з глыбіняў жыцця талісман,
Той, што прырода ніколі не страціць,
не згубіць,
Перабягае сцяжыну мне дзікі фазан
З роснай і жаркай
рабінавай гронкаю ў дзюбе.

●

Пакуль блукаеш вольны, малады,
З табой навечна ўсе твае гады.

У неабачлівай птушынай чарадзе
Не падуладны суму і нудзе,
Ляціш,
жыццё хістаючы крылом,
Разгоніста і смела — напралом.

І думаў ты: "Гады... А ні бяды!"
Але прыйшлі расстанні назаўжды.

## ЧОРНЫ ШАЛЬ

*Памяці ЖЭНІ*

У вечнасць твая дамавіна плыла,
Нібыта па Ясельдзе човен.
Біў мне па вачах рэзкі колер святла:
Зялёны... барвовы... і ...чорны.

І сэрца сціскаў той пранізлівы жаль,
Які нават слёзы не лечаць.
Здавалася,
чорны агромністы шаль
Упаў Беларусі на плечы.

У кут, дзе так многа няпраўды і зла,
Дзе мова і воля забраны,
Сатканая з веры, любові прыйшла
Ты позна, а, можа, зарана.

Але ты была і ўсміхаешся мне
Пяшчотай балючай жывая.

Зязюлька палеская,
чуеш ці не?
Сяброўка твая зноў кувае.

Кувае і змоўкне раптоўна пасля,
Так будзе,
і я не пярэчу.
Спрадвечная маці-сырая зямля
З табой абяцае сустрэчу...

За чоўнам маркотным сціраецца след,
Ад смерці не знойдзеш замовы...
Ды шэпт скаланае дагэтуль Сусвет,
Я чую матуліны словы:
"Жэня, Жэнечка, што ж ты нарабіла?
Навошта ты мне падарыла
гэты чорны шаль?
Ты ж мне заўсёды прывозіла
вясёлыя хусткі.
Як я яго ненавіджу, як ненавіджу...
О, гэта чэрань чорная!
Навошта ты, доню, гэта зрабіла?..."

## СВІННІ НА МОГІЛКАХ

У месцах тых, дзе панаваць павінны
Спакой і смутак
вечнае мяжы,
На ўрослыя грудкі залазяць свінні
І чухаюць азадкі аб крыжы.

Нажэрціся — у іх адзіны клопат,
Ім усё роўна, дзе шукаць харчы.
Лычастых далакопаў простым плотам
Ад шкоды можа людства ўберагчы.

І сыдуць неразумныя нябогі,
Калі прыкрыкне гаспадар: "Аюсь!"
А хто прагоніць тых свіней двуногіх,
Што нішчаць і дратуюць Беларусь?

Жывём дагэтуль з галавой пахілай,
І замыкаецца ганебны круг,
Якім нахабна па Айчыне мілай
Капыцяць статкі ўкормленых зладзюг.

Заходзіцца душа, нямее сэрца
Пад гэтым страшным знакам адкрыцця:
Калі няма павагі ў нас да Смерці,
Адкуль павага будзе да Жыцця?

## ПЕРШЫЯ СУНІЦЫ

Вясной паляны пачыналі сніцца,
Хацелася туды прыспешыць крок,
Дзе на прыпёку першыя суніцы
Паказваюць ружовенькі бачок.

Выбліскваў хуткі позірк з-пад хусцінкі,
А потым зноў хіліўся да зямлі.
Такія, як зярняткі-залацінкі,
Іскрынкі у тваіх вачах цвілі.

І сэрца калацілася ўтрапёна,
Калі раптоўна ў маладой цішы
Сыходзіліся з мілагучным звонам
Няпоўныя да верху гладышы...

Хоць дзень яшчэ высокі, як званіца,
І сэрца не згубіла ўсіх надзей,
А ўсё-ткі тыя першыя суніцы
Былі нашмат за спелых саладзей.



*Тыповы краявід вострава*



*Так ловяць крабаў*



*У порце*

*Фота аўтара*

# «...І НІХТО НІЧОГА НЕ СКАЗАЎ»

Уладзімір МЕХАЎ

## 1.

Так атрымалася, што фільм "Спіс Шындлера" я глядзеў першы раз сёлета ў Нью-Йорку. Гэты магутны мастацкі абвінаваўчы акт нацызму, найуражлівы наламін пра трагедыю еўрапейскага яўрэйства ў пару другой сусветнай вайны, шырока вядомы цяпер паўсюль у свеце, ужо ці не з год не сыходзіў на той дзень з кінаэкранаў Амерыкі. Але ў трэцеразрадным, не самым куслівым коштам білетаў, хоць і недалёкім ад крыклівараскошнага багацея Брадвея, кінатэатры немалая зала, у якой фільм дэманстраваўся, была аншлагава запоўнена гледачамі. І што я сабе не мог не зазначыць — люд той быў самы рознапляменны. Шукаючы перад пачаткам сеанса нашы месцы, жончына, маё і сваяка, які ў кінатэатр нас прывёў і потым нашэптваў нам пераклад таго, што з экрана гучала, цікуючы, калі сеў, па баках — трапіў жа ў сцены амерыканскага кінатэатра! — я бачыў твары белыя і чорныя, англасакскага і япона-кітайскага тыпу, семіцкія і ўсходнеакіянійскія. Учыненае ідэалогіяй і практыкай нацызму над старажытным, са складаным лёсам народам, учыненае ў сярэдзіне дваццатага стагоддзя, у эру, калі чалавецтва, думалася, узышло на вяршыні цывілізацыі і духоўнасці, не перастае і на ўсё большай аддаленасці ад той чорнай пары быць скрухай і болем як самога гэтага народа, так і народаў, поруч з якімі ён, раскіданы па кантынентах, тысячагоддзямі жыве.

Тыднем пазней мы пабывалі ў Вашынгтоне і там убачылі такое ж у сэрцасціскальным музеі Халакоста. Даўжэзная чарга (прытым, што чэргі для Амерыкі надзвычайная рэдкасць) стаяла перад яго гмахам на вуліцы. За ўваход у музеі ў Амерыцы плата не бярэцца, не плацяць наведнікі і тут. Ды наплыў іх сюды настолькі вялікі, — падлічана, у пяць разоў большы, чым чакаўся, — што адміністрацыя змушана была ўвесці рэгуляванне гэтай плыні: пускаць у музей па білетах. Бясплатных, але набытых загадзя. З пазначэннем дня і гадзіны прыходу. Чарга — гэта па білеты.

Кожны крок па экспазіцыйных залах, пераходах, паверхах гэтага вялікаснага, адмыслова задуманага мемарыяла — крок па кругах Дантавага пекла. Жудасным крыкам крычыць усё тут сабранае, сістэматызаванае, узноўленае. Пра цынічную крывавую расправу Гітлера, ледзь толькі планіда ўскінула яго ў дзяржаве на ўладны алімп, з палітычнымі апанентамі, проціборцамі, з патэнцыяльнымі канкурэнтамі ў вярхах уласнай партыі. Пра звярынае вынішчэнне селекцыянерамі са службаў усталявання ў трэцім рэйху новага парадку супляменнікаў з парушэннямі псіхікі, з гомасексуальнымі схільнасцямі, хранічна хворых нямецкіх дзяцей, — пад лозугам змагання, зразумела, за здароўе найвышэйшай арыйскай расы. Пра планавую асуджанасць на гібель мільёнаў савецкіх ваеннапалонных — ад голаду, холаду, непасільнай працы, нялюдскага абыходжання, эксперыментаў катаў, што лічыліся даследчыкамі-медыкамі. Пра будучыню рабоў, якая рыхтавалася для славянства, і карныя акцыі з агнём, шыбеніцамі, расстрэламі закладнікаў там, дзе на такую долю жыхарства акупаваных тэрыторый не згаджалася, — вогненныя вёскі Беларусі таксама на стэндах з фатаграфіямі і на тэлевізійных маніторах. Але найперш экспазіцыя ўсё-такі роспачны аповяд пра Катастрофу — пакутную гвалтоўную смерць за гетаўскім дротам, у канцлагерах, у тысячах вялікіх і малых Бабіных Яроў, Панараў, Трасцянцоў шасці мільёнаў яўрэяў, блізка як паловы колькасці гэтага этнасу на планеце перад той вайной. Паколькі "канчатковае вырашэнне яўрэйскага пытання" было ці не зыходным пунктам цэмрашальнай гітлераўскай праграмы нацызацыі, "арыізацыі" свету.

Дык, зноў-такі, і ў чарзе перад музеем, і ў сцішанай шматлюднасці ў ягоных сценах яўрэйскія твары хіба што трапляліся сярод твараў выразна неяўрэйскіх — колерам скуры, разрэзам вачэй, рысамі. І было гэта дорага, без слоў гаварыла пра высокае.

Аднак жа на памяці з нядаўна бачанага за рубяжом і іншае. У Парыжы ў кварталах, якія традыцыйна лічацца і называюцца яўрэйскімі, хоць заселены былі пераважна яўрэямі ў сівую даўніну, а цяпер таго няма, — што купна тут сінагогі, яўрэйскія школа, рэстаран, кнігарні, крамы рэчаў рытуальнага ўжытку, то даніна традыцыі, — кінулася ў вочы відочна ўзмоцненае паліцэйскае патруляванне. У Берліне пры ўваходзе ў яўрэйскі культурны цэнтр у нас насцярожана ўгледзеліся два паліцэйскія з аўтаматамі і рацыямі, а ў вестыбюлі мы абмацаны былі, як усе, хто прыходзіць, кіем-свісцёлкай і павымалі з кішэняў ключы ды пфенігі, паказваючы, што пасвіствае кій, рэагуючы на іх і на спражку рэменя — не на гранаты ці пісталеты, схаваныя ў адзенні.

Меры засцярогі тут лагічныя. На сёлетнія тыдні нашы ў Германіі і Францыі над светам яшчэ кацілася водгулле выбуху з дзесяткамі ахвяр у ізраільскім асветным асяродку ў сталіцы Аргенціны. У газетах скрозь першапалоснай заставалася ўвага да схопленага ў Хартуме і пасаджанага ў парыжскую турму буйнейшага палесцінскага тэрарыста венесуэльскага паходжання і маскоўскай потым вывучкі — хаўруснікі ў помслівым шале маглі вытварыць богведама што. Меры засцярогі тут, паўтараю, зразумелыя. Ды што іх трэба прымаць — засмучае.

## 2.

Толькі ж яшчэ больш засмучае,што па суседстве з намі, у "старэйшага брата" беларусаў, як прапагандысцкім штампам гады і гады ў нас высакамовілася, захадаў засцярогі з прычыны, што чорнае ўсё вышэй ўзнімае там галаву, не прымаецца ніякіх. Колькі ні б'е трывогу занепакоеная тым дэмакратычная грамадскасць.

У газеце "Известия" апублікавана была не так даўно заява групы дзеячаў культуры і навукі — яна падпісана і нашым Васілём Быкавым — пад рэзкай да болю назвай "Наша дэмакратыя слабая, рэформы цяжкія, а ў розумах — хаос".

"У прамове на Генеральнай асамблеі ААН прэзідэнт (Б.М.Ельцын. — **У.М.**) указаў на тое, што расізм і антысемітызм па-ранейшаму пагражаюць свету, — сярод важнага іншага гаворыцца ў заяве. — Але даводзіцца канстатаваць: на нашай Радзіме расізм і антысемітызм сапраўды перажываюць росквіт. Паводле мноства расісцкіх лозунгаў на гарадскіх сценах сталіца Расіі, падобна на тое, займае адно з першых месц у свеце. Ва ўмовах свабоды савецкі дзяржаўны антысемітызм сышоў на нішто. Але ўперад высунуўся антысемітызм "ідэйны", які нанава завёў сабе вучона-літаратурны рыштунак і займеў уласную прэсу..."

І далей з гаркотай:

"Сёння агульнавядома: органы юстыцыі, як правіла, патураюць камуна-нацыяналістычнай апазіцыі..."

Патураюць, маецца на ўвазе, палахлівай пасіўнасцю ў барацьбе з названай брыдотай, няўменнем і нежаданнем аператыўна рэагаваць на яе выявы, знаходзіць і сурова караць злачынцаў.

У шэрагу ганебных для Расіі прыкрасцей з мярзотным гэтым пахам бачыцца мне і ўварванне ў Маскве крымінальнай свалаты ў кватэру найпаважанага ў тэатральным асяроддзі чалавека, славутага рэжысёра Леаніда Хейфеца. Уварванне і душэнне шасцідзесяцігадовага гаспадара кватэры, пагроза прыкончыць яго зусім, калі папярэджання не ўлічыць і не знікне з Цэнтральнага тэатра расійскай арміі, мастацкае кіраўніцтва якім узначальвае. Ясна, што натхніцелямі-наймальнікамі свалаты з кулакамі былі крымінальнікі, гэтак мовіць, інтэлектуальныя, з катэгорыі творцаў вучона-літаратурнага шавіністычнага рыштунку пагромшчыкаў, успомненага ў цытаванай са старонак "Известий" заяве.

У вачах маіх Лёня Хейфец малады. Час бяжыць стрымгалоў, і ў Мінску, у Беларусі не ўсе, каму блізкія інтарэсы тэатральнага жыцця, думаю, ведаюць сёння, што гэты мэтр рэжысуры, народны артыст Расіі, лаўрэат яе Дзяржаўнай прэміі, аўтарытэтны настаўнік акцёрскай і рэжысёрскай змены, у малалецтве і юнацтве быў мінчанінам, закончыў Беларускі політэхнічны інстытут, працаваў інжынерам на мінскім веласіпедным заводзе. Апантанасць сцэнай зноў зрабіла яго студэнтам — маскоўскай тэатральнай вучэльні, дзе цяпер ён прафесарам, — і, помню, маці ягоная, тады бібліятэкарка ў адным з мінскіх выдавецтваў, са слязьмі схапіла мяне ў калідоры нашага Дома друку за руку: маўляў, што сабе сын думае! Яна ж гадавала яго адна, муж загінуў у вайну на фронце. Спадзявалася, што нарэшце, як стаў ён інжынерам, зажывуць удваіх больш-менш нармальна, не на адзін жабрачы яе заробак. А ён надумаў вунь што. І на якія грошы ў Маскве мяркуе жыць — яна ж памагаць не ў стане. Да ўсяго, гэта ж надта ненадзейнае ў жыцці — акцёрства, рэжысёрства.

Сын стаў знакамітым, стаў слушным яе гонарам, і вось пры ёй, старэнькай маці, падонкі яго білі. Няхай хваляй абурэння адгукнуўся свет, няхай званілі назаўтра, выказвалі сыну спачуванне міністры, бажыліся, што выкрыюць, зловяць, пакараюць вырадкаў, — ад жаху, што **такое** ў наш час мажліва, яна ўжо не пазбавіцца...

Летась увосень, у дні, калі Беларусь схіліла ў журбе галаву, адзначаючы паўвекавыя ўгодкі ліквідацыі створанага гітлераўцамі ў акупаваным Мінску гета, знішчэння рэшты нявольнікаў, што там яшчэ заставаліся, тагачасны старшыня нашага парламента Станіслаў Шушкевіч, першая тады асоба ў дзяржаве, у прамове на жалобным пасяджэнні заявіў, што на зямлі Беларусі ніколі не будзе дыскрымінацыі хоць каго з прычыны нацыянальнасці, пагатоў чаго-небудзь падобнага да фашысцкага нелюдства. У кіраўнічым версе краіны адбыліся змены, першая асоба ў Беларусі цяпер прэзідэнт, ды верыцца — дэклараванае кіраўніцтвам ранейшым сілы не страціла, застаецца нязрушным. Балюча ўдарыла таму па сэрцы прачытанае, што на мітынгу ў Мінску 6 лістапада гэтага года, на мітынгу пад чырвонымі камуністычнымі сцягамі, дзе лексікай самай нецырымоннай клеймаваліся БНФ і ЦРУ, улада і бізнесмены, у натоўпе стаялі і малойчыкі са свастыкай на рукавах. З размовамі са свастыкай суладнымі. І ніхто не ўгневаўся, не запратэставаў, не схапіў паганцаў за каршэнь — ні мітынганты, ні міліцыя, ні наглядальнікі са структур, што далі на мітынг дазвол.

Раўняемся, падцягваемся і ў гэтым да Масквы?..

## 3.

Усё, што тут сказаў, узнялося-разварушылася ў галаве, зачапілася факт да факта, думка да думкі, калі захацелася напісаць колькі радкоў пра фільм "Яўрэйка і гаўптман", які бачыў нядаўна ў Германіі. Тэлевізійны дакументальны, працягам на гадзіну фільм рэжысёра Ульфа фон Мехава — аўтару таго, што вы чытаеце, не сваяка, супадзенне прозвішчаў выпадковае.

Гісторыя, якая ў фільме сюжэтным стрыжнем, ужо неаднойчы прыцягвала ўвагу творчай браціі. Яна ў аснове аповесці Іосіфа Герасімава "Уцёкі". Запісаныя журналістамі сведчанні яе дзейных асоб колькі разоў сустракаў і ў нашай, і ў зарубежнай прэсе.

Што і казаць, ён уражвае, гэты сюжэт. Афіцэр вермахта, ваенны будаўнік, пастаўлены ў занятым немцамі Мінску кіраваць работамі на адным з аб'ектаў адбудовы, пакахаў дзяўчыну, якую прыводзілі працаваць на аб'ект у падканвойнай калоне з гета. Яго звалі Вілі Шульц, яе — Ільза Штайн. У Мінск яе прывезлі з-пад Франкфурта-на-Майне ў транспарце гаротнікаў, дэпартаваных сюды ў зондэргета — спецыяльнае гета, загон для яўрэяў з краін Заходняй Еўропы, выгараджаны тут на тэрыторыі зняволення яўрэяў-"тубыльцаў". Рэжысёр Ульф фон Мехаў — я пазнаёміўся з ім, калі ён пару гадоў таму быў у Мінску, здымаў, — з-пад Франкфурта і сам, здаецца, з той жа вёскі, адкуль Ільза, і ў ягонай цікавасці да незвычайнага яе лёсу, апроч іншага, быў грунт зямляцкі.

Непрыдуманы эпізод са змрочнай явы — проста шэкспіраўская фабула. Наважыўшы абавязкова выратаваць каханую, вырваць яе ў немінуча наканаванага, Шульц пайшоў на нечуванае для афіцэра са стану акупантаў: вывез на грузавіку Ільзу, яе сясцёр, яшчэ больш за дваццаць гетаўскіх смертнікаў да партызан. Рызыкуючы, зразумела, пры няўдачы задуманага быць зганьбаваным вермахтаўскім трыбуналам і расстраляным. Шэсць месяцаў жылі яны абое, Ільза і ён, у лясным партызанскім прытулішчы, жылі як жонка і муж, потым перапраўлены былі самалётам у Маскву і там разлучаны. Яго пасля допытаў на Лубянцы накіравалі ў падмаскоўны лагер, дзе гуртавалі палонных нямецкіх вайскоўцаў, што варожа былі настроены да рэжыму на радзіме і не баяліся падтрымаць утвораны ў СССР пасля Сталінграда антыфашысцкі камітэт "Свабодная Германія", — тут ён, паводле афіцыйных дакументаў, і памёр у сорак пятым ад менінгіту. Яе адправілі распачынаць новае жыццё ў Бірабіджан, дзе было ёй спачатку і самотна, і тужліва, і галадна, аднак дзе маладое, долетворнае сваё ўсё-такі ўзяло: сустрэла харошага хлопца, у сваім зялёным юнацтве таксама ўцекача ад фашысцкага зла, толькі з Польшчы, на час жа сустрэчы з ёю дэмабілізаванага франтавіка, сталі яны сям'ёй, перабраліся ў Свярдлоўск, пазней у Растоў-на-Доне, выгадавалі дзяцей, дачакаліся ўнукаў. Замінулай вясной, калі фільм ужо быў зняты і манціраваўся, яго гераіня памерла.

Паўтару, гісторыя гэтая расказвалася-пераказвалася друкаваным словам. Але не помніцца, каб дзе была яна даследавана так скрупулёзна, з такім шырокім ахопам следчага матэрыялу, як у названым фільме. Узнаўляючы перыпетыі драмы, у якую заглыбіліся, яго стваральнікі прыводзяць гледача ў Мінск і Маскву, Растоў і Бірабіджан, у нямецкае сховішча армейскіх дакументаў часу Гітлера і ў расійскае сховішча колісь звышсакрэтных кадэбоўскіх дасье часу Сталіна. На экране вяртаюцца ў перажытае, у акалічнасці здзейсненай Шульцам праведніцкай аперацыі выхапленыя ім з рук забойцаў людзі. На экране спавядаецца — і споведзь яе ці не самае ўзрушлівае ў стужцы — Ільза Штайн.

Што значыць родная мова! Пражыўшы ў Расіі з маладосці да ўзросту, калі ўнучка падрасла бабулі па плячо, Ільза так і засталася ў рускай гаворцы несвабоднай, — яна прыязджала ў Мінск, я чуў яе, гутарыў з ёю. Роднай жыла ў ёй мова нямецкая. І калі перад кінакамерай распавядае яна сваю адысею па-нямецку, бачым яе нескаванай, нязмушанай, журботна-шчырай.

Канкрэтна-сюжэтнае разгортваецца ў фільме на падзейным фоне шырэйшага, агульна-гістарычнага вымярэння. Лакальная навела перарастае ў панарамную, маштабнага гучання аповесць. На добры лад, карціну, бясспрэчна, павінна было б набыць тэлебачанне Беларусі. Ды не надта ў пашане ў нашых тэлевізійнікаў яе тэма. Два гады назад рэспубліканскім відэацэнтрам быў зняты эмацыянальны нарыс "Кадыш" — пра мінскае гета, пра тое, як былыя вязні адзначалі ўгодкі аднаго з самых страшных пагромаў. То не ўзяты быў ён для паказу ні тэлебачаннем, ні кінапракатам. Наколькі ведаю, фільм бачаць толькі групы, якія наязджаюць у Мінск з Германіі, — турысцкія, студэнцкія, рознаканфесіянальныя царкоўныя.

Цяперашняя Германія, вядома, шматаблічныя. Але, да гонару яе, у народзе тут моцны рух ачышчальнага пакаяння за нацысцкае мінулае бацькаўшчыны, за тое, што словы "немец" і "фашыст" доўга ўспрымаліся шырока ў свеце як блізказначныя.

## 4.

У вашынгтонскім музеі Халакоста пад фінал абходу аглушальнай яго экспазіцыі на сцяне вялікімі бронзавымі літарамі як біблейска-прытчавае з напісанага антыфашыстам з сусветным імем, пратэстанцкім тэолагам Марцінам Німюлерам:

"Спачатку яны прыйшлі па сацыялістаў. Я нічога не сказаў, бо я не быў сацыялістам.

Потым яны прыйшлі па прафсаюзных дзеячаў. Я нічога не сказаў, бо я не быў прафсаюзным дзеячам.

Потым яны прыйшлі па яўрэяў. Я нічога не сказаў, бо я не быў яўрэем.

Потым яны прыйшлі па мяне — і ніхто нічога не сказаў..."

Сёння яно вельмі для нас актуальнае, гэтае мудрае папярэджанне.

# ПАЧЫНАЛАСЯ З «БЕЛАРУСКАГА ПІЯНЕРА»

## Часопісу «Бярозка» — 70

**"Бярозкай" сёння папулярны часопіс стаў з чэрвеня 1945 года, а спачатку ён называўся "Беларускі піянер" і з'яўляўся на той час органам ЦК ЛКСМБ і Наркамасветы БССР. Упершыню прыйшоў да юных чытачоў у снежні 1924 года.**

**Выходзіў і дадатак да часопіса. Першы яго выпуск цікавы і тым, што там былі змешчаны дзве песні кампазітара М. Равенскага, які, як вядома, у канцы вайны эмігрыраваў і ў 1953 годзе памёр ад раку ў бельгійскім горадзе Лювене. Песні напісаны на вершы "Моладзь" М. Чарота і "На прасторах сініх" У. Дубоўкі. З вышыні сённяшняга дня вершы занадта грымотныя, патрыятычна-траскучыя, але тады, пэўна, яны і не маглі быць іншымі:**

Хто тварэц жыцця людскога,
Волі, шчасця, пекнаты?
Хто кладзе к жыццю дарогу?
Ведай, моладзь, гэта — ты!

**(М. Чарот)**

Тут Базыль, Грыгор, Пятрусь,
Канцавога Павал.
Маладая Беларусь
ўсіх сыноў прыслала —

**так гаварыў пра беларускіх піянераў У. Дубоўка.**

**Увогуле піянерская тэматыка заняла ў часопісе ці не вядучае месца. Гэта тычылася і вершаў, апавяданняў. Нават К. Чорны ("Юзік і Рыгорка") расказваў, як дзеці марацъ стаць піянерамі. Але "Беларускі піянер" (з 1929 года ён пачаў называцца "Іскры Ільіча"), на шчасце, выходзіў за межы таго абавязковага, чаго патрабавалі ад аналагічных выданняў улады. Поруч з палітычнай інфармацыяй, расказамі пра дасягненні сацыялізму прысутнічала і жывое паўсядзённае жыццё.**

**Аўтарамі часопіса з'яўляліся не толькі старэйшыя пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля... Ахвотна пісала і літаратурная моладзь. "Беларускі піянер" адкрыў Я. Маўра, з сваімі многімі творамі ў ім выступілі С. Шушкевіч, А. Пальчэўскі, Э. Агняцвет, А. Александровіч, М. Калачынскі і іншыя. З "Беларускім піянерам" звязана станаўленне як дзіцячага пісьменніка А. Якімовіча.**

**Рыхтуючы дзяцей да самастойнага жыцця, часопіс даваў ім і розныя практычныя парады. У першым жа нумары П. Герман раіў "Як зрабіць лыжы". Тут жа змяшчаліся малюнкі. А каб прывабіць будучых "канструктараў", друкаваўся і немудроны вершык:**

Ах вы, лыжы мае,
вараныя коні.
Размахнуся на снягу —
вецер не абгоніць.

**Той жа П. Герман у наступных нумарах вучыў, "як карыстацца лыжамі і як на іх ездзіць", "як пераплятаць кнігі", "як трэба мыцца", "як зрабіць шпакоўню..."**

**Не лішнімі былі ў "Беларускім піянеры" і матэрыялы, што тычыліся нацыянальнай гісторыі. Праўда, на агульным фоне іх не так і шмат. Але, напрыклад, артыкул таго ж А. Якімовіча "Францыск Скарына — першы беларускі вучоны і друкар" напісаны згодна гістарычнай праўдзе: "... і яшчэ заслуга Ф. Скарыны ў тым, што праз яго пачала шырыцца друкарская справа і на ўсход, у Маскоўшчыну. Яго кніжка "Апостал", надрукаваная у г. Вільні, была першая, якая з'явілася не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і на ўсім Усходзе".**

**Безумоўна, у сённяшняй "Бярозкі" з'явілася шмат новых тэм. Але адраджэнская, бадай, на першым месцы. І гэта яшчэ адно пацвярджэнне таго, што часопіс нарэшце стаў не палітызаваным, як гэта было доўгі час, а і на самай справе служыць высакароднай справе выхавання юных грамадзян Бацькаўшчыны. Цяпер — грамадзян суверэннай Рэспублікі Беларусь.**

**А. М.**

# ГЭТА НАША КАНСТЫТУЦЫЯ

**Выдавецтва "Беларусь" ажыццявіла афіцыйнае выданне тэксту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай, як вядома, на трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання 15 сакавіка 1994 года. Тэкст пададзены ў арыгінале, на дзяржаўнай мове нашай дзяржавы, а таксама ў перакладзе на рускую, англійскую, французскую, нямецкую.**

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

# ЗАПРАШЭННЕ ДА ПАДАРОЖЖА

У той час, калі гучалі заклікі да Адраджэння, у нашай культуры сціпла працавалі дзесяткі энтузіястаў. Яны не прэтэндавалі на ўзнагароду за сваю карпатлівую, часта чорную працу, а проста любілі яе, як любіць селянін сваю ніву. У сына вёскі, паэта і вучонага Кастуся Цвіркі гэта любоў натуральная і зямная. Яна ўзнікла яшчэ тады, калі малады паэт у пару свайго студэнцтва і аспіранцтва адчуў: "на запусцелым дзірване роднай Беларусі" адбылося мноства падзей, значэнне якіх выходзіць за нацыянальныя межы. Для саміх жа беларусаў гэтыя падзеі, з'явы, гістарычныя постаці маюць статус абсалютных каштоўнасцей, без якіх яны ўжо не яны, а нехта іншы. Так, той іншы, хто ведае пра подзвігі Дзмітрыя Данскога, але нічога не чуў пра Міхала Глінскага і Канстанціна Астрожскага, хто захапляецца палкаводчым талентам Аляксандра Суворава, а Тадэвуша Касцюшку лічыць героем польскага вызваленчага руху. Ён на ўсё сваё жыццё запомніў яркае ленінскае выслоўе, што дзекабрысты разбудзілі Герцэна, Герцэн разбудзіў рэвалюцыянераў-дэмакратаў, а ім на змену прыйшлі бальшавікі. Аднак тое, што ў беларусаў была свая лінія гістарычнага развіцця і свае ўласныя героі, для тутэйшага чалавека з'яўляецца вялікай навіной. Менавіта гэтага чалавека і запрашае ў падарожжа ў пачатак мінулага стагоддзя аўтар кнігі "Лісце забытых алеяў".

Да гэтай кнігі К. Цвірка ішоў многія гады: пошукавая праца вымагае часу і вялікай цярплівасці. Пачыналася гэта праца з трывіяльнага выбару аспірантам тэмы будучай кандыдацкай дысертацыі. Звычайна, калі выбар робіцца па любові, нагадваючы тым самым шчаслівы шлюб, лёс даследчыка прадвызначаны на ўсё яго жыццё. Як паэт-традыцыяналіст, К. Цвірка заўсёды з асаблівай увагай адносіўся да фальклорнага пачатку ў нашай літаратуры. Вось чаму яго прыцягнула да сябе постаць Яна Чачота, паэта, блізкага яму па духу. Падрабязная гісторыя дачыненняў аўтара і героя пад назваю "Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду..." адкрывае кнігу. У ёй чытач убачыць, як пачынаўся пошук і як пашыраліся яго абсягі, калі ў працэс даследавання ўцягваўся ўсё новы і новы матэрыял, новыя і новыя гістарычныя асобы. На нашых вачах нараджаецца кніга пра філаматаў, філарэтаў, шубраўцаў, з якіх і пачалося наша другое беларускае Адраджэнне. Менавіта Ян Чачот, Тамаш Зан, Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, іх сябры і аднадумцы стаялі ля вытокаў новай беларускай літаратуры. Выкарыстоўваючы вядомае выслоўе, можна смела сказаць, што філаматы разбудзілі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, а ён, у сваю чаргу, разбудзіў вялікіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў Францішка Багушэвіча, Янку Купалу, і нарэшце лінія нацыянальна-культурнага развіцця набыла сваю паслядоўнасць і неперарывістасць.

У апублікаваных на старонках кнігі матэрыялах пра Яна Чачота, Тамаша Зана, Адама Міцкевіча, Паўлюка Багрыма, Уладзіслава Сыракомлю, Францішка Багушэвіча, Янку Купалу ўвесь час моцна адчуваецца прысутнасць асобы аўтара. Але пра самога сябе, пра свае пошукі, прыгоды ў дарозе, сустрэчы з людзьмі, звычайнымі, выпадковымі, нярэдка безыменнымі, з мясцовымі краязнаўцамі, з вядомымі даследчыкамі мінулай эпохі, ён апавядае з добрай доляй гумару, змякчаючы вастрыню ўражанняў з дапамогай іроніі і ўсмешкі. Калі што і вылучае яго з шэрагу іншых, дык гэта мэтанакіраванасць пошуку, выразнасць пастаўленай перад сабою задачы і страснае жаданне яе вырашыць. А задача гэта адна і тая ж: як мага больш даведацца пра жыццё і творчасць названых беларускіх пісьменнікаў, выкарыстаць усемагчымыя матэрыялы, архіўныя, літаратурныя, мемуарныя, бо, як ні дзіўна, жывуць яшчэ сведкі многіх і многіх падзей нашае мінуўшчыны, жыве людская памяць, перадаючы, як па ланцугу, ад пакалення да пакалення ("з дзедаў на ўнукаў, з бацькоў на дзяцей"), тыя каштоўныя звесткі аб былой славе, якія сучаснікі і нашчадкі не змаглі ацаніць як належыць. Такіх нечаканых сустрэч, адкрыццяў у эсэ К. Цвіркі вельмі многа. Вось адна з іх, магчыма, найбольш паказальная.

Шукаючы ўрочышча Кут, дзе, паводле звестак, павінен быў ляжаць камень філарэтаў, ля якога апошнія любілі наладжваць свае сходкі, вандроўнікі напаткалі вясковую кабету і на ўсякі выпадак папыталі ў яе дарогу.

"Яна перапытала:

— Туды, дзе камень філярэтаў?

— Ага, туды, — здзівіўся я такой здагадлівасці. — Але чаму вы думаеце, што нам трэба якраз гэты камень?

— Ды многія ж туды едуць... Да каменя...

Мы папыталіся ў жанчыны, чаму ён так называецца, той камень.

— Ды калісь нейкія філярэты збіраліся там на маёўкі... А што гэта былі за яны, дык я і не ведаю..."

Значыць, памяць пра многія выдатныя падзеі, хаця і вельмі цьмяная, жыве ў народзе. Значыць, ёсць надзея, што народ гэты нарэшце ачнецца ад векавечнага сну, азірнецца навокал і зацікавіцца ўсім, што было некалі на яго зямлі. І гэта надзея спраўджваецца ўжо на старонках кнігі, дзе мы сустракаем не толькі абыякавых да продкаў і да сябе саміх "тутэйшых" і тых, каго Купала называў "ворагамі беларушчыны", аднак ужо і свядомых аматараў беларускага прыгожага пісьменства, нашай слаўнай мінуўшчыны, энтузіястаў-шукальнікаў, актыўных рушэнцаў цяперашняга працэсу Адраджэння. Яны, як следапыты-павадыры, вядуць аўтара і яго сяброў да тых мясцін, пра якія калі што і засталося ў гісторыі, дык хіба толькі слабы след у творах нашых пачынальнікаў. Не заўсёды пошук суправаджаецца ўдачай: многае за два стагоддзі знікла ў смузе вечнасці, памерла сваёй натуральнай смерцю, але як часта гэта адбывалася з дапамогаю саміх жа насельнікаў беларускага краю. Аўтара чалавечае нядбальства — як несвядомае, так і агрэсіўна актыўнае — вельмі засмучае, і яго думкі "на палях" убачанага зазвычай цікавыя і ўражлівыя.

Як ні згадзіцца, напрыклад, з важнай высновай К. Цвіркі, што польскамоўныя пісьменнікі Беларусі першай паловы XIX стагоддзя вымагаюць да сябе больш паважлівых адносін, чым гэта звычайна робіцца. Так, яны падрыхтавалі глебу пад нараджэнне новай беларускай літаратуры, пасеялі першае зерне нацыянальнага абуджэння. Пра гэта мы чулі, ведаем. Але чаму тады ігнаруем творчасць гэтых пісьменнікаў, гаворачы пра мінулае стагоддзе, а калі гаворым, то выключна пра іх спачуванне беларускай справе, любоў да фальклору? Вядома, сказана, напісана, надрукавана многае, але ці ўсё і ці самае важнае? Жыццё і творчасць польскамоўных, як і лацінскамоўных, пісьменнікаў на Беларусі (і тут трэба пагадзіцца з аўтарам кнігі) — "наша жывая гісторыя". З яго дапамогаю чытач уваходзіць у мінулае стагоддзе з адчуваннем сваёй жывой прысутнасці, быццам усё паўтараецца зноўку, з разуменнем, якім багатым і разнастайным было грамадскае і літаратурнае жыццё ў тыя паўзабытыя часіны, калі жылі нашы дзяды і прадзеды. Многія сувязі абарваны, звязаць іх нанова можна толькі з дапамогай даследчыцкай інтуіцыі. Менавіта гэта і робіць К. Цвірка, узнаўляючы, кажучы словамі класіка, "жывыя звенні, якіх вякі не перарвалі у гістарычным перавале". Вось толькі адзін з многіх прыкладаў такога ўзнаўлення, калі веды дапамагаюць паэтычнаму чуццю, а вобразнае мысленне прыходзіць на дапамогу свядома пастаўленай задачы.

Крашынская драма, у выніку якой малады паэт Паўлюк Багрым быў здадзены ў салдаты, працяглы час успрымалася як падзея мясцовага значэння. Даследчык паступова падводзіць нас да вываду, што ў гэтай падзеі сканцэнтраваны такі вялікі сэнс, які адгукаецца ў стагоддзях. Пэўных звестак аб тым, што філаматы чулі ці ведалі хоць нешта пра таленавітага хлопца з Крашына, не захавалася. Аднак відавочна, што дзейнасць філаматаў у напрамку абуджэння духоўнага жыцця ў краі мела сваім наступствам нараджэнне цягі таленавітай моладзі да мастацкай творчасці. Можа, таму такой неадэкватнай маштабу з'явы і была рэакцыя ўладаў, што яна хацела задушыць беларускі рух у самым зародку. Перабольшанне? Здаецца, не. У Крашыне ў свой час бывалі Ігнат Дамейка з Антоніем Адынцом. Яны наведалі ў час свайго візіту магілу бабкі Юрага з Радзівілаў. Пры шлюбе дачкі Юрагаў Тэафілі з князем Яўгеніем Завадскім адным са сведкаў быў Тамаш Зан, а таксама Канстанцін Радзівіл і Гектар Анджэй Прушынскі. Адсюль лініі асабістых сувязей вядуць у розныя бакі — у мінулае, калі Канстанцін Радзівіл вёў у Вільні перамовы з дзекабрыстам Аляксандрам Бястужавым, і ў будучыню, бо не так багата на Беларусі Прушынскіх, каб адмаўляць іх магчымую сувязь з выдатным паэтам Алесем Гаруном — Аляксандрам Уладзіміравічам Прушынскім. Што да самога Паўлюка Багрыма, то яго ведаў Адам Храптовіч, які асабіста ўдзельнічаў у следстве з нагоды крашынскага бунту і ў маёнтку якога ў Шчорсах знаходзілі прытулак філаматы Адам Міцкевіч, Францішак Малеўскі, Юзаф Яжоўскі, Тамаш Зан і іншыя. У яго бібліятэцы працаваў пасля вяртання з уральскай ссылкі Ян Чачот. Дык чаму не ўявіць вельмі верагодны расказ Адама Храптовіча сваім сябрам пра лёс крашынскага паэта? Рэха крашынскіх падзей даходзіць ажно да сярэдзіны XX стагоддзя, бо яшчэ нядаўна даследчыкі размаўлялі з людзьмі, якія апавядалі пра "сшытак багрымаўскіх вершаў": творы паэта чыталі ў 1941 годзе вельмі многія жывыя сведкі. Што гэта — рэальны факт ці паэтычная легенда? Варта згадзіцца з аўтарам кнігі, што яна павінна прыцягнуць увагу літаратуразнаўцаў. А гэта ж толькі адзін з шэрагу выпадкаў, значэнне якіх выходзіць далёка за межы звычайнай падзеі, пабытавай з'явы!

Такіх зваротаў да сучаснікаў, да ўсіх свядомых беларусаў вельмі многа ў кнізе. Амаль на кожным кроку ў сваім падарожжы па прасторы і часе К. Цвірка сустракае прагалы ў нашай гістарычнай памяці. Знаходзіцца на тэрыторыі станкабудаўнічага завода ў Маладзечне будынак былой настаўніцкай семінарыі, а на мемарыяльнай дошцы значацца прозвішчы вядомых і малавядомых рэвалюцыянераў. Затое адсутнічаюць слаўныя імёны спевака Міхала Забэйды-Суміцкага, драматурга Касьяна Вясёлага, усходнезнаўцы Антона Мухлінскага, прафесара Аляксандра Тышынскага, паэта Канстанціна Вераніцына, вучоных М. Я. Нікіфароўскага і Ю. Ф. Крачкоўскага... Назіраючы шматлікія прыклады варварскага спусташэння і нядбальства, аўтар міжволі ўзгадвае словы ўкраінскага паэта Дзмітра Паўлычкі пра "адукаваных маголаў", арда якіх пракацілася па Беларусі, Украіне і Расіі ў сталінскія часы.

Закрываючы апошнюю старонку гэтай надзвычай цікавай кнігі, населенай мноствам выдатных нашых продкаў, пранікаешся адчуваннем: сочыцца, сочыцца з нашай нядаўняй мінуўшчыны святло вялікіх асветніцкіх ідэй, рассейваючы змрок усеагульнага забыцця і цямноты, абуджаючы ў душы надзею на блізкае адраджэнне роднага кутка.

**Міхась ТЫЧЫНА**

*Кастусь Цвірка. Лісце забытых алеяў. Эсэ. Мінск, "Мастацкая літаратура", 1993.*

# ЖЫЎ У СВАІМ ЧАСЕ

## ДА 95-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА

Дзень нараджэння Міхася Ціханавіча быў 30 лістапада. 95 гадоў — як быццам дата і не круглая, тым не менш... М. Лынькоў належаў да той кагорты пісьменнікаў, якія прыйшлі ў літаратуру на хвалі нацыянальнага Адраджэння дваццатых гадоў. Першыя апавяданні ён надрукаваў у 1926 годзе, а ў наступным ужо меў першую сваю кнігу "Апавяданні". Не прымусілі чакаць і два наступныя зборнікі — "Гой" (1929) і "Андрэй Лятун" (1930). Назву ім далі творы, якія даўно сталі хрэстаматыйнымі. Гэта тычыцца і іншых апавяданняў Міхася Ціханавіча, а таксама яго кніг для дзяцей "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў" (1937), "Міколка-паравоз", "Янка-парашутыст" (1937), якія пазней неаднойчы перавыдаваліся. А аповесць "Міколка-паравоз" была экранізавана ў 1957 годзе.

Працуючы з 1925-га па 1930-ы год у рэдакцыі тагачаснай бабруйскай акруговай газеты "Камуніст" (адказны сакратар рэдакцыі, намеснік рэдактара, рэдактар), М. Лынькоў вельмі шмат зрабіў па падтрымцы маладых літаратараў, быў арганізатарам і кіраўніком Бабруйскай філіі "Маладняка".

Затым з'яўляўся адным з кіраўнікоў БелАППа, сакратаром аргкамітэта па ўтварэнні Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўным рэдактарам часопіса "Полымя рэвалюцыі" (1933—1941). У гады вайны рэдагаваў франтавую газету "За Савецкую Беларусь", што выходзіла на Заходнім, Цэнтральным і Бранскім франтах. Пасля быў дырэктарам Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва Акадэміі навук Беларусі.

У 1962 годзе М. Лынькову было прысвоена званне народнага пісьменніка. У 1968 годзе за раман "Векапомныя дні" ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа.

Памёр Міхась Ціханавіч 21 верасня 1975 года.

Як і ўсе, ён жыў у сваім часе і гэты час не мог не накласці адбітку на яго творчасць, якая, безумоўна, з вышыні сённяшняга дня патрабуе пэўнай пераацэнкі. Гэта ў не меншай ступені тычыцца і галоўнага твора М. Лынькова — рамана-эпапеі "Векапомныя дні" (дарэчы, і сам аўтар у параўнанні з першапачатковым варыянтам у свой час значна скараціў раман, перапрацаваў). Беларуская проза пакрочыла далёка наперад, у тым ліку і ў асэнсаванні падзей мінулай вайны.

Але тое, што з'явілася з-пад пяра Міхася Ціханавіча Лынькова, гісторыя нашай літаратуры. Гісторыя ж патрабуе да сябе паважнага стаўлення.

# «РУПІЦЦА АБ ЭСТЭТЫЦЫ, «КРАСЕ» ТАГО, ШТО ІДЗЕ ДА ЛЮДЗЕЙ...»

## НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ГУТАРЫЦЬ З ДЫРЭКТАРАМ МУЗЕЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА АЛЕСЕМ БЯЛЯЦКІМ



***Імпульс да гэтага інтэрв'ю ўзнік на чыста эстэтычнай глебе: пасля наведвання музея Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесці. Уразіла аздоба экспазіцый, паэтычная манера правядзення экскурсіі. Усё гэта было і прыемна, і нечакана. Пра тое, як сталяваўся музей, якія людзі спрычыніліся да гэтай справы, якія перспектывы ў музейнай справы ўвогуле, і вырашыў распытаць у дырэктара музея, літаратуразнаўца і дзеяча Беларускай каталіцкай грамады Алеся БЯЛЯЦКАГА.***

**— Можа, крыху наіўнае пытанне, але — чаму ты ў свой час змяніў літаратуразнаўчую дзялянку на музейную, так бы мовіць, Слова на Рэч, чысты Дух — на візуальныя кляйноды Духу?..**

— Зараз столькі ўсяго выходзіць, што ты, Юрась, мабыць, проста не заўважаеш, што ўсё ж такі тое-сёе з літаратурных даследаванняў у мяне з'яўляецца. Так, летась у "Хрысціянскай думцы" ў другім нумары былі надрукаваны новыя вершы К.Каганца, якія, як падаецца, радыкальным чынам мяняюць уяўленне аб гэтым паэце, а ў "Родным слове" N 6 — артыкул пра Янку Юхнаўца, хіба што першы са спробай даць нейкі аналіз гэтага вялікага, не пабаюся такога слова, паэта, які жыве ў Нью-Йорку. Сёлета выйшла кніжка ягоных вершаў "Сны на чужыне" з маім укладаннем і прадмовай. Думаю, што да канца года з'явіцца яшчэ штосьці з ужо напісанага і здадзенага.

Хоць, пэўна ж, у нечым з табою нельга не пагадзіцца. Я не лічу сябе прафесіяналам у літаратуразнаўстве. Хутчэй даследчыкам-аматарам.(як у спорце), які мае такі-сякі густ і "нюх", але не мае дастаткова часу, каб сур'ёзна гэтым займацца.

Для літаратуразнаўства неабходны тры рэчы. Па-першае — **адчуванне** літаратуры. Гэта як музычны слых. У нас шмат людзей, якія бяруцца даследаваць літаратуру, а не маюць яго. Па-другое — грунтоўная тэарэтычная падрыхтоўка, прафесіяналізм, чаго ў нас амаль ніхто не мае, як не маю яе і я, нягледзячы на універсітэт і аспірантуру. І гэта зразумела, бо ў каго ж мы маглі вучыцца? Якія замежныя мовы ведаем? У якіх еўрапейскіх універсітэтах, вядомых літаратуразнаўчых школах праходзілі стажыроўку?..

Наша беларуская класічная школа літаратуразнаўства — гэта складовая частка савецкай (чытай — расійскай) школы, якая 50 гадоў, як на абразы, малілася на прынцыпы сацыялістычнага рэалізму. І колькі лёсаў, колькі талентаў, колькі гадоў працы легла ў падмурак гэтага казачнага палаца, які зараз разваліўся, бо, аказваецца, будаваўся на пяску.

Менавіта таму, як мне здаецца, зараз амаль спыніўся ўсялякі працэс асэнсавання нашай літаратуры, бо згубілася звыклая сістэма каардынат. Што было забароненым — стала добрым, а што добрым — сталася смешным. І ўсе аслупянелі. Ніхто не ведае, з якім багажом і куды далей ісці. Гэта бачна нават на побытавым, я сказаў бы, рэцэнзійным узроўні. Скажу шчыра, за апошні год я не прачытаў у "ЛіМе", бадай, ніводнай рэцэнзіі, якая зацікавіла б мяне з прафесійнага боку. Нейкі тон у гэтым спрабуе задаць "Наша Ніва", але і ў іх вельмі часта бракуе прафесіяналізму.

Ні ў якім выпадку не хачу нікога асуджаць ці крытыкаваць. Я толькі канстатую — што маем, тое і маем.

У нас ёсць цудоўныя даследчыкі-практыкі. Гэта Адам Мальдзіс, Язэп Янушкевіч, Іван Саверчанка, Сяргей Кавалёў ды іншыя, але няма літаратуразнаўцаў-тэарэтыкаў. Тут можна вылучыць Сяргея Дубаўца, Пятра Васючэнку, Ігара Бабкова, Івана Афанасьева, якія ўсё ж здолелі штосьці адшукаць самі, пераправіць гэта "штосьці" і больш-менш паспяхова спрабуюць прышчапіць свой досвед на глебу тутэйшага літаратуразнаўства (хоць апошняму з іх, на мой погляд, замінае арыентацыя не на Мінск, а на Маскву.)

І трэцяя рэч — сур'ёзныя адносіны да літаратуразнаўства. Яны мусяць быць на першым месцы. Пісаць трэба ўвесь час. А вось гэтым з тых, у каго штосьці атрымліваецца, у нас не займаецца, бадай, ніхто...

**—...І лёс распарадзіўся так, што літаратуразнаўца А.Бяляцкі ператварыўся ў музейшчыка. Ці стаў ён прафесіяналам у гэтай справе?**

— Што датычыць мяне, дык магу сцвердзіць пэўна, што зараз я — прафесійны музейшчык. Гэта адзінае, што магу сцвердзіць пэўна. Нават па старых міністэрскіх мерках чалавек, які папрацаваў у музеі пяць гадоў, можа займаць там любую пасаду.

Прычына майго зацікаўлення музеямі трывіяльная. Пасля аспірантуры ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук па ўказанні партыйных органаў мяне мусілі размеркаваць у Гомель. Надта гэтаму я не пярэчыў, бо Гомель любіў і люблю, і вельмі паважаю загадчыка кафедры беларускай літаратуры Гомельскага універсітэта Івана Штэйнера, але за тры дні да ад'езду Ірына Марачкіна, супрацоўніца музея гісторыі беларускай літаратуры, прапанавала ўладкавацца на працу ў гэты музей. Вядома, спакусы сталічнага палітычнага і культурнага жыцця пераважылі, тым больш, што мне сапраўды падабалася займацца гісторыяй нашай літаратуры... Праз чатыры месяцы адбыліся выбары дырэктара музея Максіма Багдановіча, у будынку якога на той час месціўся калектыў музея гісторыі беларускай літаратуры, і дзяўчаты-гаспадыні "па сакрэце" сказалі мне, што, калі дам згоду і вылучуся, дык выберуць мяне.

Было чатыры прэтэндэнты і аднагалосна выбралі мяне.

У Міністэрстве культуры, якому падпарадкоўваецца музей, думалі цэлы месяц, перш чым зацвердзіць вынікі выбараў.. Але ўрэшце выйшаў загад і так я стаў самым маладым дырэктарам музея. Нагадаю, кампанія выбараў дырэктароў калілася тады па ўсім Саюзе і я проста падлаў пад яе.

З боку міністэрства гэта быў рызыкоўны крок. Пэўна, што яны ведалі мае акадэмічныя і партыйныя "характарыстыкі", але ж праз два гады, да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча, мусіў адчыніцца музей, у якім на той час былі толькі голыя сцены...

Калі б я ведаў, чым мне давядзецца займацца як дырэктару музея — а гэта гады татальнага дэфіцыту — я б яшчэ сто разоў узважыў, перш чым пагадзіцца на гэта...

**— Варта хоць як акрэсліць гісторыю ладкавання музея Максіма Багдановіча ў Мінску: якія людзі спрычыніліся да гэтай справы найбольш актыўна і плённа?**

— Калі ў 1981 годзе да 90-ых угодкаў паэта была ўтворана рабочая група па стварэнні музея, то існавала толькі чыстая мара — зрабіць музей. Пасля смерці паэта мінула 60 гадоў і не было ніводнага экспаната, які меў бы дачыненне да Максіма Багдановіча. Згадаем, што музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа ўтварыліся ледзь не адразу па смерці нашых песняроў. А на сёння мы маем цэнтральны музей Максіма Багдановіча на Траецкім прадмесці, філію музея "Беларуская хатка", дзе жыў Максім у 1916—17 гг., мемарыяльны музей у Яраслаўлі і філію "фальварак Ракуцёўшчына" ў Маладзечанскім раёне, дзе паэт адпачываў і плённа працаваў улетку 1911 года.

Першай — у 1991 годзе — адчынілася "Беларуская хатка". Гэтаму папярэднічалі дзесяць гадоў цяжкай і як быццам непрыкметнай пошукавай і збіральніцкай працы, якія ўрэшце далі процьму матэрыялаў, што тычыліся Максіма, ягонае сям'і, знаёмых, перадавалі атмасферу таго часу ці па нейкіх параметрах падыходзілі для экспазіцый нашых музеяў.

Дзесяць гадоў, дарэчы, — сярэдні тэрмін стварэння любога нармальнага музея. З музейных працаўнікоў трэба згадаць першага дырэктара музея Міхася Пазнякова, наступнага — Леаніда Хадкевіча, планы якога па разбудове музея я выконваю дасюль, галоўную захавальніцу фондаў Тамару Кароткую і асабліва цёплым словам — навуковага супрацоўніка Веру Мікуту, якая больш за дзесяць гадоў была своеасаблівым "рухавіком" музея, ягоным мазгавым цэнтрам і сумленнем, пры ўдзеле якой стварыліся амаль усе нашы экспазіцыі.

Шмат дапамаглі ў зборы матэрыялаў сваякі Максіма, якія столькі гадоў захоўвалі сямейныя памяткі, рэліквіі, лісты і дакументы, а потым перадалі гэта нам, а таксама даследчыкі жыцця і творчасці Максіма Н.Ватацы, В.Рагойша, С.Панізнік і шматлікія іншыя людзі, якія мелі дачыненне да сям'і Багдановічаў ці проста любілі творы Максіма і стараліся нам неяк дапамагчы.

Асобна хацеў бы адзначыць працу мастакоў-экспазіцыянераў Э.Агуновіча і Г.Чыстага, якія ўклалі душу ў мастацкую арганізацыю таго, што мы хацелі бачыць на экспазіцыі. Пэўна, гэта ім удалося зрабіць. Я бачыў самыя розныя музеі свету і без пахвальбы хачу сказаць, што афармленне музеяў Максіма Багдановіча, падача матэрыялаў, настрой, які пануе ў залах, іх цэласнасць і шматпланавасць — на сусветным узроўні.

Нашы музеі — не халодныя труны, набітыя пыльнымі косткамі. Гэта жывыя стварэнні, калі хочаш — творы, якія выклікаюць у людзей пэўныя эмоцыі і пачуцці. Вось там трэба шукаць і маіх пяць гадоў жыцця.

**— Дарэчы, наведваючы музей на Траецкім, можна бачыць нямала маладых, сімпатычных супрацоўнікаў. Што вабіць гэтых людзей да такой справы?**

— З сённяшніх супрацоўнікаў не хацеў бы называць нікога, каб не перахваліць, ці наадварот, не дахваліць некага. Скажу толькі, што гэта сапраўды прыгожыя людзі, энтузіясты, існыя культурнікі, якія за мізэрную плату, дзякуючы ўласнаму імпэту, працуюць на высокім прафесійным узроўні. Не ведаю, наколькі ім хопіць гэтага імпэту, але на сённяшні дзень калектыў музея, без перабольшання, — адзін з лепшых, зладжаных у рэспубліцы.

**— Чым сёння жывуць менскія "захавальнікі духу Багдановіча", якія клопаты перажываюць?**

— Час адкрыцця экспазіцый для нас яшчэ не мінуў. Мы працягваем працу ў фальварку Ракуцёўшчына, хочам стварыць там сапраўдны шляхецкі маёнтак пачатку стагоддзя. Менавіта пад гэту мэту зараз шукаюцца і падбіраюцца экспанаты, ідзе іх закупка і рэстаўрацыя...

Стварэнне любой экспазіцыі для музея можна параўнаць хіба што з землятрусам. Зрэшты, дакладна ў такіх умовах мы працуем ужо даўно, адкрываючы штогод новыя дзейныя экспазіцыі — пры цяперашнім фінансаванні культуры справа гэта вельмі складаная.

Як ні дзіўна, але ў музей штогод прыходзяць матэрыялы, звязаныя з Максімам. Так, сёлета мы закупілі некалькі ўжо вядомых, але арыгінальных, цудоўна захаваных фотаздымкаў Максіма, ягонае маці, бацькі, бліжэйшых сваякоў, а таксама аўтографы бацькі паэта — Адама Багдановіча. Музей як магнэс прыцягвае да сябе гэтыя надзвычай каштоўныя для нашай культуры рэчы. Натуральна, што мы збіраем усё, што адносіцца да Максіма, сям'і Багдановічаў і з'яўляецца ў наш час.

Прыемнай неспадзяванкаю для нас, як і для аматараў паэзіі Максіма Багдановіча, стаў сёлета выпуск кніжкі-малюткі "Вянок", які выпусціла выдавецтва "Мастацкая літаратура". Яго зараз можна набыць у нашым музеі.

Мы вядзём, па магчымасці, і навуковую працу. Падрыхтаваны супрацоўнікамі і сёлета выйшлі ў "Нёмане" ўспаміны Адама Багдановіча (падрыхтаваны і трэці год ляжаць у "Маладосці" ягоныя менскія ўспаміны). Падрыхтаваны да друку таксама зборнік эпісталярных і дакументальных матэрыялаў, якія датычаць сям'і Багдановічаў, — спадзяюся, ён стане ў нас гадавіком. На музейным камп'ютэры набіраецца зборнік дакладаў з нашай навуковай канферэнцыі, якая праходзіць у музеі раз у два гады і закранае шырокія пытанні развіцця беларускай культуры. Рыхтуюцца да друку і "Пережитки древнего миросозерцания у белорусов", этнаграфічная праца Адама Багдановіча, якая аказала ўплыў на творчасць Максіма. Стагоддзі з часу выхаду яе мы мяркуем такім чынам адзначыць у наступным годзе.

Складваецца ў нас традыцыя правядзення "Спатканняў на Траецкім", на якія запрашаем творцаў, эстэтыка творчасці якіх перагукаецца з эстэтыкай паэзіі Максіма Багдановіча, ладзім мастацкія выставы.

Адным словам, ідзе нармальная стваральная праца.

А клопаты? Чакае аднаўлення дом Багдановічаў, дом, у якім нарадзіўся Максім. Праектная дакументацыя на яго гатовая, але няма грошай на адбудову. У ім мы прапанавалі зрабіць рэспубліканскую літаратурную дзіцячую школу, якая, дарэчы, ужо год як працавала пад кіраўніцтвам А.Глобуса ў будынку музея, а таксама стварыць невялікі, але дзейсны цэнтр па вывучэнні беларускай культуры канца XIX-га — пачатку XX стагоддзя. Прынамсі, вопыт Польшчы паказвае, што невялікія даследчыя інстытуты часам працуюць эфектыўней за традыцыйныя акадэмічныя ці універсітэцкія структуры.

Я ўжо маўчу пра хаціну лесніка ў Вяззі Асіповіцкага раёна, дзе пэўны час жыла сям'я Багдановічаў і дзе малы тады Максім ці не ўпершыню наслухаўся беларускай мовы. Гэтая хаціна цудам захавалася да нашых дзён, але зараз прападае.

**— Наколькі дзейсная выхаваўчая роля музея ў сучасных варунках, ці ідзе да вас наведвальнік — і які?**

— Выхаваўчая роля музея залежыць ад канцэпцыі, асноўнай ідэі, якая пакладзена ў аснову экспазіцыі. Наш музей рабіўся ўжо ў новых умовах нашага жыцця. Практычна ніхто не ўмешваўся ў канцэпцыю экспазіцыі. Хоць яшчэ да мяне, калі супрацоўнікі з мастаком працавалі над эскізамі, іх "адчытваў" і злаваўся за выяву Пагоні ў экспазіцыі тагачасны сакратар па ідэалогіі мінскага гаркама Пётр Кузьміч Краўчанка, які, дарэчы, адначасова дапамагаў захаваць "Беларускую хатку", якую давялося пераносіць на іншае месца...

Але калі наблізіўся час працы над экспазіцыяй, мы і мастак рабілі ўсё так, як лічылі патрэбным. Міністр культуры затэлефанаваў у дзень адкрыцця з раніцы і спытаўся — ці варта ехаць на адкрыццё? Ці ёсць што глядзець? Я адказаў, што варта, ёсць.

З таго часу ў музей штомесяц прыходзіць каля тысячы наведвальнікаў. Пэўна, не меней бывае і ў "Беларускай хатцы", дзе, апроч экскурсій, гаспадар Хаткі, паэт Едрусь Акулін па-майстэрску паказвае батлей-

(Працяг на стар. 12)

## СЛЫННАМУ ВУЧОНАМУ — У ЮБІЛЕЙНЫ ГОД

Нядаўна на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя "М. В. Доўнар-Запольскі. Жыццё і дзейнасць". Навуковы форум адбыўся ў межах святкавання 60-годдзя старэйшага ў нашай дзяржаве гістарычнага факультэта. Канферэнцыя ў той жа час стала фактычна першым крокам вяртання з небыцця імя выдатнага вучонага Мітрафана Віктаравіча Доўнар-Запольскага. Гэты чалавек зрабіў значны ўплыў на развіццё беларускай гістарычнай навукі, ён бліжэй за іншых стаяў да рэалізацыі ідэі стварэння канцэпцыі нацыянальнай гісторыі. М. Доўнар-Запольскі пакінуў істотны след у станаўленні беларускага крыніцазнаўства, археалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі.

Удзельнікаў канферэнцыі віталі старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета рэспублікі Ніл Гілевіч і старшыня арганізацыйнага камітэта, дэкан гістарычнага факультэта БДУ Пётр Шупляк. На пленарным пасяджэнні прагучалі выступленні навукоўца з Бранска С. Міхальчанкі з дакладам "Жыццё і творчасць М. В. Доўнар-Запольскага" і даследчыка з Гродна Д. Карава з тэмай "М. В. Доўнар-Запольскі і беларуская гістарыяграфія канца XIX — пачатку XX стагоддзя".

Праца ўдзельнікаў канферэнцыі праходзіла ў межах трох секцый: Беларусіка ў творчасці М. Доўнар-Запольскага; агульнаметадалагічныя праблемы і ўсеагульная гісторыя ў працах М. Доўнар-Запольскага; вывучэнне і выкарыстанне творчай спадчыны М. Доўнар-Запольскага. У канферэнцыі прынялі ўдзел даследчыкі з Расіі, Украіны. Беларусь была прадстаўлена выкладчыкамі і вучонымі з вядучых навучальных і навуковых устаноў Мінска, Гомеля, Гродна, Мазыра.

Пасля двухдзённай працы секцый быў праведзены абагульняючы "круглы стол", на якім быў прыняты зварот да ўрада і грамадскасці рэспублікі. У ім знайшлі месца прапановы выдаць поўны збор твораў М. Доўнар-Запольскага, перыядычна праводзіць чытанні, прысвечаныя памяці вучонага, устанавіць яму помнік, а таксама мемарыяльны знак на будынку Белдзяржуніверсітэта, дзе М. Доўнар-Запольскі пэўны час у 1926 г. працаваў.

Праведзеная канферэнцыя далёка не першае шырокамаштабнае мерапрыемства, якое было арганізавана за апошнія гады на гістарычным факультэце БДУ. Сёння факультэт уяўляе сабой найбольш мабільны ў рэспубліцы навуковы калектыў у сферы гістарычнай навукі і адукацыі. Факультэт за апошні час значна пасталеў. З'явіліся новыя спецыяльнасці: міжнародныя адносіны, гісторыка-архівазнаўства і музеязнаўства. На працу прыйшло шмат маладых, таленавітых выкладчыкаў. Навуковы твар факультэта складаюць вядучыя ў нашай краіне творчыя калектывы ў галіне германістыкі, гісторыі арабскага Усходу, ранняга хрысціянства, гістарычнай інфарматыкі, гісторыі славянскіх краін, дыпламатыі і знешняй палітыкі. Кардынальна змяніўся, узрос творчы патэнцыял кафедраў гісторыі Беларусі. Выкладчыкі, навуковыя супрацоўнікі НДЛ гісторыі Беларусі факультэта вядуць працу па больш чым дзесяці навуковых праблемах, вынікі распрацоўкі якіх цесна звязаны з падрыхтоўкай новых падручнікаў па гістарычных дысцыплінах для вышэйшай школы рэспублікі. Пашырыліся таксама магчымасці для самастойнай працы студэнтаў, значна павялічыўся набор у аспірантуру. Факультэт падтрымлівае сувязі з многімі вядучымі навучальнымі і навуковымі установамі за мяжой і ў краіне. Кожны год на яго базе праходзяць навуковыя канферэнцыі, і вельмі сімвалічна, што свой 60-гадовы юбілей калектыў гістарычнага факультэта пачаў святкаваць з працы па аднаўленні добрага імя буйнейшага нацыянальнага гісторыка пачатку XX ст.

**Алесь КАХАНОЎСКІ,**
кандыдат гістарычных навук, дацэнт

## ПРОЙДЗЕМ ПА УШЭСЦЕНЬСКАЙ...

А затым завернем на Узлесную, не мінём Глебкаўкі, палюбуемся Міхайлаўскім кутам, затрымаемся на Валмянскім шляху. Не цяпер, праўда, а праз некаторы час, калі завершыцца будова катэджаў у раёне Калодзішчаў, якія ўзводзіць Мінскі трактарны завод. Разам з тым будуць і добраўпарадкаваны новыя вуліцы, назву якіх зацвердзіў Мінскі гарвыканкам. Прапанову ж уносілі самі прадстаўнікі прадпрыемства. І аказаліся яны людзьмі неабыякавымі да захавання памяці аб традыцыйных назвах, што зберагаюцца ў тутэйшых мясцінах. Таму вуліцы ў пасёлку і будуць мець назвы Ушэсценьская, Узлесная, Глебкаўка, Міхайлаўскі кут, Валмянскі шлях, Вежавая, Ліпавая калода, Падкова, Рап'ёўская.

Паэзія

Мікола ВІЧ



# ГОРАД

*Звярнуў калісь Пегас на вулкі*
*З прывольных, палявых дарог...*
*М. БАГДАНОВІЧ*

I

Я люблю цябе, мой горад,
апляваць і запаскудзіць,
седзячы на лаўцы голай
удваіх з табою. Людзі
ўжо даўно прывыклі бачыць
горад мой заўжды са мною,
і напэўна — не заўважаць,
і дакладна — не прагоняць.
Адно горад не даруе —
вераснёвымі начамі,
адмываючы ад бруду
твар счарнелы і зачахлы,
будзе лезці з пацалункам,
абдымаць мяне распусна
і шукаць сухі прытулак
для сваіх знямелых вуснаў...
Што скажу табе, мой горад,
перад тым, як сам знямею
і ўвайду каменнем голым
у твае душу і цела?

Я звярнуў з самотных вулак —
абдымай мяне распусна,
абжывай сухі прытулак —
у душы маёй так пуста.
Не шкадуй сваіх брыдотаў —
у душы маёй так чыста.
Дык няхай заміж пустоты
там згарыць сухое лісце!
А падпаліш ад акурка,
што я выкінуў учора,
а пагасіш пацалункам...
Не шкадуй мяне, мой горад.

Ну а лох няхай начамі
трызніць вёскай і Айчынай
і шукае іх адчайна
запалёнымі вачыма
ў гулкіх крамах, у кавярнях,
на адвязаных тусоўках,
між рэкламаў і ліхтарняў,
днём і ноччу, —
усё роўна
знойдзе недзе між памыяў
недапаленае лісце...
Хай ваўком тады завые:
"Божа, як я памыліўся!.."

II

Я любіў цябе, мой горад,
аж пакуль ты мне не здрадзіў,
не пабачыўшы між зорак
мае вочы немаўляці,
не адрозніўшы мой смутак
ад пахмурнасці нябёснай,
растаптаўшы мой дарунак —
след мой мяккі,
верш мой слёзны...

Я любіў цябе, мой горад,
покуль ты зусім не спіўся
і, нібыта алкаголік,
ля мяне не прымасціўся
на самотнай лаўцы голай
пасярод сухога лісця —
ведаў бо, што не прагоняць,
адчуваў, што ўжо стаміўся
піць на фэстах, у кавярнях,
піць на сцэнах, у кватэрах,
піць сярод вачэй і твараў,
піць і пазіраць на дзверы,
за якімі ноч глухая,
за якімі дзень асляплы —
мерзнуць, мокнуць і чакаюць
цябе, блуднага, з пахмелля...

Я любіў цябе, мой горад,
калі ты яшчэ не плюшчыў
свае вочы ў соннай зморы,
чуйным быў і быў відушчым.
Я любіў цябе за вочы,
што глядзелі проста ў сэрца,
калі ты мне лёс прарочыў
і хаваў мяне ад смерці
на святочна-яркім фэсце,
на пагосце, у кавярні,
у пракураным пад'ездзе,
у грамадскай прыбіральні...
Што няўрымсліва казаў ты,
углядаючыся ў сэрца?
Пра Айчыну? Волю? Праўду?
Пра жыццё-ману? Аб смерці?
Але ж ты хлусіў мне, горад.
Глянь: вакол сухое лісце,
ты ж, падмануты і голы,
быццам лох той,
памыліўся...

*Сёння мы друкуем вершы паэта Змітра Віталіна, які жыве ў Адэсе. Вось што ён піша ў сваім лісце, звяртаючыся да галоўнага рэдактара: "Прыношу вам найвялікшую ўдзячнасць за апублікаваны артыкул Паўла Пруднікава пра маю долю ("ЛіМ", N 8, 25.02.94 г.). Пасылаю вам свае даўнія вершы — 1935 і 1936 гадоў. "Осовременивать" іх я не наважыўся — пасылаю такімі, якімі яны былі напісаны ў свой час. Буду вельмі рады, калі што-небудзь падыдзе для вашай газеты".*

Змітро ВІТАЛІН



# З МІНУЛАГА

## РАДЗІМА

Неабсяжная шыр.
Неабсяжная радасць мая!
І высокае сонца над ёй,
І бялявыя хмары над ёю!
Жыватворнаю сілай
Набракла за зіму зямля,
І лунаюць вятры,
І лунае вясна над зямлёю.

Шуршавістае сена
Мінуўшчынаю аддае,
Але зеленню новаю строіцца
Поплаў стракаты.
Але ўсюды усмешкі,
І кветкі цвітуць у вакне,
У адзенне вясны
Прыбіраюцца людзі і хаты.

Я хачу аднаго,
Каб спакойнаю праца была,
Каб смяяліся дзеці,
Спяваючы песні да сонца.
Я шчаслівы і так,
Што радзіма ідзе да святла,
Што я сын яе любы
І славы яе абаронца!

## НОЧ

Ноч прыходзіць —
Стаміўшымся, значыцца, радасны сон.
Ноч прыходзіць —
Каханкам найвыгадны час для кахання.
Ноч ідзе для мяне —
Гэта слоўны кірмаш, гул і звон,
Гэта высцігі рыфм,
Гэта выперадкі параўнанняў.
Але стомлены я,
Дарагая сястра мая Ноч.
Я хачу адпачыць —
Ад кахання, ад вершаў, ад шуму.
Я чакаю цябе.
Дакраніся пяшчотаю воч,
І засну —
Аб табе з самай лепшай
і ласкавай думай.

## Я ПРОСТА ЯЕ КАХАЮ

Калі мяне стрэнеш уночы,
падумаеш — душагуб.
Маланкамі бліскаюць вочы
і скрыўлена лінія губ.

Не бойся, мой друг незнаёмы!
Я тут спакайнейшы з усіх.
Скажы мне ты лепей,
навошта мой вецер любімы прыціх?

Няхай бы ляцеў і віхурыў
і пыл ўзнімаў слупом,
І долу згінаў бярозу,
праз шчыліны пнуўся ў дом.

А ў доме спакой, напэўна.
І любая ціха спіць.
І толькі затым я павінен
упоцемках вокал хадзіць.

І горнецца цемра у вочы,
І горнасць да долу гне.
У мораку і маркоце марнуюцца сілы мае.

І цёмнае-цёмнае неба,
і небылі зваблівай жах.
І чорнае здрады чарнобыль
Мой абступае шлях.

Я не парушу спакою.
Многа прыязні ў хадзе.
Я — не душагуб, таварыш,
не гвалтаўнік-ліхадзей.

Я проста яе кахаю,
І цэлы мне свет не люб.
Я самы спакойны і сам я —
самога сябе душагуб...

Гарлаюць наводдалі пеўні,
І пуні гараць на гары,
Ахопленыя агнямі чаканай
і добрай зары.

•

Нехта ходзіць па сэрцы маім,
І такія ж балючыя крокі...
Але я не крычу.
Даль і дым.
Невысокае радасці проквіт.

Абадзістае неба, і шлях —
Аж да самага шчасця, да сонца.
На усіх векавых растанцах
Я ўстаю, малады і бясконцы.

Чую шолах амшалага дня,
Бачу — ранне бруіцца барвова.
Ў пераспелых імшарах, у пнях
Я шукаю заклятае слова.

Я лаўлю ад зары да зары
У нябыт адляцелыя далі —
Ў час, калі гаварылі звяры,
Словам тым маладосць называлі.

Ноч і падаюць зоры, і з тым
Ападаюць мае намаганні...
Нехта ходзіць па сэрцы маім,
Нехта стукае ў ім да світання.

## ЗОРНЫ ВЕЧАР

Не тапчы нагамі свайго шчасця,
Ад маны амый сваю душу.
Цішыня, і зор ніхто не засціць —
Болей я нічога не прашу.

Вельмі добра, што ў людзей ёсць
добрасць,
Вельмі добра, што гаркавы дым
Адплывае ўдалеч, вельмі добра
Быць, як месяц гэты, маладым.

Добры я зусім, за выключэннем
Самаго нядбалага сябе...
От счарнела жоўтае вішэнне,
І на рунь апалі боль і бель.

Змардаваны спрэс кастравы вецер
Хіліць долу верхавіны хвой —
Я хацеў бы так ляцець па свеце,
Песні пець і цешыцца сабой...

Аскабалкі воблака былога
Адышлі за сіні далягляд.
Прыўзняліся два вялікіх словы,
Два магутных — зоры і зямля!

Трэцім я ўстаю ім насустрэчу.
І нікога болей.
Цішыня.
Я шчаслівы.
Гэты зорны вечар —
Радасць буравейная мая!

## АЧУНЯННЕ

Фрагменты

•

Мне даспадобы твой пагляд,
Я ў ім душой адпачываю.
Ад узірання ў цемру я
Святла ад сонца не стрываю.

А ты праменіш супакой,
І болю — меней, меней, меней.

III

**Хто ж тады не памыліўся,**
**стаўшы дрэвам паміж намі,**
**скідваючы ўвосень лісце,**
**брук прабіўшы каранямі?**
**Хто ж тады знайшоў Айчыну,**
**не шукаючы ніколі, —**
**сэрцам, целам, не вачыма, —**
**бы валун у голым полі?..**
**Азірніся: ён жа побач —**
**без падзякі, без спачыну,**
**светлым днём і цёмнай ноччу**
**дбае пра сваю Айчыну.**
**Глянь, як лісце ён увішна**
**паліць у душы, бы ў печы.**
**Ён — усюдны, бо не прышлы,**
**ён — заўсёдны, бо адвечны.**
**Калі чорны ты, ён белы,**
**калі белы ты, ён чорны,**
**толькі ў прыцемках прыцьмелых**
**ён становіцца няўлоўным**
**і тады табе гаворыць:**
**— Я люблю цябе, мой родны.**
**Ці то ў шчасці, ці то ў горы —**
**я люблю цябе заўсёды.**

**Я б любіў цябе, мой горад,**
**калі б нават ты не плакаў,**
**кладучы шторанак голаў**
**на асфальтавую плаху...**
**Ці ж не ведаеш, што ноччу**
**зноўку ажывеш, прачнешся**
**і расплюшчыш злыя вочы,**
**і агідна засмяешся?**
**Хіба ж восень?**
**Не, мой горад.**
**Ты ніколі так не плакаў,**
**кладучы цяжкую голаў**
**на асфальтавую плаху**
**і не чуючы з-за плачу,**
**як трамвай самотна-першы**
**набліжаецца і плача,**
**надрываецца і рэжа...**

---

**І я бяру сваёй рукой**
**Твае, сатканыя з праменняў.**

**Харошая! Як добра жыць!**
**Залівістыя птушкі вокал!**
**Я ўстану — ты мне памажы,**
**Я пасяджу ля гэтых вокан.**

**Пісклявы скрып саней. Зіма**
**Страчаецца з вясною сёння.**
**Нічога цьмянага няма**
**У гэтым галасе і звоне.**

**Каралі кропель крышыць дах,**
**І слоў тваіх іскраць каралі.**
**І над усім — блакітны птах**
**Бязмежнай радасці і далі.**

●

**Не ацярэбішся ад суму,**
**Ніяк не выб'еш з галавы**
**Пакутную дурную думу**
**Пра час жыцця вечаравы —**

**Калі не выйдзеш на прастору,**
**У любы свет, у беласнеж,**
**На зыркія, як вочы, зоры**
**З патайным шчасцем не зірнеш...**

**Калі адзін, калі пахілы,**
**Віхаючыся, пройдзеш зноў**
**Ад цішыні, забыўшы сілу**
**Цягліц і розуму, да сноў;**

**Калі закрыешся ад свету**
**На ключ самоты, без надзей,**
**Без радасці і без прывету**
**Табой адхіленых людзей.**

**Жуда! Жуда! Я хочу выйсці**
**І выйду — дзень, зарок вазьмі! —**
**На сонечны — да сонца — высціг**
**З табой, з падзеямі, з людзьмі!**

●

**Шуміць бяседа за сталом.**
**Я акрыяў. Мяне віншуюць.**
**Сябры і родзічы нагбом**
**П'юць гутарку з віном такую:**

**— За многія гады жыцця!**
**— За долю шчасную і славу!**
**— За жонку-друга, за дзіця!**
**— За ўсё, што нашае па праву!**

**І шклянак пераліўны звон,**
**І гоман — ручая гурчэнне.**
**Сышліся зоры ля вакон —**
**Па радасць і па захапленне.**

**Я п'ю за вас, мае сябры,**
**За шлях, якім без спыну рушым,**
**За рукі з цеплынёй зары,**
**Сатканыя з праменняў дружбы!**

**У верашчацы верашчыць**
**Яшчэ зусім жывое сала.**
**Так будзем піць!**
**Так будзем жыць!**
**Што б доля з нас ні вычварала!**

---

Проза

Міхась ДАНІЛЕНКА

# АПАВЯДАННІ ПРА РЭЧЫ



## КЕЙС

Гэта быў цудоўны кейс, акаймаваны па вугалках лёгкай нержавейкай. Кейс са скуры. Можа, нават з кракадзілавай, бо прывезлі яго сённяшняму гаспадару з далёкіх Арабскіх Эміратаў. Даўно мінуў час, калі па бяскрайніх пустынных абсягах гэтай краіны задумлівыя бедуіны ціха пагойдваліся на вярблюдах і думалі пра вечнасць. Цяпер тут праносіліся, як імгненні, па цудоўных аўтастрадах машыны розных марак. Яны ззялі да рэзі ў вачах нікелем. Можа, кейс належаў некалі сыну якога-небудзь шэйха — нафтавага караля. Хто яго ведае. Кейс цяпер насіў вясёлы, бесклапотны студэнт. Кожную раніцу той кідаў у яго тоўстыя, у ледэрынавых вокладках сшыткі, дзе занатоўваў змест лекцый, якія яму чыталі ва універсітэце, уціскваўся ў перапоўнены тралейбус і дабіраўся да прыпынку "Універсітэт". Там са смехам і кпінамі вылузваліся з тралейбуса чародкі дзяўчат у кароценькіх спаднічках і юнакоў з густымі пэйсамі на скронях. У многіх у руках былі падобныя партфелі, "дыпламаты" (ці, як модна цяпер іх называць, кейсы). Але, бадай, толькі вось гэты быў з такім густам адштукаваны, адзін ён памятаў бязвоблачнае неба Эміратаў, сінь прастораў прыбярэжнага мора.

Спачатку ў кейсе гаспадар вазіў у аўдыторыі канспекты праслуханых лекцый, нейкія разлікі, якія рабіў пасля таго, як з сяброўкай праседжвалі днямі перад кам'ютэрамі. Затым папер станавілася ўсё менш і менш. Надышоў дзень, калі прывычны кірунак, па якім кожны дзень следаваў кейс, змяніўся. Цяпер ён з гаспадаром кіраваў зусім у іншы мікрараён горада. Паступова абжываліся пакоі, па якіх любіў бегаць яго неўтаймаваны гаспадар. Спачатку з ім ездзіла і яго сяброўка. Але неяк непрыкметна хлапец яе пакінуў, і кейс цяпер часам падоўгу адзінока ляжаў у салоне з'езджанага "фіята". Так, так. Зараз гаспадар яго ўжо не напінаў акаваным вугалком кейса суседзям — пасажырам тралейбуса. Ён займеў аўтамабіль. Ды, па праўдзе кажучы, нядоўга на ім і паездзіў. Мінула колькі месяцаў, і ён змяніў той "фіят" на "мерсэдэс". Праўда, кейс трохі і шкадаваў, бо прывык ужо да абжытых пашарпаных падушак сядзення, на якіх часта ляжаў і чакаў свайго гаспадара, пакуль той аб нечым доўга перазвоньваўся па тэлефонах.

Цяпер у кейсе часта перавозілі туга перавязаныя пачкі грошай. Пачкі тыя называлі "валютай". Цяжка было пазнаць у распаўнелым, з тоўстым каркам (хоць брытву вастры) чалавеку таго бесклапотнага вясёлага студэнта, які некалі літаральна за дзве-тры секунды да адпраўлення ўрываўся ў расчыненыя дзверы тралейбуса і цягнуў за сабой юных сяброў. Хада ў яго стала паважная; на тых, з кім сустракаўся, глядзеў звысака, часам грэбліва моршчыў нос, перш чым казаў якое слова. Усё часцей у кейс ён укідваў больш і больш "зялёненькіх" — долараў. Калі прызнаць шчыра, дык асабліва і не цырымоніўся з тымі "зялёненькімі".

— Ат, заўтра будзе ў тры разы больш, — зашчоўкваючы бліскучыя замкі, звычайна гаварыў ён.

Скура, з якой некалі быў зроблены кейс, напіналася, як у барабане; на ёй паявіліся пісягі, трэшчынкі: яго не вельмі аберагалі. Урэшце, магчыма, недалёка быў той дзень, калі гаспадар мог яго замяніць. Але тут адбыліся непрадбачаныя падзеі.

У адзін вясновы дзень (у офісе, дзе сядзеў за сталом гаспадар кейса, зацвілі на шырокіх вокнах петуніі) на напакаваны "пад завязку" кейс апусцілася шырокая далонь. Кейс адчынілі і пачалі пералічваць пачкі грошай трое мужчын у касцюмах з гальштукамі. Гаспадар пры гэтым сядзеў непрывычна самотны і абыякава сачыў праз акно за хмурынкай, што забялела на чыстым небе. Пасля грошы зноў акуратна паклалі ў кейс, зачынілі вечка, абклеілі яго ізастужкай і на замкі наляпілі дзве сургучныя пячаці. Усё! Цяпер ён быццам знямеў — паціху пагойдваўся ў міліцэйскім газіку, у якім ехаў разам са сваім гаспадаром. Куды кіравала яго новая дарога? І чаму такі маўклівы і збялелы твар гаспадара? Гэтага кейс, вядома, не ведаў. А здагадвацца ён не ўмеў.

## КАБУРА

Вуліца, якіх шмат у гэтым гарадскім раёне. Шматлікія дзевяціпавярховыя дамы паабапал трымалі на плоскіх, як валейбольная пляцоўка, дахах шматлікія тэлевізійныя антэны. Правады ад антэн на вышыні перасякаліся над вуліцай, злучаліся з тымі антэнамі, што стаялі на супрацьлеглых дамах. Усё часцей і часцей да пад'ездаў новых дзевяціпавярховак пад'язджалі грузавыя машыны з прычэпамі, напоўненымі немудроным скарбам навасельцаў. Шафы, сталы, нязменныя маленькія халадзільнікі, кухонныя табурэты, на якіх палушчылася ўжо фарба, — такія прыкладна былі рэчы ў тых, хто ўсяляўся ў кватэры. Часам згружалі кніжныя шафы, а за імі — цяжкія цюкі акуратна запакаваных у тоўстую абгортачную паперу кнігі. Звычайна ў такіх дамах яшчэ не падключалі ліфтоў, і калі гаспадарам выпадала жыць на апошніх паверхах, яны на чым свет праклiналі лёс, бо трэба было валачы цяжкія, як жалеза, цюкі на восьмы ці дзевяты паверхі. Часта (калі ў сям'і былі настаўнікі) цюкі цягалі па лесвіцах дужыя дзевяцікласнікі-акселераты.

У адзін з восеньскіх дзён (з шэрага неба накрапваў дробны дождж) да аднаго з пад'ездаў дома пад'ехала грузавая машына з хатнім прычындаллем. Кніг у гаспадароў, праўда, было няшмат, затое гарластых дзяцей — многа. Колькі іх? Вунь адзін, другі, трэці панесліся ўверх па лесвіцы. А з кузава машыны саскоквалі праворныя дзяўчаткі (па ўсім — блізняты), абмацваў нагой кола грузавіка, перш чым саскочыць на зямлю, падлетак-хлапчук. Шасцёра? Так, шасцёра з бацькамі ўсяліліся ў чатырохпакаёвую кватэру ў правае крыло будынка. Самі гаспадары толькі тады з лёгкасцю перавялі дух, калі акуратна згрузілі ля пад'езда ўсю пасцель, кухонныя скрынкі ды складзеную швейную машыну.

Малыя між тым ужо абследавалі ўсе закуткі прасторнай кватэры (па калідоры можна раскашаваць на веласіпедзе!), паспелі пазнаёміцца з суседзямі і цяпер імчалі, пераскокваючы цераз дзве прыступкі, уніз.

— Данік, а ты не забыўся ўзяць з сабой дзядулеву кабуру? — запытаўся гаспадар — шыракаплечы, з абветраным тварам мужчына — у кірпаносага хлопчыка.

— Не. Вось яна, — паказаў хлопчык.

То была ўжо не новая кабура. Шво на адным месцы ў яе пачало разыходзіцца, і гаспадар умела прашыў у другі раз ільнянымі ніткамі.

— Гэта — дзядулева кабура, — пахваліўся кірпаносы.

Мужчына ўзяў яго за руку (дзяўчынкі-блізняткі самі пабеглі за імі) і вывеў на вуліцу. На доме была прымацавана шыльдачка. Вуліца, на якой ім выпала жыць, называлася імем іх дзеда. Яны таксама насілі такое прозвішча, якое меў і іх дзед; ён шмат гадоў працаваў у міліцыі. Дзеці ведалі: загінуў, але бандыт ад яго не ўцёк. Бандыт той страляў у міліцыянера ва ўпор. Але перад тым лейтэнант паспеў выхапіць вось з гэтай кабуры пісталет і параніць бандыта...

Бацька некалі расказваў малым, што дзедаву кабуру, у якой той насіў пісталет, перадалі яму, як памяць аб подзвігу. Перадалі на вечнае захоўванне і ордэн. Адбылася трагедыя недзе тут, дзе пасля выраслі гэтыя дамы. Малыя прачыталі непрывычнае слова на шыльдачцы і прыціхлі. Толькі кірпаносы непаседа ўсё чапляў цераз плячо кабуру і прасіў у бацькі дазволу пагуляць у двары дома.

— Ладна, гуляйце, — кіўнуў галавой мужчына.

Дзеці сарваліся ад яго і праз хвіліну ўжо агалошвалі двор звонкімі крыкамі. Вылучаўся Данік. Ён хаваўся за альтанкай, падпільноўваў братоў і цэліўся з цацачнага пісталета, які дастаў з дзедавай кабуры, у братоў.

Жыццё працягвалася.

## ЛЫЖКА

Калі сям'я знаходзілася ў вёсцы і садзілася за стол абедаць, у кожнага была свая лыжка. Гаспадыня Аксана Пятроўна набыла неяк на кірмашы яшчэ некалькі адмыслова выразаных з ліпы і пакрытых фарбай лыжак. Яна імі доўга любавалася і гаварыла:

— Нават шкада імі карыстацца. Гэта ж — сапраўдны цуд. Бач, якімі ўзорамі іх размалявалі.

Але без шкадавання летам аддала тыя лыжкі самым меншым хлопчыкам-унукам. Яны заўсёды спяшаліся, часта сёрбалі боршч і моршчыліся, калі апякалі рот. Іх дзядуля Мацвей Захаравіч зрабіў на драўляных лыжках адмецінкі, каб малыя не пераблыталі, дзе чыя. Але яны ўсё роўна наравілі прыхапіць яго франтавую металічную лыжку. Ад часу яна сцерлася, завастрылася, але служыла яму яшчэ добра. Асабліва цікавіў малых на дзяржанні выбіты кручкадзюбы арол, які трымаў у лапах свастыку. Мацвей Захаравіч жартаваў — казаў, што лыжка зроблена са срэбра і прайшла з ім салдацкі шлях ледзь не да самага Берліна. Цяпер жа, калі Аксана Пятроўна купіла малым новыя драўляныя лыжкі, яны на нейкі момант забыліся на "срэбраную" дзедаву. Колькі разоў Мацвей Захаравіч збіраўся зрэзаць напільнікам таго ўчэпістага арла, ды ўсё не даходзілі рукі. Пасля ён папросту махнуў на тое і не звяртаў больш увагі на свастыку.

Гісторыя ж лыжкі была такой.

У часе адной атакі на дом у невялічкім горадзе на Одэры, дзе сядзелі, як ведаў Мацвей, некалькі фашыстаў са славутай эсэсаўскай дывізіі "Мёртвая галава", на яго спіну з-за вугла кінуўся адкормлены, бы вяпрук, фашыст. Рукі ворага, быццам абцугамі, абшчаперылі Мацвеева горла. Ён адчуў, як вось-вось выскачаць з вачніц вочы. Перад ім у шалёным танцы закруціліся чырвоныя кругі. Салдат захрыпеў і прыкладам аўтамата, наколькі хапала сіл, біў па спіне фашыста. Але гарляк здушвала ўсё мацней...

Карацей кажучы, ляжаць бы ў тым маленькім нямецкім гарадку Мацвею Сіманенку, калі б не сябра Ахмет. Татарын выпусціў з пісталета абойму ў "мёртвую галаву". Пасля з натугай расшчапляў пальцы, што ўпіліся ў Мацвеева горла, і ледзь іх ададраў. Мацвей доўга пасля сядзеў на нейкай перакуленай скрынцы, хакаў разяўленым ротам і няўцямнымі вачыма глядзеў на здаравеннага фашыста, што валяўся ля яго ног.

— Ну і ну, — матляў ён з боку ў бок галавой. — Такога бугая я, Ахмет, даўно не сустракаў, — калі трохі акрыяў, прамовіў Мацвей.

За ўсю вайну Сіманенка, барані Божа, каб пакваліўся на які трафей. Ён з гідлівасцю адкідваў штампаваныя танныя гадзіннікі, пліткі шакаладу, бутэлькі шнапсу, знойдзеныя ў немцаў, а вось лыжку, якую вывудзіў у ранцы эсэсаўца Ахмет, узяў.

— Няхай напамінае, што ты ледзь на тым свеце не пабываў, — сказаў яму Ахмет.

Тое амаль даўно забылася. Мацвей Захаравіч, як стаў дзедам, прыдумаў унукам няхітрую гісторыю. Быццам гэту срэбраную лыжку знайшоў, калі будаваў вось гэты дом у вёсцы. Сюды кожнае лета малых неслухаў прывозілі да іх з Аксанай Пятроўнай яго сын з нявесткай.

...Потым, як аднойчы прыехаў сын, Сіманенка доўга моўчкі наглядаў, як той нешта выстукваў на самаробнай накавальні — на абуху сякеры, заклiненай у калодзе.

— Што гэта ты майструеш? — пацікавіўся Мацвей Захаравіч.

— Блешню. Кажуць, на самаробную лепш шчупак бярэцца.

— Ці не з маёй лыжкі?

— А што? З серабра, ды яшчэ старога, такая блешня атрымаецца, бацька. Ты і сам спінінг у Сож не адмовішся закінуць.

— Перакоўвай мячы на арала, — незразумелымі для сына словамі адказаў сыну бацька і паволі патупаў да ганка дома.

## АРЫГІНАЛЬНА І ЦІКАВА



**У снежні беларускае кіно адзначыць сваё 70-годдзе. Гэтыя гады падарылі нямала ўдач, многія фільмы ўвайшлі ў класіку не толькі нацыянальнага, але і сусветнага мастацтва. А такія рэжысёры, як Ю.Тарыч, В.Тураў, І.Дабралюбаў, В.Рубінчык, М.Пташук і многія іншыя, займелі славу цікавых, творчых асоб, якія ўмеюць працаваць свежа і арыгінальна.**

**І цяпер, у наш нялёгкі, поўны праблем час, на студыі прадаўжаюць ствараць новыя работы. Асабліва цікавыя тыя, што звязаны з гісторыяй нашай дзяржавы і апавядаюць пра нашы нацыянальныя карані.**

*На здымку: рэжысёр Сяргей Пятроўскі і мантажніца Галіна Буднік за работай над дакументальным фільмам "Хутар".*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

## ДА ЎГОДКАЎ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

**26 лістапада ў Магілёўскім гарадскім доме культуры адбылася прэм'ера спектакля "На чорных лядах" па аднайменным апавяданні Васіля Быкава. Гэта была першая ў нашай дзяржаве спроба паставіць на сцэне твор вядомага пісьменніка, прысвечаны трагічнаму лёсу слуцкіх паўстанцаў.**

**Пастаноўку здзейснілі акцёры-аматары з тэатра-студыі "Машэка" (ГДК) пад кіраўніцтвам рэжысёра, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь Валянціна Ермаловіча. Вобразы барацьбітоў за незалежнасць Беларусі ўвасобілі дэкан філфака Яраслаў Клімуць (камандзір), Таццяна Крукоўская (Валодзя), І. Пушкін (Аўстрыяк), студэнты Алесь Чугай (Мяцельскі), Юры Дзегцяроў (Казак), Лявон Тарасенка (Забела), Валеры Тарасенка (Зубко), Алесь Змушка (Кажухар). Веліч постацяў падкрэслілі спевы ў выкананні дыпламанта нацыянальнага фестывалю аўтарскай песні Сержука Кулягіна.**

**І. П.**

## ВЫСТАВА АДНАГО ДНЯ

**Невялікая выстава ў сценах Беларускага ліцэя мастацтваў прадэманстравала творчасць студэнтаў ІІІ-га курса Беларускай акадэміі мастацтваў Дзяніса Сінюгіна, Віктара Лагоўскага, Андрэя Савіча, Дзмітрыя Махамета. У жывапісных і графічных работах сяброў-мастакоў, нядаўніх выпускнікоў вядомага сваімі традыцыямі ліцэя, знайшла адлюстраванне ўнутраная палеміка, інтэнсіўны пошук характару рэчаіснасці. Аўтары прыемна ўразілі сваёй назіральнасцю, не падмененай на дэкаратыўную эфектнасць. Можна лічыць удалай першую спробу перажыць разам з гледачамі (сярод іх сабраліся даволі вядомыя прадстаўнікі мастацкага свету) рознабаковыя пачуцці і эмоцыі ад адкрытага дыялога, неабходнага рэальнаму мастацкаму руху.**

**М. БАРАЗНА**

Тэатр

# ЖАНОЧАЕ "Я" СТЭФАНІ ЛАІК

Стэфані Лаік — жанчына эфектная. Прыгажуняй яе не назавеш, але яна мае своеасаблівую абаяльнасць, славуты французскі шарм. Строгасць, засяроджанасць побач з раскутасцю і праўдзівай свабодай. Стэфані Лаік — жанчына-рэжысёр, і гэтая прафесія ёй... пасуе.

Усё гэта я паспела заўважыць на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Купалаўскім тэатры 27 верасня, за два дні да прэм'еры спектакля "Дон Жуан вяртаецца з вайны". Праводзіць дапрэм'ерныя канферэнцыі ў нас не прынята. Але для спектакля французскага рэжысёра зрабілі выключэнне, пашырыўшы такім чынам межы эксперыменту. З'явілася магчымасць не проста зірнуць на іншую тэатральную эстэтыку, але і дачыніцца да іншаземнай культуры. Канферэнцыя вельмі прыдалася — для рэкламы. Пашыралася не толькі інфармацыя пра творчасць Стэфані Лаік і яе новы спектакль, але і эмацыйная прыўзнятасць, што ўтварылася з-за шматлікіх сутыкненняў акцёраў з прэсай. Артысты казалі пра любоў, пра агульнае дыханне, якое набылі ў працы. Гаварылі шчыра і з хваляваннем. Але журналісты ўпарта адмаўляліся ім верыць...

Часам карысная рэч — скандалы. Як ніхто і нішто яны цвеляць нашу цікавасць. Думаю, не адна я нецярпліва чакала прэм'еры. Нарэшце, 29 верасня, у чорнай пустэчы Купалаўскай сцэны гледачы ўбачылі добра знаёмых акцёраў. У амаль незнаёмай эстэтыцы...

Адной з асноўных мэт відовішча было стварэнне моцнай атмасферы. Атмасферы, якая б уздзейнічала на псіхіку і ФІЗІЯЛОГІЮ гледача. Адсюль — паўзмрок у глядацкай зале, панаванне чорнага колеру на сцэне.

Спектакль насычаны праверанымі сцэнічнымі эфектамі: кантраст чорнага і белага колераў у касцюмах артыстаў, вялізныя клубы дыму, паўзы, уціск музыкі Жана-Луі Мешалі, зладжаныя, пластычныя рухі акцёраў... Ствараецца гарманічны ансамбль, за якім стаіць эфектная Стэфані Лаік.

"Дон Жуан вяртаецца з вайны" выдае амаль на чыста жаночую пастаноўку. Між тым, існуюць аж два "віноўнікі" такой жаноцкасці: Стэфані і аўтар п'есы, драматург Одан фон Хорват.

Нагадаем сюжэт. Дон Жуан (яго ўвасабляюць восем акцёраў) вяртаецца з вайны. У праграмцы спектакля галоўнага героя вызначылі як "стомленага, спустошанага чалавека". Не магу пагадзіцца з тым, што Дон Жуан на вайне спустошыўся. Наадварот, ён набыў там мараль, якую адразу ж паяднаў са сваёй жывой непасрэднай прыродай — інстынктам. Чаму так адбылося? Найкрытычная сітуацыя мае, напэўна, каштоўную здольнасць паварочваць свядомасць чалавека на 180 градусаў.

Дон Жуан спрабуе адшукаць нявесту, якую кінуў яшчэ да вайны. Ён піша ёй лісты, але адказу не атрымлівае. А мог бы... Мог бы даведацца, што маладая паненка памерла, — так і засталася нявестай. І ўсё ж лісты Дон Жуана не заставаліся без адрасата. Змрочны кантраст: замест юнай дзяўчыны іх атрымлівала старая — бабуля маладой паненкі. Безнадзейны пошук Дон Жуана — помста старой кабеты, якая нагадвае ведзьму ці, можа, нават Смерць.

Вайна ў спектаклі падаецца праз аблічча жанчын, што сустракаюцца на шляху героя. Пакуты гэтых жанчын невыносныя. Вайна забрала ад іх усіх мужчын, і калі розум з гэтым неяк пагадзіўся, то жаночая прырода ўсё роўна вымагае свайго. Вядуць рэй нармальныя прыродныя інстынкты.

Дон Жуан праходзіць праз гэтых жанчын, шукае ў іх свой адзіны ідэал, і, урэшце, прыходзіць да Смерці. І сапраўды, ці існуе больш верны і надзейны ідэал, чым халодная Смерць?

Вось такому сюжэту надала Стэфані Лаік прыгожую, па-жаночы вытанчаную форму. Пастаноўку "Дон Жуана" я б назвала яшчэ спектаклем рэжысёрскай формы. І ўсё ж акцёры ў ёй заслугоўваюць асобнай гутаркі.

Змаганне маралі з фізіялогіяй могуць вызначыць, увасобіць толькі акцёры. Расклад даволі просты: жаночую палову апанавалі інстынкты, Дон Жуан цягнецца да маралі.

Я заўсёды меркавала, што мужчынская любоў і дружба мацнейшыя за жаночую. Спектакль пацвердзіў гэта. Восем Дон Жуанаў сапраўды здаваліся адным цэлым. Можа, таму, што яны больш моцна, чым жанчыны, адчулі "агульнае дыханне"?

Актрысы нашы цудоўна авалодалі формай вобразаў. Яны глядзеліся сапраўды эфектна. І ўсё ж мы павінны былі ўбачыць перш за ўсё жудасна-чыстую, адкрытую чалавечую прыроду. Прыроду, дзе ўладараць крайнасці. Жаночае "я" Стэфані Лаік выявілася не на карысць пастаноўкі. Рэжысёр паспрабавала данесці думку праз прывабныя эфекты святла і гуку, забыўшыся на тое, што прырода і тэхніка, мовім так, не заўжды сябруюць.

З агульнага жаночага ансамбля вылучылася Алена Іваннікава. Дапамагла ёй у гэтым сама роля: свядомая пралетарка. Але нешта падобнае ў яе выкананні ўжо бачыў глядач у спектаклі М. Пінігіна "Гаральд і Мод".

Незабыўнае ўражанне пакінула маладая актрыса Алена Конска. Танклявае дзяўчо з акіянам роспачы ў вачах. Я бачыла яго! Я бачыла, што паглынае гэты акіян, і мне рабілася жудліва.

Нязвыкла было назіраць за адметным самавыяўленнем Стэфаніі Станюты. Актрыса выклікала захапленне, бо адчувала сябе ў вобразе вельмі свабодна і раскавана. Нездарма Стэфанія Міхайлаўна казала на канферэнцыі пра вяртанне ў маладосць — да тэатраў Вахтангава, Таірава, Меерхольда. Народная артыстка дакладна пераклала французскую эстэтыку на блізкую ёй мову.

Новы спектакль многія ўспрынялі адмоўна. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Стэфані Лаік папярэджвала, што пастаноўкі яе кладуцца не на кожны густ. І ўсё ж асноўная прычына такога непрыняцця — у шчырай любові нашага гледача да акцёраў, якіх ён прывык бачыць у ярка індывідуалізаваных вобразах. Стэфані Лаік не прымае ў тэатры сістэмы зорак. Яе жаночае рэжысёрскае "я" закрывае "я" акцёрскае...

**Алена МІГАЛЬ,**
**студэнтка Акадэміі мастацтваў**

***АД РЭДАКЦЫІ.*** *Мяркуем, што дэбют крытыка на нашых старонках не вычарпаў тэмы дзеяння й супрацьдзеяння нязвыкласцей на Купалаўскай сцэне. Пакуль "Дон Жуан вяртаецца з вайны", абяцаем вярнуцца і да "Дон Жуана..."*

*На здымку: Стэфані Лаік на рэпетыцыі.*

*Фота У. ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ*



Тэлебачанне

# «...МЫ ТОЛЬКІ ПАЎТАРАЕМСЯ»

***Што ўяўляе сёння сабою беларускі тэлевізійны тэатр — пасля мінулых пастановак і яркіх імёнаў, якія зрабілі яму вядомасць? Увасабляецца ўсё менш і менш. Мо яшчэ менш даходзіць да экрана? Перш як адважыцца на грунтоўны аналіз мастацкіх і пазамастацкіх праблем, некалькі пытанняў — спраўнаму прафесійніку, рэжысёру, аўтару папулярных перадач і адметных пастановак (такіх, як "Знак бяды" паводле В. Быкава або "На куццю" Янкі Купалы) Наталлі АРЦІМОВІЧ.***

— І сёння, нават не сумняваючыся, я адкажу: тэлетэатр не ўяўляе сабою нічога. Яго проста няма. Тыя драбніцы, што раз-два на год з'яўляюцца на вочы публіцы, — выпадковыя. А тэатр не можа спраўдзіцца выпадкова.

**— Наталля Уладзіміраўна, але ж было...**

— Па-першае, сістэмы, плана не існавала ніколі. Усё залежала — часам ад прагі выказацца, часам і ад прыхамаці — Карпілава, Траццякова, сяго-таго з тэатральных ці кінарэжысёраў. І добра, калі — рэжысёраў, а не адміністратараў. Яшчэ ў часопісным варыянце трапіў мне ў рукі твор Быкава, і мы з рэдактарам Верай Савінай здолелі зрабіць тэлесцэнарый. Вельмі й вельмі даўно Дзіма Падбярэзскі прынёс "нацыяналісцкую" або з якім там яшчэ цэтлікам Купалаву перліну, і са мной рызыкавала Алена Шкаева. Невялікая, дваццаціхвілінная "На Куццю" — колькі гучаць вершы, — але любая работа... Іх абедзве праз гады не хочацца перарабляць, нешта мяняць.

**— А чаму ў рэдакцыі не заахвочвалі выбар сусветнай класікі, не кажучы ўжо пра творы разнамоўных сучаснікаў?**

— Пераконвалі нас, што гэтым мусіць займацца Масква. Масква, як вядома, і займалася, абсалютна справядліва прапагандуючы ў кожным тэлетворы — амерыканца, француза або шатландца — рускую культуру. Праўда, Карпілаў часам мог ставіць... ды хоць бы "Федру", падаючы яе як бенефіс актрысы, што выконвала цэнтральную ролю.

**— Ну тады пытанне дылетанта: а што ж уваходзіць у сферу дзейнасці літаратурна-драматычнай рэдакцыі па большыні сваёй, як не мастацкае вяшчанне?**

— Не ведаю, ці маю я права крытыкаваць існуючую структуру нашага ўтварэння ды кірункі дзейнасці, але выказаць уласныя меркаванні — чаму б не? Здаўна наш накірунак — няслушны. Быў час, мы з імпэтам цягнулі на экран праблемы, пытанні, каментарыі ды адказы на іх. Праўда, я такіх перадач амаль не рабіла. У нас, сяк-так, ды не адабралі яшчэ права на выбар матэрыялу. Але агульны кірунак, на які мусяць адрабляць калегі, няслушны тым, што наша рэдакцыя толькі паўтарае тое, што з большым поспехам робяць іншыя рэдакцыі. Адной праблемнай аглядная перадачы на месяц нам бы выстачыла; мы б пунктірам распавялі пра прэм'еры, выставы, юбілеі і далі б слова тым, хто захацеў бы яго ўзяць. Або прымеркавалі б да блоку сваіх перадач якійсь творчы партрэт — скажам, такі, як юбілейны партрэт Віктара Тарасава, — карыстаючыся выпадкам, хацела б яго і праз газету пабіншаваць. А астатняе — сілы, сродкі, грошы — кінуць бы на пастановачныя работы. На тэлевізійныя серыялы, вялікія і маленькія. На спектаклі! Менавіта праз іх трэба было б прадстаўляць нашых акцёраў ды рэжысёраў, а не праз бясконцыя гутаркі-каментарыі кшталту "вох, як нам цяжка спраўдзіцца!". Мы столькі паўтараемся! Стэфанія Міхайлаўна Станюта за адзін тыдзень можа з'явіцца ў пяці праграмах, дзе ад яе (авохці!) вымагаюць аднаго і таго самага. А то гадзінамі можам круціць вечарыны Дома літаратара, сфільмаваныя цапом-лапом...

**— Карацей, трэба, каб вашы перадачы ўяўлялі сабою маленькую мастацкую падзею на экране — у ідэале. Але ж ці такая гнуткая сістэма — наша тэлебачанне, каб... калі-небудзь змяніцца, і не мардаваць людзей жарцікамі "Каралеўскага палявання" або яўна непадрыхтаванымі, непрадуманымі "Караамболямі"? Сярод іх, нарэшце, з'яўляюцца адметныя перадачы кшталту "Прас-**

Музыка

# ЯК МІКОЛА СТОМА НЕ ЗАСТАЎСЯ ДОМА

## МУЗЫЧНА-ГЕАГРАФІЧНАЯ ІДЫЛІЯ З ЭЛЕМЕНТАМІ ІНТЭРВ'Ю

Як? Вы не памятаеце Міколу Стому? Тады нагадаю: кампазітар, колішні выпускнік Беларускай кансерваторыі па класе прафесара Д. Смольскага. Дзякуючы падтрымцы з боку беларускай музычнай грамадскасці, а таксама клопатам Згуртавання палякаў Беларусі, атрымаў магчымасць за кошт польскай дзяржавы прадоўжыць адукацыю ў Варшаўскай музычнай акадэміі. Пасля двухгадовай стажыроўкі застаўся там працаваць: выкладчыкам агульнага фартэпіяна, канцэртмайстрам, настройшчыкам фартэпіяна. Але пра Беларусь не забываецца і падчас сваіх прыездаў у Мінск абавязкова наведваецца ў "ЛіМ"...

— Мікола! Яшчэ калі вы вучыліся ў Мінску, чула пра вас прыпеўку: "Мы свайго Міколу не аддамо нікому". І вось вы, нарэшце, нават не ў бацькоў у Вільні, а ў Польшчы...

— Ведаеце, як мяне ў Польшчы прадстаўляюць? Беларуска-літоўскі кампазітар польскага паходжання. Я ад Беларусі ніколі не адмяжоўваўся. Больш за гэта, сёння з'яўляюся як бы "міжнародным каментатарам" па праблемах беларускай музыкі. Бо калі дзе-небудзь узнікаюць пытанні пра беларускую музыку, дык "геаграфічна" лягчэй звярнуцца да мяне.

— А ведаў для тых "каментарыяў" хапае?

— Я вельмі ўдзячны сваім беларускім выкладчыкам, якія далі мне для гэтага стартавы штуршок і ў далейшым ніколі не адмаўлялі ў дапамозе. Я надрукаваў некалькі артыкулаў пра гісторыю беларускай музыкі, беларускі фальклор, пра прафесійную музычную культуру на Беларусі XVIII—XIX стагоддзяў. Спрабаваў праз польскае радыё прыцягнуць да нашай музыкі польскіх слухачоў. У гэтым мне ахвотна дапамагалі супрацоўнікі Беларускага радыё, якія далі магчымасць выкарыстаць запісы розных гадоў.

— Якой жа бачыцца сучасная беларуская музыка, калі глядзець на яе з Захаду? Ці мае яна шанц увайсці на роўных у еўрапейскую культуру?

— Ужо ўвайшла! Праз адзін з часопісаў я з задавальненнем даведаўся, што кампакт-дыск з музыкай Дзмітрыя Смольскага ў сакавіку 1992 года быў на першым месцы ў хіт-парадзе. Ці ж гэта не доказ?

Згадзіцеся, прыемна чуць, што не толькі беларускі аўтэнтычны фальклор, але і беларуская прафесійная музыка пачала карыстацца на Захадзе такім попытам. І адначасова балюча, бо сам Д. Смольскі, наколькі я ведаю, не атрымаў нават ганарару за той дыск, выдадзены фірмай "Алімпія" ў Вялікабрытаніі. Мабыць, "геаграфія" перашкодзіла?

Як бы ні было, думаю, амаль усе згодзяцца, што таленты нараджаюцца незалежна ад геаграфічнага становішча. А вось іх далейшае развіццё шмат у чым залежыць ад культурнага асяроддзя. Прызнаюся, асабіста мне, у дачыненні да сучаснай Польшчы, спакою не даюць не столькі сусветна вядомыя імёны Лютаслаўскага і Пендэрэцкага, колькі сусветна вядомы фестываль "Варшаўская музычная восень". І я спыталася пра гэта ў нашага "польскага сябра":

— Чаму, на ваш погляд, менавіта "Варшаўская музычная восень" мае найвялікшы рэзананс сярод аналагічных фэстаў? І ці чакае падобная будучыня фестывалі авангарда на Беларусі?

Другую частку пытання Стома, тактоўна ўздыхнуўшы, абышоў. На першую ж адказаў так:

— Калісьці яшчэ Напалеон гаварыў: "Усё вырашае геаграфія". І я з ім згодны. Польшча змагла цудоўна выкарыстаць сваё геаграфічнае становішча ў цэнтры Еўропы, на скрыжаванні ўсіх шляхоў. Але галоўнае не толькі ў гэтым. Вялікую ролю адыгралі самі музыканты. Польскія кампазітары вельмі скансалідаваныя. У іх няма барацьбы паміж групоўкамі. Можа, з гэтай прычыны яны змаглі больш за 20 гадоў таму давесці, што музыка не павінна быць толькі нявольніцай ідэалогіі. У выніку правядзення "Варшаўскай музычнай восені" стала лічыцца прэстыжам усёй Польшчы. Падкрэслю: усёй Польшчы, а не толькі яе музычна-грамадскай часткі.

Ах, ідылія! Зусім фантастычная для Беларусі, дзе міжнародныя фестывалі авангарда ладзяцца напалову на энтузіязме. Але ж — ладзяцца! І так хочацца верыць, што сапраўдны прэстыж беларускай кампазітарскай і наогул музычнай школы — наперадзе. Ізноў ідылія?..

— Мікола, якія творы вы напісалі ў Варшаве?

— Гэтыя два гады былі для мяне больш "рамесніцкімі". Акрамя спецыяльных заняткаў у Збігнева Рудзіньскага, я падрабязна знаёміўся з электроннай музыкай, праходзіў абавязковы для кампазітараў курс дырыжыравання, вывучаў акустыку, ударныя інструменты, пашыраў веды ў галіне старадаўняй і сучаснай музыкі. І ў творчым плане апынуўся нібы на ростанях: зараз я магу ісці ў тым музычным напрамку, у якім пажадаю, — але яшчэ не ведаю, куды пайду. Тым не менш, створаны мной у мінулым годзе Эцюд для арфы ўжо выконваюць у музычных акадэміях ЗША. А "Строфы" для фартэпіяна, напісаныя ў Мінску, гучалі на фестывалі "Сусветныя дні музыкі" ў Варшаве...

Згадзіцеся, прыемна чуць, што творы не толькі Д. Смольскага, але і ягонага выхаванца маюць на Захадзе такі поспех. Мабыць, "геаграфія" дапамагае? Тады як зрабіць, каб яна дапамагала ўсім талентам без выключэння? Іншымі словамі, як вярнуць Беларусі былы статус культурнага цэнтра няхай не Еўропы — няхай проста "культурнага цэнтра"? Скажаце, ідылія?..

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

# СЕЗОН ПАЧАЎСЯ... З УВАХОДЗІНАЎ

18 лістапада ў тэатры "Лялька" (Віцебск) святкавалі ўлазіны ці, як кажуць агульналітаратурна, уваходзіны ў свой уласны будынак. Было запрошана шмат гасцей: да нас завіталі акцёры-лялечнікі з тэатраў Мінска, Брэста, Маладзечна, Магілёва, Гомеля, і нават з блізкага замежжа — Іванава, Смаленска, Роўна. Гледачоў чакала ўрачыстае асвячэнне будынка і глядзельнай залы (яго ладзіў настаяцель Свята-Пакроўскага сабора айцец Мікалай), у адмысловым фае выступаў сімфанічны аркестр Віцебскага музычнага вучылішча, а ў глядзельнай зале дзівілі сваім майстэрствам Алег Жугжда ды Ларыса Мікуліч, Валеры Глазкоў ды Алена Конска, Руслана Сакалова ды Барыс Трусій. Тэатр "Лялька" віншавалі намеснік міністра культуры і друку Вадзім Дапкюнас і тэатральны крытык Таццяна Ратабыльская, намеснік старшыні аблвыканкама У. Цацоха і начальнік абласнога ўпраўлення культуры і друку М. Пашынскі, дырэктар (ён жа мастацкі кіраўнік) Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа Валерый Маслюк і народны артыст Беларусі Яўген Шыпіла... Як і шмат хто іншы. Удзельнікаў свята чакаў таксама акцёрскі капуснік, дзе ў жартоўна-парадыйнай форме ўвасобілася пакуль яшчэ кароткая гісторыя тэатра "Лялька".

Тых жа, хто не змог патрапіць на ўваходзіны, 20 лістапада чакала ўрачыстае адкрыццё тэатральнага сезона. Раніцай маленькіх гледачоў віталі ўдзельнікі цымбальнага аркестра, тэатра-студыі "Мара" і ўзорнага ансамбля танца "Рамонкі" абласнога эстэтычнага цэнтра, а таксама героі спектакля "Дапытлівы слонік" паводле казкі Р. Кіплінга. Увечары дарослых гледачоў чакала сустрэча са шкалярамі Полацкага езуіцкага калегіума ў спектаклі "Загубленая душа, альбо Пакаранне грэшніка" па творах Яна Баршчэўскага.

Тэатр "Лялька", які па самой сваёй спецыфіцы не можа быць прыбытковым, вельмі цяжка пачуваецца ў жорсткіх рынкавых умовах. Таму яго калектыў і выступіў з ініцыятывай адкрыцця Фонду падтрымкі дзіцячых тэатраў і ўзорных калектываў. Некаторыя арганізацыі ўжо пералічылі на ягоны рахунак грашовыя сродкі. Напрыклад, сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства "Белвест", Прафбанк, віцебскае прадстаўніцтва Фонду Сораса.

Перадусім гэтая падтрымка — творчасці. Спектаклю "Хлопчык-зорка" паводле А. Уайльда (пераклад на беларускую мову У. Сіўчыкава), п'есе "Залаты пярсцёнак" па матывах беларускага фальклору — яе напісаў мастацкі кіраўнік "Лялькі" Віктар Клімчук. Ён жа сам будзе ажыццяўляць пастаноўку. А напрыканцы сезона чакаецца яшчэ адна прэм'ера — "Страшнік Гам" па п'есе Пятра Васючэнкі.

**Юрась ІВАНОЎСКІ,**
**загадчык літаратурнай часткі тэатра "Лялька"**

# ЗАГАДКА ТАМАРЫ РАЕЎСКАЙ

У гэты вечар заслужаная артыстка рэспублікі Тамара Раеўская не спявала. Нават папрасіла спыніць магнітафонную касету, на якую спецыяльна да гэтай сустрэчы перапісалі ладную падборку песень. У гэты вечар Тамара Рыгораўна проста гутарыла са сваімі слухачамі. Адказвала на пытанні. Спавядалася — як, мабыць, ніколі раней. У сціплай і зычлівай атмасферы гасцёўні У. Галубка, дзе адбывалася сустрэча, выпроствала крылы загадкавая прыгожая душа гэтай таленавітай і шчырай беларускай жанчыны. Збалелая душа... Зграбная, элегантная пастава, прывабны, лагодны твар Артысткі, мяккія, лірычныя інтанацыі ў голасе і за ўсім гэтым — прыхаваны душэўны боль. За апошні год Тамары Рыгораўне давялося пахаваць пяць блізкіх родзічаў, у тым ліку мужа і маці, якая памерла зусім нядаўна. Дзякуй Богу, побач заўсёды былі добрыя людзі: дапамагалі, падтрымлівалі... Вось і тут, на вечарыне, Т. Раеўская адчула шчырую маральную, духоўную падтрымку людзей.

А гаворка, ладзіць якую дапамагала загадчыца гасцёўні Наталля Мяцеж, была пра самае рознае. Пра дзяцінства спявачкі ў вёсачцы Дварок на Магілёўшчыне, пра бабулю ды дзеда, пра "спеўную" сям'ю, пра навакольныя краявіды і свойскіх гусей, пра старую, нязграбную ды плодную яблыньку, якой Т. Раеўская прысвяціла радкі свайго першага, нядаўняга, яшчэ нідзе не надрукаванага эсэ. Гаварыла пра мару стаць доктарам, працу ў клініцы, спробу паўдзельнічаць у спявацкім конкурсе, якая завяршылася нечаканай прапановай — працаваць салісткай у аркестры радыё, пад кіраўніцтвам Б. Райскага. Гаварыла пра любімыя песні і густ у паэтычных тэкстах, пра колішнія гастрольныя вандроўкі ды цяперашні стыль на эстрадзе, пра творчасць і незабыўную асобу Ю. Семянякі, які, ужо апанаваны цяжкай хваробай, шчыра павіншаваў спявачку з юбілеем — у сваёй лімаўскай публікацыі... Тамара Рыгораўна зычліва і хораша казала пра сваіх маладзейшых калег: Я. Еўдакімава, І. Афанасьеву, Я. Паплаўскую ды А. Ціхановіча, А. Саладуху, Н. Тамелу, А. Саўленайтэ. Не рабіла сакрэту і са сваіх любімых страў... Чытала ўласныя вершы, якія напісала 12 гадоў таму, рыхтуючыся да свайго творчага вечара: "Нарадзілася я ў вёсцы, у жытнёвым краі...".

А мо і добра, што ў гэты вечар так і не дайграла касета з лепшымі песнямі Тамары Раеўскай... Мы пачулі больш каштоўнае — жывы, жыццёвы, "зямны" голас, праз які спавядалася і раскрывалася багатая, загадкавая душа Артысткі.

**С. Б.**

**пекта", але ж мы — пра перадачы мастацкія... Пра тэлетэатр. Памятаю, вы неяк расказвалі: ад пачатку да канца здымак можа мінуць столькі часу, што ўжо забудзешся, з чаго пачынаў.**

— Ну вось у кастрычніку-лістападзе мільганула мая рэпартажная перадача памяці Ганны Рыжковай, — я здымала яе ў красавіку. Мантажу да апошняга часу не давалі, апаратныя былі занятыя...

**— А колькі ў вас апаратных?**

— Дванаццаць. Ці не столькі ж рэдакцый...

**— ?! Так што сам факт з'яўлення чаго-небудзь на экране можна лічыць падзеяй?**

— Вядома ж! Наша работа ў старой структуры — гэта бясконцае пераадоленне перашкод. Бясконцых. Бо галоўнае, здаецца, гэта нашы інфармацыйныя перадачы. А мастацкія... Мы аднойчы палічылі, што рэжысёру, каб скарыстацца з усіх выгод тэлемантажу і, скажам, будаваць відэашэраг з фотаздымкамі, фрагментамі кінастужак і да т. п., трэба запоўніць дваццаць дзве паперыны. Цяпер паперын паменела. І — толькі.

**— Разумею, што змагацца з сістэмаю — значыць, траціць сілы творчыя. А калі паперы падпісаныя, што застаецца? Клеіць Льву Сапегу бараду Іллі Мурамца? Або пачкамі знішчаць цыгарэты для натхнення?**

— Згодная, што ў нас працуюць без пэўнай вывучкі. Разумеюць — робяць. Не разумеюць — усё адно мусяць рабіць. Што ўсё засяроджваецца на грашах і толькі на грашах, выдаткаваных на перадачу. Я знайшла выйсце ў рабоце з пастаяннай суполкаю — рэдактарам Марынай Вашчулай, аператарам Уладзімірам Хромавым і мастачкай Аленай Шкаевай. Вось ты тут жартавала наконт барады Іллі Мурамца...

**— Каб жа жартавала!**

— Прынамсі, Алена — у самай адказнай ступені высокаадукаваны мастак. Яна не дапусціць адчэпнага ў кадры. У шараговых перадачах, — скажам, крэсла ды стол паставіць, — я аддаю перавагу ёй, бо яна зробіць гэта з разуменнем пабудовы кадра і з густам. Яна ніколі не пойдзе з запісу, ніколі! Шчасце, калі ўсе мастакі так працуюць... Спраўны тэлевізійнік — гэта школа не аднаго года працы. Яе няшмат хто мае.

**— Мастацкія перадачы шмат маюць ад паўтораў-назолаў рэкламы?**

— Нашы — нічога.

**— А ў вашых перадачах рэклама не ідзе, таму што вы часта выходзіць не можаце?**

— Я думаю, што месца і становішча мастацкіх праграм, увогуле праграм творчых на нашым тэлебачанні такое, як месца і становішча культуры ў нашым грамадстве. Ва ўрадзе. Мы або жабруем, нэндзім, або ліпім на рэшткі. А я — чалавек творчы. Хораша я хачу рабіць спектаклі. Грошы я рабіць не ўмею...

**— Ну тады пытанне як да рэжысёра ці не самай вядомай перадачы "Пяць хвілін на жарты", — перадачы, вельмі рознай па ўзроўні, але ўжо вельмі любімай тэлегледачамі. Праўда, асабліва неэстэтычна глядзіцца ў вашых інтэр'ерах госць з іншай, не вашай, чужой перадачы — вядучы "Семи минут с "Христофором"; хоць, мовім так, экранізаванне показак варта вітаць...**

— У тэлебачання ёсць адно адгалінаванне, куды зусім пайшлі два нашы здольныя рэжысёры — Андрэй Астравух і Сяргей Равункоў, вучні, дарэчы, Карпілава. Яны стварылі тэлекампанію "ФІТ". Пачалі з перадачы "Пад купалам Сусвету", пашырыліся. "Пяць хвілін на жарты", якія спачатку мусілі называцца "Штовечар — показка" (але ў праграме далей зазвычай стаяла: "На сесіі Вярхоўнага Савета", сама разумееш, назву загадалі змяніць), — іх другая перадача. Цяпер яны робяць "Праспект", "Эканамікст", маюць яшчэ колькі адметных задумак. Дык вось, са сваімі штовечаровымі жартамі яны звярнуліся да мяне, а я анекдотаў не расказваю, не запамінаю і нават не люблю. Затое любіць Валеры Філатаў! З ім, з вядучым, мы і цяпер шукаем аблічча перадачы, здымалі былі ў Купалаўскім тэатры, у студыі... Шчаслівым сталася рашэнне звярнуцца да гледачоў і абвясціць конкурс: пошту носяць мяхамі. І што пішуць! "Валеры Мікалаевіч, родны, любы, даражэнькі!" Пішуць, што ў скрутную часіну ён для іх — прамень святла. Надзея на лепшае. Што для знявечанага, прыкутага да ложка чалавека — рэабілітацыйны сродак. І — дасылаюць показкі. Сшыткамі. І ўсё болей — уласныя. І ніхто б так, як Валеры, не сядзеў бы, не чытаў бы, не выбіраў бы гэтыя лісты: Валеры вельмі любіць людзей. Прынцыпова грунтуе перадачу на сувязі з імі. Так, на нас сварацца, часам і лаюць, — за кепскі густ, за анекдоты з "барадой". Так, трэба мяняць прыёмы, эстэтыку, падыход. Але мне — не сорамна займацца такой "прасцякаватай" перадачай. З-за магутнай адваротнай сувязі! Зрэшты, вядучага з "Хрыстафора", Яўгена Крыжаноўскага, запрасілі пад размовы пра тое, што трэба, маўляў, мяняць нашага вядучага, што ў Філатава зашмат спраў і роляў у тэатры... А Крыжаноўскі — бадзёры, раскуты, нават нахабны...

**— І такую, перапрашаю, часам лухту вярзе...**

— І таму я настойваю, — вядучага перадачы не трэба мяняць. Як не варта здымаць з Валерыя гальштук-матыль: дай веры, нам сур'ёзна даводзяць, што показкі ў гарнітуры ды пры гальштуку не расказваюць!..

**— Вы можаце ўплываць на стратэгію і тактыку нашага тэлебачання?**

— Ні я асабіста, ні, думаю, мая рэдакцыя. Нам абрыдла бясконцая змена ўлады: кожнага новага начальніка трэба нанова вучыць нашай справе. Хто такое вытрымае? Які час для набыцця кваліфікацыі спатрэбіцца яму — каб хоць маральнае права мець намі кіраваць?

**— Ну, прынамсі, не "Акадэмічны час у акадэмічным тэатры", — калі няма магчымасці ставіць тэлеспектаклі, вы ўзяліся папулярызаваць тэатральныя правы?**

— Гэтую перадачу пра Купалаўскі тэатр нам завяшчаў Ванкарэм Нікіфаровіч, былы загадчык літаратурнай часткі тэатра. Ён быў распачаў яе ў тэлестудыі, але мы аддалі перавагу праўдзівай тэатральнай атмасферы. Якасць перадачы залежыць ад таго, якія спектаклі мы паспяваем зняць, маючы тэхніку. І вельмі, завельмі часта з-за несуаднесенасці з афішаю губляем вабныя сюжэты. Але я вельмі люблю акцёраў, і пакуль няма магчымасці працаваць з імі на тэлебачанні, буду здымаць іх у родных сценах...

**— І хто б мне адказаў, калі гэтая магчымасць з'явіцца?**

**Гутарку вяла Жана ЛАШКЕВІЧ**

## І ВОСЕНЬ "ПЕРШАЦВЕТУ" — НЕ ПЕРАШКОДА

**Чарговы, адзінаццаты нумар часопіса — вершы С. Палешука, І. Явіч, Т. Сілінай, В. Курбекі, А. Бакача, К. Мяшковай, Я. Збажыны, А. Петрушкевіч, Ц. Лапіцкага, М. Башуры, У. Цацуніна, М. Лешчуна. Не ўсе з гэтых імёнаў пакуль што нешта гавораць чытачу...**

**Што ж, "Першацвет" застаецца прыхільнікам аднойчы абранай пазіцыі — найперш падтрымліваць самых-самых маладых. У гэтым сэнсе, бадай, не выключэнне і чарговыя празаічныя падборкі: творы А. Барткевіча, А. Бычкоўскага, І. Шаўляковай, Т. Пяшко, Э. Прасмыцкага, А. Ветаха, Г. Пчалаводавай.**

**У "Гасцёўні" прадстаўлены апавяданнем "Андрэйка" С. Новік-Пяюн, вершамі — М. Дукса. У раздзеле "Повязь" І. Крэнь расказвае пра свайго бацьку П. Крэня і прапануе некалькі яго вершаў.**

**Прадстаўнічы раздзел "Крытыка": артыкул Т. Цвіркі "Танкаўскаму свету пакланяюся...", рэцэнзія С. Мандрыка на кнігу прозы Б. Лагоды "Сабака без ашыйніка", слова В. Саламевіч пра зборнік вершаў і мініяцюр у прозе А. Кірвеля "Урбанія", агляд В. Шніпа паэзіі першацветаўцаў "На крылах вобраза".**

**У "Жароўні" — падборка дакументальных навел А. Гардзіцкага "Жартам пра сур'ёзнае" і сяброўскія шаржы Д. Слінко і Э. Акуліна.**

## ТУРБОТЫ АБ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Адбылося чарговае пасяджэнне секцыі дзіцячай літаратуры, якое вёў яе старшыня А. Вольскі. Аб стане выпуску дзіцячай літаратуры, праблемах і цяжкасцях, а таксама аб планах на бліжэйшыя два гады расказаў галоўны рэдактар выдавецтва "Юнацтва" М. Пазнякоў.**

**На пасяджэнні выступілі таксама У. Ягоўдзік, Д. Слаўковіч, М. Яфімава, У. Мацвеенка, М. Чарняўскі, Н. Галіноўская. Адзначалася паспяховая работа выдавецтва "Юнацтва" па выпуску сучаснай беларускай літаратуры і фундаментальных серый. Выказаны шэраг парад і пажаданняў.**

**Напрыклад, М. Яфімава, адзначыўшы сур'ёзныя адносіны "Юнацтва" да зместу, мастацкага афармлення кніг для дзяцей, выказала ў адрас выдавецтва "Лазурак", якое выпусціла двухтомную чытанку "Залатыя каласкі", заўвагі, што тычацца шэрагу арфаграфічных і тэкставых памылак.**

**Прынята рашэнне правесці ў час зімовых канікул Калядны тыдзень дзіцячай літаратуры, а ў 1995 годзе ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі сумесна з Міністэрствам культуры і друку — "круглы стол", прысвечаны выпуску літаратуры для дзяцей усімі дзяржаўнымі і недзяржаўнымі выдавецтвамі Беларусі.**

**Разгледжана творчасць рэчыцкага літаратара Анатоля Караленкі, якому дадзена рэкамендацыя для прыёму ў Саюз пісьменнікаў.**

**М. ЛУГАВЫ**

## ЗАПАЛІЛА "ПРАЛЕСКА"... "ЛУЧЫНКУ"

**У сваім дзевятым нумары часопіс "Пралеска" адкрывае "індывідуальную самастойную школку "Лучынка", што ставіць задачай "спрыяць не толькі авалоданню вуснай беларускай мовай, чытаннем, выразным расказваннем, а і пазнанню гісторыі, культуры, прыроды нашай Беларусі, этыкі жыцця і паводзін чалавека". Рэкамендацыі В. Юбко падаюцца пад загалоўкам "Магутнае слова ты, роднае слова..."**

**А. Бадак працягвае рубрыку "Маленькі чалавек у вялікім свеце" — "Калі б людзі не працавалі". Актуальныя праблемы нацыянальнага Адраджэння закранае ў артыкуле "Цунамі перад штылем?" галоўны рэдактар "Пралескі" А. Сачанка. У раздзеле "Вясёлы вулей" прапануюцца творы М. Пазнякова, С. Валодзькі, С. Новіка-Пеюна, а ў "Чытанцы" "Пралескі" — вершы А. Кавалюк.**

# ГОДНАСЦЬ

## Нічыпару ПАШКЕВІЧУ — 70



Запомнілася з не так даўняга. Стаю, размаўляю з адным маладым літаратарам. Паважліва вымаўляю з якойсьці нагоды гэтае імя — Нічыпар Пашкевіч. І — перасмыкаецца суразмоўца. Ну, маўляў, то фігура яснай арыентацыі, ваш Пашкевіч. Артадокс, дагматык, з усіх сіл выслужваўся перад партакратыяй. Дапяў жа быў да пасады ў рэдакцыі "Правды"!..

Я аж засмяяўся і згадаў, як у семдзесят трэцім годзе, якраз тады, калі Пашкевіч займаў у Маскве досыць прыкметныя наменклатурныя пасады, мне, адказнаму сакратару "ЛіМа", выпала паўстаць перад грознай правяральнай камісіяй, што прысланая была ў рэдакцыю, як той парой гаварылася, "з інстанцый". Узначальваў камісію — куды вышэй! — член бюро ЦК КПБ, а памагаў яму, не надта дасведчанаму ў спецыфіцы рэдакцыйнай крутаверці, тагачасны загадчык аддзела культуры ЦК. І калі, адказваючы на пытанні, сказаў я, што наша газета пасля таго, як яе пакінуў Пашкевіч (ён быў галоўным рэдактарам "ЛіМа" восем гадоў), пакацілася ўніз, высокі партыйны куратар рэспубліканскай культуры замахаў рукамі, заспяшаўся ўвесці ў вушы старэйшаму па камісіі правільнае, як лічыў, уяўленне пра названую мной персону. "О, Пашкевіч! Мы з ім проста мучыліся! Няшчасцем быў для майго аддзела, наогул для ЦК. Сядзеў абсалютна некіруемым рэдактарам! Гаворыш яму, даводзіш нешта, — робіць па-свойму! Нібы таго, што даводзілася, і не чуў..."

Пішу гэтыя радкі, зноў згадваю тое ўжо няблізкае, і думаю аб прыкрай уседазволенасці, што часцяком назіраецца ў дачыненні да ўчарашняга дня нашай літаратуры, да творцаў, што як былі, так і застаюцца красой яе і гонарам.

Вось сярэдняй рукі празаік на пасяджэнні тэматычнага "круглага стала" ў рэдакцыі аднаго з мінскіх штомесячнікаў, калі верыць надрукаванай штомесячнікам справаздачы з пасяджэння, выказваецца ў духу, што пісьменніцкай арганізацыяй Беларусі раней верхаводзіла мафія. Пра стан прыгожага пісьменства на роднай зямлі яна не дбала, адно піхала ў выданні-перавыданні сваю няздарную прадукцыю. Памятаючы ўсіх да аднаго паважаных людзей, якім у пасляваенныя дзесяцігоддзі давялося старшыняваць ці сакратарыць у СП, я задаў сабе пытанне: каго ж ён меў на ўвазе, заяўнік такога сур'ёзнага абвінавачання. Мафіёзі хто з іх — Танк? Броўка? Шамякін? Мележ? Брыль? Панчанка? Мікола Ткачоў? Грачанікаў? Чыгрынаў? Сачанка?..

Вось паэтка, што з дзесятак гадоў назад шчыравала ў апяванні камсамольскай рамантыкі, а цяпер з той тэмы насміхаецца. Такой бяды, каб кпіла толькі з сябе. Дык у азартным закрэсліванні мінулага іранізуе і з пачуццяў старэйшых калег, былых франтавікоў і партызан, для якіх баявая іх маладосць — святое.

Вось публіцыст, які зрабіў сабе імя на ўслаўленні перадавых калгасных важакоў і мудрых іхніх партыйных апекуноў. Цяпер, вядома, погляд на колішніх сваіх герояў ён палярна перамяніў, імпэтна праклямуе перавагі прыватнай ініцыятывы ў сельскагаспадарчай вытворчасці. І з розных трыбун пацяшае публіку — расказвае, што за статак прыстасаванцаў уяўляла сабою пішучая брацця на ягонай памяці. Сябе ў тым статку сціпла не бачачы...

Ах, якія яны ва ўласных вачах барацьбяныя, гэтыя вёрткія персанажы нашай сённяшняй сумятні! Якія архісмелыя, бескампрамісныя, гатовыя кінуцца грудзьмі на амбразуру! Толькі ж разумна кімсьці сказана: на амбразуру, з якой ніхто не страляе.

Па мне ж, і мужнасці, і годнасці больш было ў Пашкевіча — рэдактара "ЛіМа" ў шасцідзесятыя гады. Пасля нядоўгай адлігі ў дзяржаве тады зноў прымарозіла. На няспраўджаныя спадзяванні творчай інтэлігенцыі ўзмацніўся змрочны наступ суслаўшчыны. Газета "Літаратура і мастацтва" пад началам свайго галоўнага недэкларавана таму наступу супраціўлялася.

Тое супраціўленне трымаць было няпроста. З амбразур, на якія "некіруемыя", накшталт Пашкевіча, безразважліва кідаліся, тады стралялі. Я помню, якім прыходзіў ён у рэдакцыю пасля чарговай разборкі ягоных грахоў у ЦК. Дзе не маглі зразумець, як можа рэдактар дазволіць сабе дэманстратыўнае непаслушэнства: надрукаваць рэзка адмоўную рэцэнзію на спектакль, які Першай Асобай рэспублікі быў ухвалены і які таму загадана было падтрымаць. Дзе падлічваліся суадносіны пажаданых і непажаданых прозвішчаў у артыкулах і пад артыкуламі на газетных старонках, і лісткам з тым падлікам яму тыцкалі ў твар. Дзе пагрозліва гаварылі, што "ЛіМ" пазіцыйна яўна блізкі да маскоўскага флагмана фронды, галаўнога болю ўлады — "Нового мира". Дзе неаднойчы давалі зразумець, што рэдактара некіруемага зусім няцяжка памяняць на кіруемага.

Ён вяртаўся пасля такога ў рэдакцыю пахмуры, з сярдзіта сцятымі сківіцамі, з абвастрэннем неўралгіі, але ўсё адно ўпарты на сваім. На тым, што спавядаў, чаго цвёрда трымаўся. Глыбінныя інтарэсы роднай культуры, інтарэсы сапраўднага ў літаратуры і мастацтве заставаліся для яго вышэйшымі. Як рэдактару і як удумліваму, пераканаўчаму ў развагах і высновах, аўтарытэтнаму, хоць друкаваўся не часта, крытыку.

Адкуль жа палаўзло "артадокс", "дагматык"? А з таго, зразумела, што яму чужое, прыкрае і многае ў цяперашнім бязладдзі. Што не прыходзіць ён у экстаз ад перамены куміраў на п'едэсталах. Што не ў радасці ад відочнага разбурэння духоўнасці. Што не прымае шмат чаго яшчэ. Знаўцу і сур'ёзнаму аналітыку беларускай раманістыкі, як яму пагадзіцца з татальнай пераацэнкай, дакладней, уцэнкай яе здабыткаў? Маладзенькаму партызанскаму камісару ў Вялікую Айчынную, як не зважаць на актыўныя спробы прынізіць, апляваць гераіку змагання тады нашых народных мсціўцаў? Ён выступіў на старонках "ЛіМа" з дастойнай водпаведдзю заўзятаму ў гэтых адносінах маскоўскаму прафесару, і выступленне слушна прыцягнула да сябе ўвагу, выклікала шырокі ўдзячны рэзананс.

Мне пашчасціла працаваць поруч з ім у "ЛіМе", таму спасылаюся больш на тое, што бачыў непасрэдна. Але рэдактарства ў беларускай пісьменніцкай газеце — толькі адрэзак на яго жыццёвай дарозе. Дарагі, прыкметны, памятны, аднак жа пройдзены ў чарадзе іншых. Этапамі пражытага за ягонымі плячыма і раёнка, і газета абласная, і "Звязда", і пасля "ЛіМа", на здзіўленне каго-нікога, хто яго "чысціў" пры згаданых разборках, сапраўды кабінет рэдактара аддзела "Правды", работа ў іншых маскоўскіх выданнях. Колькі гадоў быў намеснікам дырэктара нашага акадэмічнага Інстытута літаратуры, рэктарам Мінскага інстытута культуры, галоўным рэдактарам "Беларусьфільма", старшынёй праўлення рэспубліканскага літфонду.

Сярод знакаў прызнання, якімі ўганараваны, носіць ён званне заслужанага работніка культуры. Дык адносна яго, Нічыпара Еўдакімавіча Пашкевіча, трохслоўнае званне чуецца мне з націскам на слове другім — "работнік".

Прыгожая дарога. Сумленнае, напоўненае, годнае жыццё.

**Уладзімір МЕХАЎ**

# «РУПІЦЦА АБ ЭСТЭТЫЦЫ, «КРАСЕ» ТАГО, ШТО ІДЗЕ ДА ЛЮДЗЕЙ...»

*(Пачатак на стар. 7)*

ку. У асноўным гэта вучні мінскіх школ, студэнты. Нярэдкія і замежныя экскурсіі. Так, нядаўна прыходзіла "палітычная" экскурсія партыі Шахрая, прадстаўнікі якой, між іншым, сказалі, што наш музей змяніў у іх уяўленне аб Беларусі. Былі ў нашым музеі і народныя пісьменнікі Беларусі Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, старшыня БНФ Зянон Пазняк, мітрапаліт Беларускай праваслаўнай замежнай царквы Мікалай, старшыня Рады БНР Язэп Сажыч ды шмат іншых вядомых людзей, для якіх імя Максіма — не пусты гук.

Экскурсіі праводзяцца ў нас насычана. Мы добра ўсведамляем, што ў адзін і той жа музей звычайна чалавек прыходзіць толькі адзін раз. Амаль заўсёды гэта для яго — падзея. Наступным разам ён можа прывесці хіба толькі сваіх дзяцей, Але ёсць і выключэнні. Неяк мінулай зімою зачасціў да нас негр, які прыехаў у Мінск у нейкі інстытут на стажыроўку. Я часта бачыў яго ў пачакальні, дзе ён сядзеў, такі нясхладны, у вязаных пальчатках і карычневых штанах. Ні пабеларуску, ні па-руску ён не разумеў зусім, а прыходзіў, мабыць, бо адчуваў утульнасць і асаблівую атмасферу ў халодным зімовым Мінску. Нашыя наглядчыцы прызвычаіліся да яго і пускалі без грошай — хай ходзіць...

Я пераканаы, што без нармальнай, развітай музейнай сістэмы ў краіне немагчыма выхаваць культурнага, паўнавартаснага чалавека. Музей — гэта як школа. Нават самыя зацятыя прагматыкі згодны з патрэбай школьніцтва. А вось адукаваныя дзядзькі-чыноўнікі патрэбу ў музеях для цывілізаванага грамадства, здаецца, не вельмі адчуваюць...

**— Як бы ты ўвогуле ацаніў прысутнасць — сімвалічную, маральную, духоўную — Максіма Багдановіча ў паспалітым жыцці Беларусі канца XX стагоддзя? Што да музейнае справы — ці хопіць работы музейшчыкам па пошуках, фіксаванні і асвятленні зямное спадчыны Песняра Чыстае Красы?**

— Як мінімальную, хоць, можа быць, найбольшую з усяе беларускае літаратуры. Беларуская культура, на жаль, мае вельмі малое дачыненне да паспалітага жыцця. Трэба пачакаць гадоў 10—15, пакуль падрастуць тыя дзеткі, што зараз масава ідуць у беларускія класы. Упэўнены — тады будзе іншая сітуацыя.

Але, па маіх назіраннях, у нашым зрусіфікаваным і пазбаўленым праз гэта культуры грамадстве менавіта паэзія Максіма Багдановіча прымушае не адну чуйную і шукальную душу наблізіцца да Беларушчыны. Вялізнае ўздзеянне ягонае паэзіі, якая чаруе і прыцягвае. Многія людзі, што не маюць прафесійнага дачынення да культуры, з задавальненнем чытаюць на памяць вершы Максіма, якія памятаюць яшчэ са школьнай праграмы. Хацелася б, каб уся наша культура ўспрымалася так, як паэзія Максіма. І тут, лічу, найважнейшая задача тых асоб, якія працуюць у беларускай культуры, адукацыі, сродках масавай інфармацыі, — рупіцца аб эстэтыцы, "красе" таго, што ідзе ад іх да людзей, на працягу доўгага часу адлучаных ад свае праўдзівае культуры...

Тое, што прыходзіць з загадамі — імі ж і адмяняецца. Але выкараніць **любоў** да свае Бацькаўшчыны, да сваёй культуры, мовы — немагчыма.

Што датычыць нашае работы — думаю, яна будзе карыснай і патрэбнай аж да таго, пакуль будзе жыць Беларусь.

**Гутарку вёў**
**Юрась ЗАЛОСКА**

# НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

Уладзімір КАЛЕСНІК

## ВІЛЕНСКІЯ ГАДЫ

У ВІЛЬНІ, пасля перыпетый грамадзянскай вайны, засталося некалькі пісьменнікаў-нашаніўцаў — Гальяш Леўчык, Зоська Верас, Стары Улас, Ядвігін Ш., Францішак Аляхновіч, Антон Навіна, але пагоду ў літаратуры пачалі рабіць паэты, якія да вайны толькі спрабавалі публікавацца, гэта Леапольд Родзевіч, Казімір Сваяк, і прыліў новых сіл, якія абудзіла і штурхнула выказвацца вершамі ці артыкуламі пра зменлівыя падзеі і змаганні за свабоду Беларусі, беларускае духоўнае адраджэнне, — гэта Уладзімір Жылка, Альгерд Смалянец, Ігнат Канчэўскі і іншыя. Некаторыя са старых выпісаліся і завяршалі творчы шлях, як Ядвігін Ш., успаміналі пра студэнцкія гады і ўдзел у рэвалюцыі 1905 года ў Маскве. Затое знізу падымалася маладая хваля — Пілїп Пестрак (Звястун), Міхась Касцевіч (Васілёк), Сяргей Сіняк (Хмара), пару чалавек даспявала ў беларускай гімназіі — Наталля Арсеннева і Алесь Салагуб, на падыходзе былі вучні Валянцін Таўлай, Іван Міско, Хведар Ільяшэвіч; ва універсітэце — студэнты Яўген Бартуль, А.Бярозка. У турме стаў паэтам Міхась Машара.

Наталля Арсеннева прайшлі некалькі ступеняў у сваім творчым жыцці. Характэрна, што творчыя пераходы супадаюць са зменамі ў жыццёвым стане паэтэсы. Па-беларуску стала пісаць яна, расіянка, пад уплывам беларускага вызваленчага руху, ідэалізму і вернасці педагогаў, канкрэтна М.Гарэцкага, тады выкладчыка беларускай літаратуры, аўтара першага падручніка для сярэдніх школ, выдатнага празаіка-наватара і літаратурнага дзеяча ў Вільні пачатку 20-х гг.

Чым жа захапіў беларускі адраджэнскі рух, многія важакі якога знайшлі прыстань у віленскай беларускай гімназіі, расіянку, гімназістку, якая давяла вучобу да апошняга класа ў рускіх гімназіях? Адказ адназначны, але не ардынарны: бескарыслівасцю, згуртаванасцю, уменнем забывацца пра голад і холад, арганізоўваць гурткі, хоры, ісці да народа, збіраць у зале віленскіх патрыётаў, паднімаць дух на адраджэнне народа.

Першыя вершы Арсеннevай журботныя, тужлівыя, песімістычныя, іх матэрыялам былі ўражанні вайны і бясконцыя пакутлівыя вандраванні сям'і. З набліжэннем немцаў — вяртанне ў Баку, дзе яна нарадзілася, адкуль перад вайной сям'я пераехала ў Вільню, але вайна пераблытала ўсе спадзяванні: у Баку сям'я не прыгрэлася, выехала ў Яраслаўль, а ў часе грамадзянскай вайны паспрабавала вярнуцца ў Вільню. Тут Н.Арсеннева паступіла ў беларускую гімназію на вучобу, а яе маці стала ахмістрыняй у сталовай міласэрнасці, якую ўспамагалі мясцовыя і замежныя дабрачынныя арганізацыі.

Носьбітамі і выказнікамі лірычнага настрою паэткі выступаюць з'явы прыроды, пададзеныя ў духу фальклорнага анімізму або пантэізму: восень і ноч — гэта носьбіты тугі і страху адмірання, а вясна і лета — ажыванне, хараства. Паказальна, што нават у вершы, прысвечаным М.Гарэцкаму, далікатная паэтка не сказала ніводнага слова пахвалы, а падарыла яму цуд: хараство і пяшчоту красавіка:

**Як тут ціха, ні шуму, ні клопату,**
**Ані думкаў, ні смутку няма!**
**Я не чую душы, яе рогату,**
**Бачу толькі, што ўсюды вясна!**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Тут фіялкі цёмна-сінія,**
**Ветрык дыхае пахам вясны.**
**Адсюль яна пекнай княгіняю**
**Сее новыя, светлыя сны.**

Свет у Арсенневай падзяліўся на два светы: свет рэальны, жорсткі, цяжкі для многіх і свет мары, паднебны, сіні:

**Пад сінім небам няма роспачы**
**Глухой, бязмежнай, што ўсё гняце,**
**Пад сінім небам усё іначай**
**Здаецца дзіўным, як сон жыццё.**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Дык гэй, у неба, у край вясенні**
**Ад мар, што душаць у жыцці,**
**На белых крыллях летуцення,**
**Пясняр, па слова-чар ляці.**

Н.Арсеннева прыйшла ў беларускую паэзію, бо ўбачыла ў гімназіі калектыў інтэлігентаў-асветнікаў, якія працавалі не для заробкаў, а для ідэі. Гэта былі сыны і дочкі сонца. І сама яна далучылася да асветніцкага руху, пайшла ў 1922 годзе працаваць у беларускую школу. Для яе гэта было вырашэнне мэты жыцця, бо ў 1921 годзе яна лічыла долю людскую загадкай:

**Скуль усё, хто стварыў нашу долю,**
**І каму нам маліцца ў ноч?**
**Ды й ці трэба маліцца ў ноч?**
**Ды й ці трэба маліцца? Бяз волі**
**Не здабудзецца шчасце ніколі:**
**Будзеш плакаць, як вецер у полі.**

На раннім этапе творчасці паэтка жыла ў асяроддзі моладзі і ўцягнулася ў балючыя праблемы сацыяльнай несправядлівасці, якія абяцалі вырашыць змаганнем падпольныя сілы. Арсеннева пытае:

**Чаму ў сім жыцці нямілым**
**Няпраўда, дзе вокам ні кінь,**
**Чаму адным славу і сілу**
**І шчасце жыццё аддзяліла,**
**Другім — толькі гора, хоць згінь!**

Маладзенькая паэтка прымае з вызваленчага руху ідэю роўнасці долі, але змяшчае яе не ў сферы сацыяльнай барацьбы, а ў сферы прыроды і светабудовы:

**Не, ласкі свае падзяліла**
**Нам сонейка роўна.**
**Праменнямі роўна накрыла.**
**І толькі ў свеце нямілым**
**Няпраўда, і здзекі, і зло...**

Грамадская арэна барацьбы яе, аднак, не вабіла, пудзіла або палохала. "У зале "Адвеку мы спалі" пяюць, пяюць... Нудна мне сядзець у класе дзень цэлы..." І пасля заканчэння гімназіі настраёвасць Арсенневай не выйшла за мяжу мінору. Яе душа, адчуваючы сваю нямогласць у сферы практычнай арганізацыйнай дзейнасці, шукала звычайнага жыццёвага прытулку, чалавечага цяпла, пяшчоты:

**Хочацца ласкі, да болі, да мукі,**
**Хочацца сціснуць халодныя рукі,**
**Хочацца кінуць усё і пайсці,**
**Думкі развеяці хочацца... ці**
**Зараз заплакаць, каб сціснуць душу,**
**Сонца заходзіць... Чаго я хачу?**

Сацыяльную роўнасць яна ўзважвае, прымярае да асобы чалавечай, стараецца ўявіць, што ж гэта будзе за грамадства роўных ва ўсім? Як у такім грамадстве жыць? Адказ атрымаўся несуцяшальны: "Бо, калі там усе роўны, у тым царстве, — там няма і змагання, навошта яно?" Разгортваючы гэтую думку, яна пытае:

**Як там жыць, чым там жыць?..**
**Там і сэрца не б'ецца,**
**Не сціскаецца сумам прыемным яно.**
**Там — шырокай крыніцаю**
**гора ня льецца,**
**Не гарыць там і дзіўнага**
**шчасця святло...**

Паказальна, што паэтка, знаходзячы хібныя якасці абодвух светаў, створаных фантазіяй, не далучаецца ні да змагання за роўнасць і праўду, ні да цярпенняў ад няпраўды. Пакідае праблему адкрытай, аб'яўляе зямное жыццё дэфектным, незавершаным. І адсюль выснова, што гармоніі трэба чакаць ад сферы чыста духоўнай, або ствараць адносіны, дзе пакрыўджаныя і здаволеныя маюць магчымасць дабівацца чагосьці сярэдняга. Сонца свеціць усім роўна, а людзі чыняць няроўнасць і крыўду слабым. Паэтка застаецца з прыродай, дакладней, з уяўленнем аб прыродзе. Пры ўсім гэтым яна аддае належнае грамадскім дзеячам, якія пакінулі пасля сябе дастойны ўклад у грамадскае жыццё. Такім дзеячам пададзены Ядвігін Ш., у вершы, прысвечаным яго памяці:

**Тут, на шумнай зямлі,**
**ты і жыў і цярпеў,**
**Ты народ свой гаротны кахаў,**
**Ты да мэты ішоў без пуці, без дарогі,**
**Працаваў, не шкадуючы сіл,**
**пакуль мог.**
**Не прыждаўшы вясны, дагарэў.**

На гэтым, аднак, паэзія Н.Арсенневай 1920—22 гг. не вычэрпвае свой абсяг, праграмныя ідэі змяшчаюць вершы "Мэта жыцця", "Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю" і "Люблю я сонца залатое". У першым паэтка паказвае сваё ўменне запярэчыць прызнаным ідэям мысліцеляў і дзеячаў: мэта жыцця не ў ахвярнасці і барацьбе, нават не ў служэнні людзям, а ў "захаванні жыцця". Два наступныя вершы задзёрна-супярэчлівыя па ўспрыманні хараства: у першым хараство выклікае ў лірычнага суб'екта не радасць, а боль, жаданне памерці:

**Светлы дзень дагарае**
**над сумнай Зямлёю,**
**Ліпаў лісцейкі фарбай гараць залатою...**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Я памерці хачу вось такою парою,**
**Хваляй сонца залітая ўся залатою,**
**Каб і слоў тых не чуць "Прабудзісь!"**

Другі верш увесь у мажоры і радасці:

**Вясна, вясна, дачка лятункаў,**
**Нясі святло, нясі жыццё,**
**Нясі атруту пацалункаў,**
**Красуй, вясна, кахай усё!**

Выходзіць, што асалода і прылівы шчасця ідуць не ад аб'екта (прадмета, сітуацыі, адносін), а ад настрою, а часта і ад капрызу. Тут яўна праглядвае вучнёўскае перайманне мадэрнісцкай філасофіі ды паэзіі з яе сумбурнымі капрызамі ва ўражаннях і ўспрыманнях.

Не яе верш пра смерць і пустэльніцтва ўзялі для падмацунку духа змагары, палітвязні і іх сімпатыкі, маладыя смельчакі, а верш Гальяша Леўчыка:

**Мне трэба ўмерці —**
**я жыў яшчэ так мала...**
**Мне трэба ўмерці, а ў полі ўжо вясна!**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**Мне трэба ўмерці... Старонка дарагая,**
**Пакіну я цябе адну сярод бяды...**

А моладзь студэнцкая і вучнёўская знаходзіла сугучны сабе голас ахвярнай душы ў Казіміра Сваяка:

**Народзе мілы мой! Цяпер ужо не знаю,**
**Чым маем мы каваць**
**цяжкую сабе долю:**
**Дабром за зло плаціць**
**(што ў сэрцы я хаваю)**
**Ці ворага душыць ў крыві,**
**ў агні, ў вуголлі.**

Найбольш дзёрзкія ды рыцарскія кавалеры даставалі прывезеныя з Прагі баявітыя вершы Жылкі:

**І пакі сэрца поўна гневам**
**І гнеў драпежней крумкача, —**
**Вітаю бой ваяцкім спевам**
**І звонам вострага мяча.**
**Калі ж параз ад меткай раны**
**Звалюся, сходзячы крывёй,**
**І вораг, перамогай п'яны,**
**Накпіць нягожа нада мной, —**
**Я і тады здалею горда**
**Стрымаць гадзін апошніх золь,**
**Мая нянавісць і пагарда**
**Не ўдасць, не здрадзіць люты боль.**

У 1922 годзе яна напісала яшчэ адзін інтымны верш "У лесе", прысвечаны Ф. К. (Францішку Кушалю), пра ачараванне хараством лесу ў часе праходкі ўдваёх. У наступныя два гады Арсеннева пісала зусім мала, яна выйшла замуж за Кушаля, афіцэра польскага войска, беларуса, родам з-пад Валожына.

Замуства пераносіла яе ў асяроддзе польскай вайсковай верхавіны, а з другога, набліжала да беларускага сялянства. Ужо ў вершах 1925 г. пабольшала беларускіх вясковых матываў. Уключаная ў асяроддзе польскіх афіцэрскіх сем'яў (муж яе служыў у Вайсковай радзе ў беларускім палку), Арсеннева таксама не збіралася асіміляваца. Яна хутка нарадзіла двух сыноў, дала ім старадаўнія элітарныя імёны — Яраслаў і Уладзімір. Мацярынства і сямейныя абавязкі апраўдвалі на некаторы час яе адсутнасць на таварыскіх забавах афіцэрскіх сем'яў. Яна ўзяла звычай выязджаць на лета ў родную вёску мужа Доры, у чыстую беларускасць. І ў вершы "На сенажаці" пачуўся тыповы заходнебеларускі голас касьбы, той пары, калі партызанскі рух выдыхся і нават дзёрзкія дзецюкі пераходзілі да мірных палітычных сродкаў: барацьбы за годнасць і правы ў межах парламенцкіх і мітынговых дэбатаў:

**Песню касцы запялі нясмела,**
**Песняю звоніць уся сенажаць.**
**З гукамі — ў далеч, здаецца б, ляцела,**
**Косы звіняць...**

Косы гэта мірныя, а гукі ціхія, ад Купалавых ваяцкіх алегорый яны стаяць далёка.

Здавалася б, каханне, замуства павінны былі выклікаць цыкл інтыму, але любоўнай лірыкі паэтка не пісала, схавала гэтае пачуццё ў тайну тайных. У 1923 г. з'явілася толькі некалькі вершаў пра шчасце. Шчасце — гэта стан унутранага ўздыму, узлёту, але яно такое далікатнае, хімернае, што знікае, развейваецца ў дым ад аднаго неасцярожна сказанага слова:

**Шчасце, як светлыя, ясныя думы:**
**Рэзкае слова, заўвага адна, —**
**Ужо абыймаюць душу маю сумы,**
**Момант — і думкаў няма.**

У 1924 г. Н. Арсеннева напісала глыбокі верш, у якім стварыла вобраз жыцця не як парваны жыццёвай прозай ланцуг летуценняў, а як моцны ланцуг свядомага дзеяння. Жыццё як дзеянне — гэта аснова новага творчага этапу, у які яна ўступіла са сцяжыны жыцця асабістага і выходзіла на арэну жыцця грамадскага. Яна аказалася паэткай вельмі энергічнай, дзейнай, здолела спалучыць сямейныя абавязкі, хоць, напэўна, мела і наймічку, але мацярынскай цеплынёй сагравала сыноў сама.

У Слоніме кіпела напружанае беларускае грамадскае жыццё, адсюль паходзілі выдатныя дзеячы адраджэння — Грамады і ТБШ, тут, у турме, сядзела і праходзіла апрацоўку ў дэфензіве перад судзейскімі законнымі допытамі група актывістаў з розных куткоў рэгіёна. Зразумела, Арсеннева не магла супрацоўнічаць нават з ТБШ, бо гэта магло б фатальна адбіцца на службе яе мужа, які быў карміцелем сям'і.

Жыццё, аднак, настойліва ставіла пытанне, а што ты, пяснярка, маючы талент, робіш для мяне, жыцця? У цябе, у вершы 1922 г., было напісана насуперак многім мысліцелям: "Мэтай жыцця — захаваць жыццё". Але ж захоўваць сваё жыццё можна лёгка: ухіляйся ад грамадскай дзейнасці, а захоўваць жыццё людское на ўзроўні годнасці можна толькі дастойнай дзейнасцю. Н. Арсеннева прыйшла да падобнага адказу ў вершы "Пытанне":

**І пытанне ўзнікае міжвольнае,**
**Што ж рабіў ты з натхнёнай душой,**
**Як праходзіў жыцця пуцінай?**
**Што зрабіў з тваёй воляю вольнаю?**
**Бо не вернеш былога, на жаль!**

Мне бачыцца годам творчай сталасці 1925 год. Працэс гэты праходзіць у яе натуральна, спакваля і ў год завяршэння творчага сталення напісана ўсяго 8 вершаў, але ў іх стылі, пры ўважлівым чытанні, можна дагледзець прыкметы эмацыянальнай стрыманасці, нават у трох вершах, якія паэтка ўключыла ў раздзел "Настроі і летуценні" адчуваецца большая стрыманасць і сувязь з рэаліямі жыцця, вясновага краявіду:

**Усё даўно знаёма,**
**Усё перажыта мною дома...**
**Але душа дрыжыць, вітае**
**Вясну, што вечна парывае...**

Нават традыцыйная яе тэма ночы поруч з вядзьмарскай дзеяй працуе на нябесным абшары, уладкоўвае яго і становіцца бліжэй і зразумелей чалавеку:

**Ночка, тваімі гэта чарамі,**
**Ночка, тваімі гэта дзівамі**
**Збуджаны зоры між хмарамі,**
**Спынены мглы па-над нівамі...**

*("Ночка")*

Два вершы сумніву і суму выйшлі з-пад пяра ў пераходны час — гэта "Шэпты ночы" і "Недаверчывая ноч падыходзіць". Ноч тут — час смутку, час таямніц, але і час ісціны,

*(Працяг на стар. 14)*

## СТАНІСЛАВУ ГЛІНКУ — 80

**Знакаміты польскі мовазнавец, доктар гуманітарных навук Станіслаў Глінка нямала зрабіў па вывучэнні і даследаванні беларускай мовы. Асабліва на пасадзе загадчыка сектара беларускай мовы ў Інстытуце славяназнаўства Польскай акадэміі навук. Даследуе беларускія гаворкі Беласточчыны. Аўтар працы "Аб мове беларускіх народных песень", што апублікавана ў Зборы твораў М. Федароўскага "Люд беларускі" (1969, т. 7). Сааўтар і рэдактар "Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны" (1980—1982 гг., т. 1—2).**

**Віншуем спадара Глінку з днём нараджэння! Зычым яму далейшага плёну!**

## ЖАРТАВАЦЬ ЗАЎСЁДЫ ЛЮБІЛІ...

**Споўнілася 70 гадоў з дня выхаду першага нумара двухтыднёвага часопіса гумару і сатыры "Авадзень", што выдаваўся ў Вільні ў 1924—1925 гадах. Праўда, у 1929 годзе была зроблена спроба аднавіць "Авадзень", але ўдалося выпусціць яшчэ толькі два нумары. Прытым апошні, трынаццаты, з'явіўся ў лютым 1933 года.**

**На старонках "Авадня" пераважаў бытавы гумар, хоць нельга сказаць, што часопіс знаходзіўся ўбаку ад нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Вакол выдання групаваліся такія аўтары, як А. Васілеўскі (Антось з Лепеля), які выступаў з гумарэскамі, фельетонамі і аднаактовымі п'есамі, Г. Леўчык, У. Паўлюкоўскі (Улад-Ініцкі), І. Маразовіч, В. Гаротны і іншыя, пішучы гумарэскі, сатырычныя замалёўкі як у вершах, так і ў прозе. Былі ў "Авадня" і свае мастакі — Л. Дудка, М. Гармановіч, В. Буська, І. Маразовіч.**

## КАЛЯНДАР СНЕЖНЯ

**5 снежня — 80 гадоў з дня нараджэння Рыгора НЯХАЯ (1914—1991). Друкавацца пачаў у 1935 годзе на старонках "ЛіМа". Выступаў у галіне паэзіі, прозы. Пісаў для дзяцей, займаўся перакладчыцкай дзейнасцю. Зрабіў літаратурны запіс кніг удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.**

**15 снежня — 475 гадоў з дня выдання Ф. Скарынам у Празе "Кнігі судзей".**

**17 снежня — 90 гадоў з дня нараджэння Мікалая ЯРОМУШКІНА (1904—1983). Пісаў па-руску. Выдаў шэраг кніг прозы і нарысаў у Маскве, Ленінградзе і Мінску. Пераклаў на рускую мову асобныя апавяданні У. Краўчанкі, І. Пташнікава, А. Карпюка і іншых.**

**24 снежня — 210 гадоў з дня нараджэння пачынальніка беларускай, польскай, украінскай і рускай археалогіі, фальклярыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі Зарыяна ДАЛЕНГІ-ХАДАКОЎСКАГА (1784—1825).**

**24 снежня — 90 гадоў з дня нараджэння Алеся ДУДАРА (1904—1937). Адзін з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання "Маладняк". Першыя вершы надрукаваў у 1921 годзе. У 1959 годзе выйшлі выбраныя творы, у 1984 — зборнік вершаў і паэм "Вежа". Разам з А. Александровічам і А. Вольным напісаў раман "Ваўчаняты" (1925). Пад псеўданімам Т. Глыбоцкі выдаў зборнік артыкулаў "Пра літаратурныя справы" (1928). Займаўся перакладамі. Расстраляны 29 лістапада 1937 года.**

**29 снежня — 110 гадоў з дня смерці класіка беларускай літаратуры Вінцэнты ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА (1808—1884).**

**30 снежня — 90 гадоў з дня нараджэння Зэліка АКСЕЛЬРОДА (1904—1941). Першыя вершы надрукаваў у 1921 годзе. Пісаў на мове ідыш. Пераклаў на ідыш паэму М. Някрасава "Чыгунка", кнігу выбраных вершаў Я. Купалы (1936), паэму П. Броўкі "Прамова фактамі" (у кнізе "Паэзія БелАПП", 1931) і п'есу французскага драматурга Лябіша "Труадэк" (з Ізі Харыкам, пастаўлена Маскоўскім дзяржаўным яўрэйскім тэатрам). Расстраляны 26 чэрвеня 1941 года.**

**31 снежня — 140 гадоў з дня нараджэння рускага гісторыка літаратуры Пятра УЛАДЗІМІРАВА (1854—1902), даследчыка творчасці Ф. Скарыны.**

# НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

*Пачатак на стар. 13*

час, "калі з душою душа гавора//Аб вечных болях, аб вечных муках...//Калі здаецца, што зараз думы//Пазнаюць тайну жыцця і Бога//і пойдуць новаю дарогай". Выходзіць, што, аднак, думка асноўны чалавечы орган пазнання, праўда, пазнанне ідзе толькі цераз пасрэдніцтва Бога. Але гэта можа здавацца.

У другім начным вершы прырода і людзі — усё ў палоне зняверу і безнадзейнасці, нават вітальная прырода не змяняе гэтага стану духоўнасці:

**I хоць ліпы дрыжаць на марозе,**
**I смяюцца чагось і яны...**
**Дык няўжо ж нас**
**ноч жыцця так зваліла,**
**Што не знойдзем хацення і сілы**
**Усміхнуцца праз слёзы і мы?**

Як бачна, і тут паэтка яшчэ капрызнічае, выпінаецца, а прычына? Нястача інтымнага цяпла, якой у вершы прыдаюцца памеры касмічныя. І атрымліваецца часам арыгінальна.

Як на пачынаючую паэтку, Н. Арсеннева мае багатую сімваліка-метафарычную трансфармацыю рэальнасці ў вобразы. Праўда, ёсць у гэтых ператварэннях шмат паўтораў і фантазлівага трафарэту, напрыклад, кожны год паэтка піша па два-тры вершы пра ноч, восень, вясну, нярэдка атрымліваецца вельмі падобна. Не цяжка ўбачыць у ёй вучаніцу рускіх мадэрністаў ("Шчасце" (1924), "Сон" (1925), "Ночка" (1925—31) і інш. І ўсё ж перамагае рух, развіццё, рост інтэлектуалізму ў маналогу, а не лятункаў, туману, цемені.

Верш "На сенажаці" як твор з актуальным грамадскім падтэкстам мы закраналі. Тут можна прыгадаць увагу аўтара да гукаў і падзей вясковага жыцця:

**Косы звіняць... К сонцу ўзносяцца зыкі,**
**Поўны жыцця жоўтацвет — сенажаць.**
**Дзіўна-вясёла ад гэтай музыкі,**
**Косы звіняць.**

У 1927 годзе маладыя беларускія мастакі абралі Н. Арсенневу старшынёй творчага аб'яднання "Веснаход". І тут яна аказалася інтэлігентнай, раставоплівай і прадбачлівай. У першы пункт статута было запісана, што "Веснаход" з'яўляецца арганізацыяй апалітычнай і беспартыйнай, сваёй задачай ставіць дапамогу адаронай моладзі ў развіцці майстэрства, хутчэйшае дасягненне прафесіяналізму. Можа, й не думала тады паэтка, што праз восем гадоў гэтай дэфініцыяй выратуе лёс сям'і. Нягледзячы на статутавую сепарацыю творчай моладзі ад палітыкі, улады не зарэгістравалі "Веснаходу", забаранілі яго дзейнасць. Арганізатары паспелі толькі выдаць альманах "Рунь веснаходу", у якім надрукавалі свае вершы і паэты, звязаныя з камуністычным падполлем — Звястун і Сяргей Хмара. Тут старшыня смела праявіла талерантнасць да палітычных поглядаў, хоць погляды гэтыя не надта цаніла.

У канцы таго ж 1927 года на Грамаду ўлады абрынулі рэпрэсіі, паліцыя разграміла ячэйкі, арыштоўвала кіраўнікоў, адбірала з касаў грошы і дакументы, закрывала клубы, хаты-чытальні, бібліятэкі, рыхтавала новы, масавы судовы працэс над актывістамі.

Невыпадкова перад пераваротам Пілсудскага капітана Ф. Кушаля перавялі са Слоніма ў глыб Польшчы, назначылі выкладчыкам школы падафіцэраў у Тчэве. Там Арсеннева пражыла да лета 1939 года.

Калі палітычная напружанасць, узнятая судамі над грамадаўцамі ў Вільні, пайшла на пэўны спад, Беларуская хрысціянская дэмакратыя ўзялася ратаваць беларускасць, асабліва культуру і літаратуру. Яна арганізавала свае выдавецтва і, акрамя газеты "Крыніца", пачала субсідзіраваць з 1929 г. часопіс "Шлях моладзі", а ў 1932 г. заснавала літаратурна-навуковы і грамадскі часопіс "Калоссе", якому выпала пачэсная роля ратаваць заходнебеларускую літаратуру ад поўнага заняпаду, бо левыя выданні сходу канфіскаваліся ўладамі, выдаўцы і аўтары траплялі пад суд. З прагрэсіўна-асветніцкіх утрымаўся "Летапіс ТБШ", але ён выходзіў пераважна здвоенымі нумарамі раз у два месяцы. Сектанты з камуністычнага падполля спачатку пачалі вінаваціць БХД у памяркоўнасці і згодніцтве з уладамі, але ж неўзабаве зверху пайшлі ім установкі ствараць Народны антыфашысцкі фронт, супрацоўнічаць з дэмакратычнымі партыямі і арганізацыямі. БХД на палітычнае супрацоўніцтва з камуністамі не ішла, выкрывала і асуджала ўсё новыя і новыя хвалі рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі ў БССР, інспіраваныя, па яе думцы, Масквой, якая ўзялася знішчыць і тую беларускасць, што паспела вырасці за гады патэрнісцкага ўрада Алеся Чарвякова. Выдатны культурна-асветны дзеяч, усебакова даравіты гуманітарый, ксёндз Адам Станкевіч стварыў, згодную з еўрапейскімі мадэлямі, канцэпцыю нацыянальнай культуры як найбольш дзейснага сродку развіцця нацыі, нацыянальнай ідэі. Ён паказаў прымітывізм і згубнасць для беларускай нацыі сталінскай дактрыны "культура нацыянальная па форме і сацыялістычная па зместу". Гэтая формула хавала ў сабе па-азіяцку хітры замах на нацыянальную самабытнасць культуры, уніфікавала ўсю савецкую культуру і русіфікавала яе.

Беларускае жыццё ў Вільні не было такім прыцішаным і сэнсоўным, як здавалася: у турмах алынуліся паслы і прыхільнікі Беларускага пасольскага клуба "Змаганне", рэдакцыя "Беларускай газеты", многія паэты, зацятыя камуністы, замучаныя пыткамі на допытах, карцэрамі і галадоўкамі пратэсту ў турмах, апантана верылі ў сусветную рэвалюцыю, абзывалі ўсіх няверуючых згоднікамі з "беларускай санацыяй". І ў гэтым былі свае прычыны: трое каапціраваных у кіраўніцтва Грамады дзеячаў — А. Луцкевіч, Р. Астроўскі, Ф. Акінчыц — адракліся ад яе на судзе і дапамаглі суду прызнаць, што арганізацыя гэтая фінансавалася і кіравалася з-за мяжы. Іх выпусцілі на волю. Спачатку адрачэнцы ўзяліся ствараць Сялянскі саюз, лаяльны польскаму ўраду, але нічога з гэтага не выйшла, сяляне не прынялі згодніцтва. Тады Акінчыц узяўся ствараць статут Беларускай фашысцкай партыі. А ў БССР, куды выехалі, абмененыя на савецкіх палітзняволеных, кіраўнікі Грамады, іх чакала д'ябальская версія ГПУ. На пытках змагароў ператваралі ў польскіх агентаў, дыверсантаў і затоеных тэрарыстаў, закінутых у БССР для звяржэння ўлады. Пачалі даходзіць чуткі аб смяротных прысудах ГПУ такім крыштальна чыстым асветнікам, як Рак-Міхайлоўскі, Ігнат Дварчанін, паэт Алесь Салагуб і іншым лаяльным савецкай уладзе змагарам.

Вось у такіх абставінах, на пераломе дзесяцігоддзяў, павінны былі пісаць ацалелыя заходнебеларускія паэты. Значная частка пісала вершы ў турмах і дасылала творы ў "Калоссе". Мецэнат А. Станкевіч глыбока разумеў трагічную сітуацыю паэтаў і дапускаў у часопіс не толькі вершы з-за крат, але прымаў аўтараў у склад рэдакцыйнага актыву.

Паэтычных важакоў крытыкі вылучылі трох — М. Машару, Н. Арсенневу і М. Танка.

У другой палавіне 20-х гг. У. Жылка міжвольна аказаўся ў канкурэнтным сутыкненні на выдавецкай арэне з Н. Арсенневай. Ён слаў А. Луцкевічу свае шчыра мадэрныя вершы (ажно сотню) з настойліваю просьбай угаварыць выдаўца Клецкіна надрукаваць зборнічак. Жылка прасіў растлумачыць каму трэба, што цяпер у Еўропе маюць найбольшы попыт такія вершы, а Вільня, горад еўрапейскі ды і рэкамендацель аўтарытэтны. У. Жылка меў даўнія запэўненні былога старшыні Беларускага выдавецкага таварыства Сымона Рак-Міхайлоўскага наконт выдання, але А. Луцкевіч прыслаў адмоўны адказ: няма грошай, а беларуская, яшчэ кволая інтэлігенцыя, нават калялітаратурнае асяроддзе такіх складаных вершаў не прымуць. Мабыць, і ўладальнік выдавецтва Клецкін, што арыентаваўся на вучнёўскую моладзь, як самага верагоднага пакупніка, не згадзіўся выдаваць У. Жылку, бо ведаў, што юнацтва ў палоне высокапатрыятычнай і філасафічнай паэзіі Казіміра Сваяка.

Але гэта было недзе ў першай палавіне 1926 г., а ў 1927-ым, калі друкаваўся зборнік Н. Арсенневай "Пад сінім небам", У. Жылка выдаваў у Мінску том выбраных твораў "З палёў Заходняй Беларусі", так што спаборніцтва адпала. На старонках "Звязды" ён змясціў падборку яе вершаў.

Клецкін згадзіўся выдаць кніжку Н. Арсенневай, відаць, таму, што моладзь бачыла там прытулкам характва беларускую прыроду, вяршыняй духоўнасці беларускае сіняе неба. Гаварыць пра ізаляванасць Арсенневай ад беларускай рэальнасці, ад яе злыбед і нягодаў, паражэнняў руху ў змаганні з паланізатарскім рэжымам таксама было б нацягнутым. Баевікі хацелі ад яе публіцыстычных асуджэнняў ворагаў і ўсхвалення мужнасці юных змагароў, а яна выказвалася метафарычна, іншасказальна. Такі маці-прырода падаравала ёй талент. З гэтым патрэбна было пагадзіцца і падзякаваць лёсу, што дае заходнебеларускай паэзіі шырокі веер індывідуальнасці. Але гэта наступіла толькі ў 30-ыя гады. Пераважалі там аўтары, манерай якіх была простая, адкрытая інфармацыя і зварот да чытача з разлікам на поўную інфармацыйную яснасць, зразумеласць. Н. Арсеннева была ў творчасці асобай акцэнтуіраванай.

Яна пісала часта пра шкоднасць гарадской культуры для чалавека, яшчэ больш шыфравала сацыяльную няроўнасць і несправядлівасць, чым раней. Фактычна трэці перыяд яе творчасці пачаўся ў 30-я гады, калі яна выйшла на спаборніцтва з названымі вышэй трыма кандыдатамі на лідэра. Гэта былі ўсяго чатыры гады: 1932—1935. Яе вершам адкрываецца першы нумар "Калосся". Прыслухаўшыся да яго, не цяжка заўважыць далейшае збліжэнне паэткі з тагачаснай мадэрнісцкай тэхнікай вершаскладання: сутыкненні антыномаў і патрэба поўнай свабоды для ўзлёту над зямным, будзённым, урэшце прызнанне загадкавасці, неразгаданасці свету:

**Як калоссе ў жытняй ніве —**
**Цягне дух мяне ўгару.**
**Тут... ніщто мяне не дзівіць,**
**Тут нічога не збяру.**
**. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .**
**Цемнатою, бездарожжам**
**Аднаго б пайшла шукаць:**
**Што ніколі мець не можна,**
**Што ніхто не можа даць.**

Які ж ён, свет рэальны, калі паэтка ўцякае ўсё ж ад яго ў свет мары, хоць і там няма патрэбнай чалавеку для жыцця лагічнасці, перспектывы ці, прынамсі, надзеі, веры? Адказ на гэтае пытанне дае верш "Паэт" (не датаваны):

**Свет гарыць... Патаёмна й адкрыта**
**Йдзе змаганне... Няўспомніць нязгод.**
**А над светам, маною спавітым,**
**Восень жоўта цвіце, як што год.**

**Ты, паэце, не відзіш пажару**
**Там, далёк... Ты благі барацьбіт.**
**Ўсёй душою у восеньскіх чарах**
**Лічыш вершаў разбуджаны рытм.**

Гэта было смелае вылучэнне антыпода паэту-змагару, які панаваў і цаніўся ў заходнебеларускага чытача.

У вершы "Задушкі" паэтка падымае элегічную тэматыку, яна набірае змрочных тонаў: за мяжою жыцця і смерці аўтарка не абяцае ніякіх прасветлін. Там — ноч:

**Няма ўжо Вас... Гдзе Вы? —**
**У нязнаным.**
**Ці лепей Там, ці можа горай.**
**Вы нам не скажаце... З пакорай**
**Прымем Ваша маўчанне.**

А ўсё ж паэтка не хоча адказаць, даверючыся інтуіцыі, ды ўяўленню, пераносіцца ў краіну вечнага маўчання:

**Боль, жахі — сапраўды**
**Зляцелі дзесь проч.**
**Ілгуць усе праўды,**
**Адна праўда — ноч!**

Што ж, калі б гэта адбылося ў заміранай цывілізаванай краіне, знаўцы паэзіі, пачытаўшы вершы Арсенневай, сказалі б: вось і дачакаліся, дайшла паэтка да крайніх мінораў мадэрнісцкай паэзіі, беларуская літаратура яшчэ пашырыла свой вобразны і эмацыянальны дыяпазон. Але ж гэта адбылося ў краіне перанапружанай сацыяльнымі і нацыянальнымі канфліктамі, чытачы глядзелі на паэзію, як на аўтарытэтны голас грамадскасці, роўны нацыянальнай і сацыяльнай думцы, толькі больш эмацыянальны, хвалюючы. Прывык чытач і паэта бачыць з мячом у руцэ, альбо з праклёнам і пагардай ворагам на вуснах. Крытыка таксама разглядала паэзію як мастацкую частку нацыянальнай свядомасці. З'явіўся, праўда, адзін крытык, які аддзяліў паэзію ад грамадскай думкі і пачаў яе разглядаць як чыстае мастацтва, уласна кажучы, з усяго кодэкса чыстага мастацтва ён узяў толькі самы элементарны пастулат: мастацкі твор не з'яўляецца копіяй рэчаіснасці, а толькі візіяй яе". А што такое візія, мэтр не зволіў растлумачыць: з кантэкста можна было здагадацца, што гэты паланізм азначае суб'ектыўнае ўнутранае бачанне, свабоднае ад рэальнасці. Для аналізу чыста мастацкіх якасцей мадэрны крытык меў таксама сціплы набор тэрмінаў, як, напрыклад, карункавая метафара. Крытык быў вучоны, абараніў у Кракаўскім універсітэце доктарскую дысертацыю "Pierniastki bialoruskie w polskiej poezij romantycznej" і называўся Станіслаў Станкевіч. Ён пачаў выступаць у беларускім літаратуразнаўстве з пачатку 30-х гадоў, калі пераехаў у Вільню і ўладкаваўся настаўнікам польскай гімназіі і стаў выкладаць там польскую мову і літаратуру, а яшчэ і ў "Szkole nauk politycznych". Там меў доступ да ўсёй савецкай беларускай літаратуры і прэсы.

Адам Станкевіч у рэцэнзіі на выдадзеную першую частку яго дысертацыі знайшоў у ёй нястачу беларускага патрыятызму: аўтар хваліў да нябёс польскі рамантызм, а на беларускія элементы ў ім не знаходзіў месца ці разумення. Мецэнат "Калосся" палічыў гэтую аднабаковасць справай навуковага кіраўніка, прафесара Манфрэда Крыдля і пай-

шоў на крайнасць: сказаў, што трэба ўнікаць кіраўніцтва польскай прафесуры беларускімі дактарантамі. С. Станкевіч па натуры быў ліслівым суб'ектам, падатлівым на розныя, абы карысныя для яго, уздзеянні. Хвалячы Н. Арсенневу, крытык шукаў хібаў у зборніку М. Танка "На этапах" (улічваў, што зборнік быў канфіскаваны, а супраць выдаўца Р. Шырмы і аўтара ўлады вядуць судовае праследаванне). Калі ж ён убачыў, што крытыкі розных арыентацый хваляць гэты зборнік як выдатны здабытак беларускай паэзіі, дык у іншых сваіх артыкулах узяўся таксама хваліць зганенае, нават адступіў ад свайго стаўбавога прынцыпу, што мастацтва павінна сепарыравацца ад палітыкі і сацыяльных праблем. С. Станкевічу вельмі хацелася вылучыць лідэра заходнебеларускай паэзіі, але ён не меў для гэтага дастатковых здольнасцей, кіраваўся не густам і прафесійным уменнем, а кан'юнктурным нюхам: спачатку хваліў да неба М. Машару за тое, што ён, адбыўшы турэмнае зняволенне за рэдактарства грамадаўскай газеты, аб'явіў сябе вольным паэтам і адбіваў пасулы палітычных публіцыстаў, якія хацелі залучыць яго да свайго гурту, а потым, расчараваўшыся, лаялі ("адны фашыст завуць, другія хам"). Справу лідэрства ў цывілізаваным свеце вырашалі не крытыкі, а чытачы, гэта іх выключнае права. Паэтам нумар адзін быў прызнаны М. Танк на сустрэчах ва універсітэце, у Беларускай гімназіі, на сустрэчы з польскай інтэлектуальнай элітай і многіх іншых. Шмат было і аматараў эстэтызаванай паэзіі Н. Арсеневай.

У 1935 годзе, пасля гасцінных сустрэч у Вільні і добразычлівых водгукаў на яе творы, Н. Арсеннева перастала друкавацца ў "Калоссі", ізалявалася ў Тчэве ды ў роднай вёсцы мужа. Нельга было падазраваць, што яна не адолела голасу амбіцыі: у М. Танка склаліся з ёю таварыскія ўзаемапаважлівыя адносіны.

Калі ж я, вывучаючы заходнебеларускую літаратуру, наткнуўся на неверагодны ў дэмакратычнай дзяржаве факт, што дзейнасцю польскай літаратурнай лявіцы займалася не толькі грамадскасць і прэса, а і спецслужбы, прытым справа была перададзена ад дэфензівы ў вайсковую контрразведку, дык жахнуўся. У разведвальных органах Акругоў Карпусоў былі створаны спецыяльныя вышкова-следчыя групы, абслугоўваць якія абавязана была паліцыя са сваёй агентурай і дэфензіва са сваёй. Мне прыйшло на памяць раптоўнае змаўканне і спыненне супрацоўніцтва Н. Арсенневай з "Калоссем", падумалася, што тут уздзейнічала на мужа контрразведка Акругі Корпуса, куды ўваходзіла Тчэўская школа падафіцэраў. У прынцыпе я не памыліўся, але канкрэтнага дакумента, які б пацвердзіў гэта, у мяне не было. Толькі год назад, калі я меў яшчэ сілы працаваць у Брэсцкім абласным архіве і распрацоўваў справу Сяргея Сіняка (Хмары), наткнуўся на такі дакумент і вачам сваім не паверыў, так усё гэта выглядала неверагодным.

Сяргей Сіняк (Хмара), адбыўшы другі тэрмін турмы за дзейнасць на Піншчыне кіраўніком абласнога аддзела Сакратарыята Беларускага пасольскага клуба "Змаганне", пачаў захады аб стварэнні літаратурнага аб'яднання "Маладая ўскалось". Задумана была маладзёжная арганізацыя, як філіял ці канкурэнт "дарослай", што склалася самацёкам пры рэдакцыі "Калосся". Тая арганізацыя не вяла ўліку членаў, да яе належаў той, хто надрукаваў хоць адзін верш ці артыкул, а адыходзіў, калі хацеў і мог, нікому не тлумачачы прычыну адыходу. Хмарава "Маладая ўскалось" планавалася па ўзору камсамольскай арганізацыі, і таму паэты Слонімшчыны не рваліся туды ісці, ім больш падабалася вольная прыналежнасць да гурту супрацоўнікаў "Калосся" ці да "Беларускага летапісу", дзе літаратурны аддзел вёў Рыгор Шырма, або да народнафрантавой газеты "Наша воля", дзе паэтамі апекаваўся Максім Танк. На вызначаны дзень сустрэчы ў Дзятлава прыехаў толькі адзін Пятрусь Івашэвіч (Граніт) ды сам Хмара, а з падпольнікаў сакратар Наваградскага абкома КПЗБ, турэмны сябра Хмары Яўген Пронька. Паліцыя падаслала і свайго віжа, бо атрымала ўсю інфармацыю. Прыехаўшыя пастанавілі сабрацца пасля таго, як правядуць індывідуальныя гутаркі з пачынаючымі паэтамі на месцах. Другога разу не было, Сіняк і Пронька трапілі ў канцлагер Картуз-Бярозу. Яшчэ перад ссылкай у лагер Сіняк быў дапытаны наконт беларускай літаратурнай лявіцы, і агонь следчых органаў ён выклікаў на сябе. Трэба ведаць, што паэт гэты меў растраўленыя й зашчымленыя амбіцыі: быў поўным антыподам летуценніцы Арсенневай. Яго паэзію пранізвалі экстрэмальныя бальшавіцкія поклічы і ідэі:

**Трэба? — галавы зложым, —**
**Трэба? — целам, касцьмі!**
**Шлях бяздонням праложым,**
**Нам палаць, а не цьміць!**

І вось сутыкнуўся баявік са сваімі мучыцелямі ды рашыў павадзіць іх за нос. Ён прыдумаў верагодную байку. Носьбіт маралі сацыяльнай ураўнілаўкі праехаўся па прывілеяванай пані афіцэршы. Біты, мучаны палітвязень, падпольнік захацеў пачаставаць сваімі мукамі каго-небудзь з тых, што жывуць бяды не знаючы. Хай паклічуць на субяседванне мройную паэтку, ёй нічога не будзе, апраўдаецца. Але няхай пакаштуе нашага змагарскага хлеба.

Я заўважыў, што ў Хмары ўжо з пінскага арышту і допытаў развіўся сіндром псотлівай здзеклівасці ў адносінах да сваіх катаў. Абвесці іх вакол пальца было для яго дзіўнай асалодай. Ён маніў следчым, пішучы і з турмы падманныя пісьмы родзічам, знаёмым у ЗША і ў БССР, нават сваёй каханцы. Усе пісьмы затрыманы турэмнай аховай, а следчымі далучаны як доказы да справы. І, цікава, нешта спрацавала на карысць вязня: Пінскі суд яго апраўдаў, ён выйшаў на волю і зноў узяўся за падпольную справу. Тады і дайшло да справы беларускай літаратурнай лявіцы. Першынцам гэтай лявіцы ён назваў "Веснаход". А следчыя Акругі Корпуса нічога пра беларускую паэзію не ведалі, беларускую лявіцу ўяўлялі па ўзору польскай, якая гуртавала творчую інтэлігенцыю Вільні на аснове ідэі Народнага антыфашысцкага фронту, выдавалі папулярнейшы часопіс "Poprostu", рашуча выступалі супраць уціску дэмакратыі пасля перавароту Пілсудскага, разбудовы органаў вышуку, фізічнага прымусу на папярэднім следстве палітвязняў, калецтваў і забойстваў у ходзе варварскіх следчых працэдур. Н. Арсеннева лёгка адкупілася тою ўстаноўчаю фразай у статуце "Веснаходу" — "арганізацыя апалітычная і беспартыйная". Давялося ўсяго ўстрымацца ад друку.

*г. Брэст*

# Ірына ЖДАНОВІЧ

Беларускае тэатральнае мастацтва панесла вялікую страту. 2 снежня на 88-м годзе жыцця пасля працяглай хваробы памерла выдатная беларуская актрыса, педагог, народная артыстка Беларусі, педагог, народная артыстка Беларусі Ірына Фларыянаўна Ждановіч.

Ірына Фларыянаўна Ждановіч нарадзілася 27 верасня 1906 года ў Мінску. Сцэнічную дзейнасць пачала ў Першым беларускім таварыстве драмы і камедыі, створаным яе бацькам, выдатным арганізатарам і рэжысёрам Фларыянам Ждановічам. З 1920 года працавала на сцэне тэатра імя Янкі Купалы. У 1962—1969 гадах выкладала ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Станаўленне творчай індывідуальнасці актрысы, фарміраванне яе як мастака адбываліся пад уплывам бацькі, а таксама выдатнага рэжысёра і педагога Еўсцігнея Міровіча. У першыя гады працы ў тэатры стварыла галерэю вобразаў юных герояў, аб'яднаных ідэяй бескампраміснасці, верай у ідэалы дабра і розуму. Эталная яе роля — Марылька ў "Бацькаўшчыне" Кузьмы Чорнага.

Выканаўчае майстэрства актрысы заўсёды адзначалася трагічнай напружанасцю, апантанасцю, глыбокім лірызмам. За стварэнне вобраза Ані ў п'есе А. Маўзона "Канстанцін Заслонаў" у 1948 годзе атрымала Дзяржаўную прэмію СССР.

Ролі класічнай драматургіі — Джульеты ("Рамэо і Джульета" У. Шэкспіра), Веры ("Апошнія" М. Горкага), Норы ("Нора" Г. Ібсена), Людмілы, Негінай ("Позняе каханне", "Таленты і паклоннікі" А. Астроўскага) — вызначаліся кантрастнасцю душэўных пачуццяў, рамантызмам, глыбока індывідуальным характарам творчасці.

Выступала Ірына Фларыянаўна і як рэжысёр. У тэатры імя Янкі Купалы яна ставіла ў свой час спектаклі "Таня" А. Арбузава, "Праз 20 гадоў" М. Святлова. Казка "Пунсовая кветачка" І. Карнавухавай і Л. Браўсевіч дагэтуль захоўваецца ў Купалаўскім тэатры ў рэжысуры І. Ф. Ждановіч.



Светлы вобраз Ірыны Фларыянаўны, выдатнай дзячкі нацыянальнай беларускай сцэны, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**А. Р. Лукашэнка, М. І. Грыб, М. М. Чыгір, В. І. Ганчар, А. І. Бутэвіч, А. М. Герасіменка, А. А. Дудараў, І. Г. Чыгрынаў, М. М. Абрамаў, Г. С. Аўсянікаў, Г. А. Арлова, Т. Н. Аляксеева, З. І. Браварская, І. І. Вашкевіч, Г. М. Гарбук, Б. Ф. Герлаван, Л. М. Давідовіч, П. П. Дубашынскі, М. Г. Захарэвіч, А. І. Клімава, П. В. Кармунін, Б. І. Луцэнка, В. В. Маслюк, В. Я. Мазынскі, А. Л. Мілаванаў, С. М. Станюта, Г. С. Талкачова, В. П. Тарасаў, Ф. І. Шмакаў, Р. І. Янкоўскі, М. М. Яроменка.**

# СВЯЦІЛА ЯРКА І ЗІХАТЛІВА

Завяршылася зямное жыццё, назаўсёды замоўк голас яшчэ аднаго карыфея Купалаўскай сцэны — Ірыны Фларыянаўны Ждановіч. Яна — з апошніх магікан нашых незабыўных акцёраў найслаўтага першага пакалення Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Яшчэ ў 1917 г. адзінаццацігадовай дзяўчынкай удзельнічала Ждановіч у першым выкананні Купалавай драмы "Раскіданае гняздо". І затым сорак пяць гадоў свяціла яе акцёрская зорка на сцэнічных падмостках, свяціла надзвычай ярка і зіхатліва. Актрыса вялікай трагедыйнай сілы і высокай рамантычнай красы, яна ў гэтым плане не ведала сабе роўных і многія гады займала становішча асноўнай гераіні тэатра.

Якое гэта было шчасце бачыць на сцэне гераінь Ірыны Ждановіч. Яны абуджалі высакароднасць, салодка трывожылі думкі, паланілі душу і вялі яе ў нябесныя высі, у блакітныя далячыні. Вось і я на рубяжы саракавых-пяцідзесятых гадоў, упершыню сустрэўшыся са ждановічаўскімі гераінямі, назаўсёды пакінуў свае ранейшыя задумы і планы і пайшоў служыць Тэатру, яго дзівоснаму Мастацтву. А колькі людзей сваімі сцэнічнымі вобразамі паклікала артыстка на дабро, справядлівасць, годнасць. І яе гледачы выканаюць, павінны выканаць свой жыццёвы абавязак. Усведамленне менавіта гэтага хоць крыху суцішае душэўны боль ад невымернай і незваротнай страты.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Мехаву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сына Леаніда.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Першацвет" выказвае глыбокае спачуванне сябру рэдкалегіі Уладзіміру Клімовічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці бацькі.**

У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ "ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА"

У маім артыкуле "Не пішы і богведама як" ("ЛіМ" за 25.XI.1994 г.) у пятым радку трэцяга абзаца трэцяй калонкі я дапусціў памылку: замест "Ідэалізм аб'яўляецца класавай буржуазнай ідэалогіяй..." трэба чытаць: "Нацыяналізм аб'яўляецца..." і г. д.

З удзячнасцю за надрукаванне артыкула

І. ДУБРОЎСКІ

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі
і Міністэрства культуры
і друку Рэспублікі Беларусь

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11534.
Нумар падпісаны 8.12.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

## Тэлетыдзень

## ПАНЯДЗЕЛАК, 12.12

**Беларускае тэлебачанне**
8.15 Дзелавы веснік
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.40 Беларускі тур
9.00 "Чарапашкі ніндзя"
9.50 "АВС-клуб"
10.05 "Сто першы", м/ф
12.25 У нас дома
12.55 "Не страляйце ў белых лебедзяў", м/ф
15.10 "Ад панядзелка да панядзелка"
15.55 "Язэп Драздовіч", д/ф
16.15 Тэлебачанне — школе. Гісторыя. Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі
16.40 "Лісты да нас", д/ф
17.00 Навіны
17.10 "Лёгкі хлеб", м/ф
17.30 "...І спевам дакрануся да нябёс"
18.10 Навіны. (Брэст)
18.35 Навіны (Бі-бі-сі)
19.10 Аэробіка для ўсіх
19.40 Праспект
20.10 Імгненне шчырасці
20.20 Пяць хвілін на жарты
20.30 Калыханка
21.00 Панарама
21.40 Пад купалам Сусвету
21.50 Спартыўны тэлекур'ер
22.10 "Любоў і расстанне". Спявае А.Ісаеў
23.00 НІКа
23.15 Дайджэст
23.25 "Паласа Сімарона", с. 20

**Канал "Астанкіна"**
7.30 Якуцкі нацыянальны цырк "Айуун"
8.00 На балі ў Папялушкі
9.00 Канцэрт, прысвечаны гадавіне бітвы пад Масквой
10.30 Эканоміка і рэформы
11.00 "Курангт увосень лічаць", д/ф
11.25 Трамвай-жаданне
12.25 "Наш дом", м/ф
14.00, 16.50, 20.00 Навіны
14.10 "Спасціжэнне дэмакратыі". Заключная серыя
15.20 Грай, гармонік!
16.05 Зорная гадзіна
17.00 Канцэрт, прысвечаны Дню Канстытуцыі
19.00, 20.30 Надвор'е
19.10 Гол
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 "Свой крыж", м/ф. У перапынку (22.50) — Навіны
23.40 "Другое жыццё"

**Канал "Расія"**
16.55 На Сусветнай шахматнай алімпіядзе
17.25 "Ніхто не забыты"
17.30 Выратаванне 911
18.25 Вуснамі дзіцяці
19.00, 22.00 Весткі
19.25 Падрабязнасці
19.35 "Спрут-6", с. 6, ч. 1
20.40 Рэпарцёр
21.00 Момант ісціны
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаімгненне
22.30 Спартыўная карусель
22.35 Шахматная ліхаманка
22.50 "Хто мы?"
23.35 Зоркі гавораць

**Санкт-Пецярбург**
12.00 "Шчаўкунчык"
12.25 Чароўная лінія
12.40 "Прыгажосць". Муз. фільм
13.00 Тэст
13.30 "Глушак", м/ф
14.00 Казка за казкай
14.25, 19.05 Музычны момант
14.30 "Страсці", м/ф. Заключная серыя
16.05 Будні
16.20 Парады садаводам
16.30 Чалавек на зямлі
17.00 Сёння і штодзённа
18.00 Сёння — Дзень Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі
18.30 Інфарм ТБ
18.55 "Фіеста", т/ф
19.10 Вялікі фестываль
19.25 "Утаймавальніца тыграў", м/ф
21.10 Тэлемагазін
21.15 Тэлеслужба бяспекі
21.25 Ваш стыль
21.35 "Глушак", м/ф
22.05 "Я Вам вяртаю Ваш партрэт". Муз. фільм
23.05 "Гісторыя таблеткі", т/ф (Францыя), ч. 2

## АЎТОРАК, 13.12

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Навіны
8.10 Дайджэст
8.20 Пяць хвілін на жарты
8.25 "Жывыя струны". Фільм-канцэрт
9.00 Тэлебачанне — школе. Гісторыя. Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі
9.25 "Паласа Сімарона", м/ф
10.40 "Пяць тыдняў на паветраным шары". Мульт.
11.25 "Прыгоды Электроніка", м/ф, с. 1
12.35 Кінанарыс
12.45 Шукаем ініцыятыўных
13.00 "Нов і К"-топ-10
14.00 "Канва жыцця", д/ф
14.55 Адкрыццё сезона ў Рускім тэатры
15.40 "Як дух змагання Беларусі", д/ф
16.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. У.Караткевіч. "Зямля пад белымі крыламі".
16.30 Мульфільм
17.00 Навіны
17.10 "Баль А.Малініна". Муз. фільм
18.10 Навіны (Віцебск)
18.35 Навіны (Бі-бі-сі)
19.10 Эканамікст
19.20 Студыя "Край". "Вера. Надзея. Любоў". Ніл Гілевіч пра жыццё і каханне.
19.50 Пяць хвілін на жарты
19.55 "Маё каханне, мой смутак"
20.30 Калыханка
21.00 Панарама
21.40 Пад купалам Сусвету
21.50 "Добрыя намеры", м/ф, с. 7
22.40 "Беларуская музычная восень". Канцэрт з твораў А.Шнітке
23.40 НІКа
23.55 Дайджэст
00.05 Сталіца

**Канал "Астанкіна"**
5.30 Раніца
7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 20.00, 22.55 Навіны
8.00 "Топа Джыджыа". Мульсерыял (Японія)
8.25 "Дзікая Роза"
9.00 "Што? Дзе? Калі?"
14.00 Як працуюць грошы
14.15 Хроніка дзелавога жыцця
14.25 Культура і бізнес
14.35 Тэле-тур
15.00 Дамісолька
15.30 Паміж намі, дзяўчынкамі...
16.00 Джэм
16.20 "Элен і хлопцы"
16.50 Свет сёння
17.00 Ведзі
17.30 Загадка СБ
17.40, 20.30 Надвор'е
17.45 "Хто ёсць хто. XX стагоддзе"
18.00 Гадзіна пік
18.25 "Дзікая Роза"
18.55 "Мы"
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 З першых рук
20.50 "Тры мушкецёры", м/ф (Францыя)
23.10 Аўта-шоу
23.25 Відэамікс
23.50 Прэс-экспрэс

**Канал "Расія"**
6.30 Формула-730
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30 Час дзелавых людзей
8.00 Навіны Эй-бі-сі
8.25 Гандлёвы дом "Джэнсер-клуб"
8.40 Тэлегазета
10.40 Сялянскае пытанне
11.05, 13.20 Дзелавая Расія
13.45 Выратаванне 911
15.10 Рэпартажы з месцаў
15.20 "Наезнік-прывід", м/ф (Аўстралія), с. 1
15.45 Там-там навіны
16.00 Свята кожны дзень
16.10 Не быць дыназаўрам
16.25 На Сусветнай шахматнай алімпіядзе
16.55 "Ніхто не забыты"
17.00 Галасы
17.30 Фільм-прэм'ер
17.45 Парадак дня
18.10 L-клуб
19.25 Падрабязнасці
19.35 "XX стагоддзе ў кадры і па-за кадрам"
20.25 "Андрэй Сахараў. Рэха"
20.50 Экран крымінальных паведамленняў
21.00 На палітычным Алімпе
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаімгненне
22.30 Спартыўная карусель
22.35 Шахматная ліхаманка
22.50 "Казка на ноч", м/ф
0.15 Зоркі гавораць

**Санкт-Пецярбург**
12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ
12.10 Мультфільм
12.20, 14.40, 17.50, 19.05 Музычны момант
12.25 "Нямецкая хваля"
13.00 Хуткая дапамога
13.30 "Глушак"
14.00 Казка за казкай
14.45 "Уяўленне зайздрасці", м/ф
16.00 Мульфільм
16.05 Падарожжа па Усходзе
16.20 Чароўная лінія
16.35 Тры колы, фаліянт і...
16,55 Мультфільм
17.20 Па ўсёй Расіі
17.55 Мы і банк
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.10 Вялікі фестываль
19.25 Пецярбургскі ангажэмент
20.10 Рандэву. А.Разенбаўм
20.10 Свет мастацтва
21.10 Тэлемагазін
21.15 Тэлеслужба бяспекі
21.45 Спартыўныя навіны
21.55 Ваш стыль
22.05 "Глушак"
22.35 "Цудоўная Алена". Муз-фільм

## СЕРАДА, 14.12

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Навіны
8.10 Дайджэст
8.20 Эканамікст
8.30 "Маё каханне, мой смутак"
9.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. У.Караткевіч. "Зямля пад белымі крыламі".
9.30 Пяць хвілін на жарты
9.35 "Добрыя намеры"
10.25 Мультфільмы
10.50 "Прыгоды Электроніка", м/ф, с. 2
11.55 Гісторыя ДАВТа Беларусі ў асобах
13.00 Кінаканцэрт
13.40 "Меладрама", м/ф
15.25 Відзьма-нявідзьма
16.30 "Зямля Тарашкевіча", д/ф
17.00 Навіны
17.10 Фільм-канцэрт
17.30 "Прыгоды Мюнхаўзена". Мульт. 1—4-ы
18.10 Навіны (Гомель)
18.30 Навіны (Бі-бі-сі)
19.00 "Крок". "Пяць зорак"
20.00 "Маё каханне, мой смутак"
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.40 Пяць хвілін на жарты
21.45 Пад купалам Сусвету
21.55 "Добрыя намеры", м/ф. Заключная серыя
22.45 "Вечар з "Паркам Горкага"
23.15 НІКа
23.30 Дайджэст

**Канал "Астанкіна"**
5.30 Раніца
7.50, 8.50, 9.50, 15.50, 17.50, 20.00, 22.55 Навіны
8.00 "Топа Джыджыа"
8.25 "Дзікая Роза"
9.00 Клуб падарожнікаў
14.00 Навука і рынак
14.15 Грошы і шчасце
14.30 Хроніка дзелавога жыцця
14.40 "Бурда модэн" у Расіі
15.00 Паглядзі, паслухай
15.20 Адказы
16.00 Цін-тонік
16.20 "Элен і хлопцы"
16.50 Свет сёння
17.00 Тэлерадыёкампанія "Мір"
17.40, 20.30 Надвор'е
17.45 "Хто ёсць хто. XX стагоддзе"
18.00 Гадзіна пік
18.25 "Дзікая Роза"
18.55 У пошуках страчанага
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 "Не вярнуўся з бою", д/ф
21.05 "За шкуру паліцэйскага", м/ф (Францыя)
23.05 Магік-шоу
23.35 У свеце джаза
23.55 Прэс-экспрэс

**Канал "Расія"**
6.30 Формула-730
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30 Час дзелавых людзей
8.00 Навіны Эй-бі-сі
8.25 Здарова жывеш
8.40 "Санта-Барбара"
9.30 Момант ісціны
10.25 Гандлёвы дом "Ле Монці"
10.40 Сялянскае пытанне
11.05, 13.20 Дзелавая Расія
13.45 "Аліса ў краіне цудаў". Мульт (ЗША)
15.10 Рэпартажы з месцаў
15.20 Там-там навіны
15.35 Свята кожны дзень
15.45 Далёкі Усход
16.45 Кліп-антракт
16.30 На Сусветнай шахматнай алімпіядзе
17.00 Казкі для бацькоў
17.30 Залатая шпора
18.05 Тэатральны раз'езд
19.25 Падрабязнасці
19.35 "Санта-Барбара"
20.35 Я — лідэр
21.00 60 мінут
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаімгненне
22.30 Спартыўная карусель
22.35 Шахматная ліхаманка
22.50 Экран крымінальных паведамленняў

**Санкт-Пецярбург**
12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ
12.10 Чароўная лінія
12.25 "Нямецкая хваля"
12.55, 14.25, 17.50, 19.05 Музычны момант
13.00 Хуткая дапамога
13.30 "Глушак"
14.05 Мультфільм
14.45 "Каханне. Сяротная гульня", м/ф
16.10 "Нэта не шахматы, гэта...", д/ф
16.20 Будні
16.35 Казка за казкай
17.30 "Шэсць варыяцый", т/ф
17.55 Гістарычны альманах
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.10 Вялікі фестываль
19.25 "Вось зноў акно", м/ф
20.20 Падсякай
20.35 Блеф-клуб
21.10 Тэлемагазін
21.15 Тэлеслужба бяспекі
21.45 Спартыўныя навіны
21.55 Ваш стыль
22.05 "Глушак"
22.35 "Вермеер", т/ф (Францыя)
23.00 Таэквандо

## ЧАЦВЕР, 15.12

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Навіны
8.10 Дайджэст
8.20 Пяць хвілін на жарты
8.25 "Маё каханне, мой смутак"
8.55 Фільм-канцэрт
9.30 "Добрыя намеры"
10.20 Тэлевізійны Дом кіно
11.35 Мульфільмы
12.15 "Прыгоды Электроніка", м/ф, с. 3
13.20 Урокі здароўя
13.45 "Крок". "Пяць зорак"
14.45 "І смех і бяда", м/ф
15.30 "Развітанне", д/ф
16.00 Тэлебачанне — школе. Гісторыя. Погляды гісторыкаў на ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага
16.30 Мультфільмы
17.00 Навіны
17.10 "Так гэта было..."
17.30 "Любімыя песні. Спявае Л.Гурчанка"
18.10 Навіны (Гродна)
18.35 Навіны (Бі-бі-сі)
19.10 Эканамічная хваля
19.50 "Крок", "Науцілус"
20.10 "Жонка краўца". Мульт.
20.20 Пяць хвілін на жарты
20.30 Калыханка
21.Панарама
21.40 Пад купалам Сусвету
21.50 "Крок". Студыя "Формула"
23.15 НІКа
23.30 Дайджэст
23.40 Мелодыі мінулага

**Канал "Астанкіна"**
5.30 Раніца
7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 20.00, 22.50 Навіны
8.00 "Топа Джыджыа"
8.25 "Дзікая Роза"
9.00 Амерыка з М.Таратутам
9.3_ Напевы зямлі рускай
14.00 Сяло і рэформы
14.15 Мой маленькі бізнес
14.25 Хроніка дзелавога жыцця
14.35 Дазвольце прадставіцца
15.00 Мульцітролія
15.30 На балі ў Папялушкі
16.00 Цін-інтым
16.20 "Элен і хлопцы"
16.50 Свет сёння
17.00 ...Да 16 і старэйшым
17.30 Галасы Расіі
17.40, 20.30 Надвор'е
17.45 "Хто ёсць хто. XX стагоддзе"
18.00 Гадзіна пік
18.25 "Дзікая Роза"
18.55 "Каб памяталі..."
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 Масква. Крэмль
21.00 Лато "Мільён"
21.30 "Дона Флор і два яе мужы", м/ф (Бразілія)
23.20 "Замак мастацтваў"
24.00 Прэс-экспрэс

**Канал "Расія"**
6.30 Формула-730
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30 Час дзелавых людзей
8.00 Навіны Эй-бі-сі
8.25 Паехалі
8.35 "Санта-Барбара"
9.25 Тэлегазета
9.30 На палітычным Алімпе
10.20 Кліп-антракт
10.25 Гандлёвы дом "Ле-Монці"
10.40 Сялянскае пытанне
11.05, 13.20 Дзелавая Расія
13.45 Выратаванне 911
15.10 Рэпартажы з месцаў
15.20 Там-там навіны
15.35 Свята кожны дзень
15.45 Новая лінія
16.25 На Сусветнай шахматнай алімпіядзе
16.55 Экспавідэа
17.10 Будні
17.50 У свеце аўта- і матаспорту
18.20 Пяць хвілін аб добрым жыцці
18.25 Свая гульня
19.25 Падрабязнасці
19.35 "Санта-Барбара"
20.30 Маскі-шоу
21.10 Надзвычайны канал
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаімгненне
22.30 Спартыўная карусель
23.00 Цішыня N 9
23.45 Зоркі гавораць

**Санкт-Пецярбург**
12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ
12.10 Мультфільмы
12.20, 14.25, 17.45 Музычны момант
12.25 "Нямецкая хваля"
13.00 Хуткая дапамога
13.30 "Глушак"
14.00 Урок нямецкай мовы
14.15 Мульфільм
14.45 "Вышыня", м/ф
16.15 Тэлефільм
16.35 Чароўная лінія
16.50 Казка за казкай
17.35 "Яблыня"
17.50 "Вандроўнік"
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.00 Вялікі фестываль
19.20 "Медзведзяня", м/ф
21.20 Тэлеслужба бяспекі
21.45 Спартыўныя навіны
21.55 Тэлемагазін
22.05 Ваш стыль
22.10 "Глушак"
22.40 Парад парадаў. Музычнае шоу

## ПЯТНІЦА, 16.12

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Навіны
8.10 Дайджэст
8.20 Пяць хвілін на жарты
8.25 Фільм-канцэрт
9.00 Тэлебачанне — школе. Гісторыя. Погляды гісторыкаў на ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага
9.30 "Гран-па ў белую ноч", муз. фільм
10.35 "Крок". "Наўцілус"
10.55 Кароткаметражныя фільмы
11.40 Вытокі
11.55 "Варвара-краса, Доўгая Каса", м/ф
13.15 "Лявоны", фільм-канцэрт
13.45 "Я + Я"
14.30 "Балада пра салдата", м/ф
16.00 "Адвечныя званы", д/ф
16.20 "Тэлебом"
17.00 Навіны
17.10 "Мая любоў — кінематограф", д/ф
17.40 Мультфільмы
18.10 Навіны (Магілёў)
18.35 Навіны (Бі-бі-сі)
19.10 Эканамікст
19.20 Крок насустрач
19.35 Тэлевізійны "АРТ-клуб"
20.05 Падарункі на добры настрой
20.20 Пяць хвілін на жарты
20.30 Калыханка
21.00 Панарама
21.40 Пад купалам Сусвету
21.50 Музыка без межаў
22.30 "Развітанне славянкі", м/ф
24.00 НІКа
0.15 Дайджэст

**Канал "Астанкіна"**
5.30 Раніца
7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 20.00, 23.00 Навіны
8.00 Сарока
8.20 Сімфанічная казка "Пеця і воўк"
9.00 Дапамажы сабе сам
9.30 Мультфільм
14.00 Улада і рэформы
14.15 Наш прагноз
14.25 Хроніка дзелавога жыцця
14.35 Шоу і бізнес
15.00 "Мільён прыгод. Востраў Іржавага генерала", м/ф
16.30 Рок-урок
16.50 Свет сёння
17.00 Чалавек і закон
17.25 Хакей. Прыз "Известий". Расія — Францыя
У перапынках — Надвор'е; Добрай ночы, малышы!
20.30 Надвор'е
20.40 Поле цудаў
21.30 "На ўцёках", м/ф (Францыя)
23.10 "Погляд" з А. Любімавым
24.00 Прэс-экспрэс
0.10 Музагляд

**Канал "Расія"**
6.30 Формула-730
7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30 Час дзелавых людзей
8.00 Навіны Эй-бі-сі
8.25 Паехалі
8.35 "Санта-Барбара"
9.25 Новая лінія
10.05 Мемуары
10.35 Тэлегазета
10.40 Сялянскае пытанне
11.05, 13.20 Дзелавая Расія
13.45 "Востраў скарбаў", мульт (ЗША)
15.10 Рэпартажы з месцаў
15.20 Студыя "Рост"
15.50 Там-там навіны
16.05 Свята кожны дзень
16.15 Расійскі флот жывы
16.55 "Выкрадзень", м/ф (ЗША)
18.35 Кліп-антракт
18.40 Непапулярная тэма
19.25 Падрабязнасці
19.35 "Санта-Барбара"
20.30 Зоркі Нью-Йоркскага джаза
21.05 "К-2" прадстаўляе: "Абзац"
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаімгненне
22.30 Спартыўная карусель
22.35 Праграма "А"
23.35 Зоркі гавораць
22.35 Шахматная ліхаманка
22.50 Новы ілюзіён. "Белая карціна"
23.20 Зоркі гавораць

**Санкт-Пецярбург**
12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ
12.10 Чароўная лінія
12.25 "Нямецкая хваля"
12.55, 14.40, 17.50, 19.05 Музычны момант
13.00 Хуткая дапамога
13.30 "Глушак"
14.00 "Еўрапейскі калейдаскоп"
14.45 "Медзведзяня", м/ф
16.45 Па ўсёй Расіі
16.55 Кідайка
17.35 "Васьміног", т/ф
17.55 Храм
18.50 Спорт, спорт, спорт...
19.10 Вялікі фестываль
19.25 "Цана скарбаў", м/ф
21.00 "Папялушка". Сцэна з балета
21.10 Тэлемагазін
21.15 Тэлеслужба бяспекі
21.45 Спартыўныя навіны
21.55 Ваш стыль
22.05 "Глушак"
22.35 "Вісельнік", м/ф (ЗША)
23.55 "Дзе б ні быў я". Спявае У. Атлантаў

## СУБОТА, 17.12

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Навіны
8.10 Дайджэст
8.20 Аэробіка
8.50 Пяць хвілін на жарты
8.55 Эканамікст
9.05 "Развітанне славянкі", м/ф
10.30 "Плюс электрыфікацыя". Праграма віцебскай студыі тэлебачання
11.30 20 мінут рэдактара
11.50 "Пасля 2000 года"
12.50 "Стары і малітва", мульт
13.20 "Лулу—анёл кветак", мульт
13.55 "Асілак"
14.50 "З глыбінь жыватворных"
15.30 "Чорны бусел", м/ф
17.15 "Паміж намі жанчынамі"
18.15 Тэлекрама
18.25 "Чарапашкі ніндзя"
18.50 Паказ мадэляў міланскіх мадэльераў у Беларускім цэнтры моды
19.30 Пяць хвілін на жарты
19.40 Фаварыты года
19.55 Міжнародныя спартыўныя навіны
20.30 Калыханка
21.00 Панарама
21.40 Пад купалам Сусвету
21.50 "Той самы Мюнхаузен", м/ф
0.10 Каскад
0.30 Відзьма-нявідзьма
1.30 Ніколі не гавары "ніколі", м/ф

**Канал "Астанкіна"**
6.30 Раніца дзелавога чалавека
7.15 У свеце матораў
7.45 Слова пастара
8.00 Покліч джунгляў
8.30 Тэлерадыёкампанія "Мір"
10.00 Ранішняя пошта
10.30 Медыцына для цябе
17.00 Без паўзы
11.10 Смак
11.20 "Эскадрылля N 5", м/ф
13.35 Палітра. Свет вачамі мастака
13.50, 22.50, 23.50 Навіны
14.00 "Не вер, не бойся, не прасі", д/ф
14.50 "Жыццё заапаркаў"
15.30 Разумнікі і разумніцы
16.10 Да і пасля...
17.05 "Золата Макены", м/ф (ЗША)
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс
20.40, 23.00 Надвор'е
20.45 Што? Дзе? Калі?
21.55 "Ступень да Парнаса", муз. фільм
23.25 "Банда Грысомаў", м/ф (ЗША)

**Канал "Расія"**
7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 Студыя "Рост"
7.55 Пілігрым
8.40 Тэлеэрудыт
8.45 Парламенцкі тыдзень
9.30 Канцэрт групы "Дып Пэпл"
10.00 "Як жыць будзем?"
10.50 "Лондан", д/ф
12.25 Дэ факта
12.40 Сялянскае пытанне
13.20 "Эдэра"
14.10 Тэлеэрудыт
14.15 Футбол без межаў
15.00 Аўтограф майстра
16.25 Лепшыя гульні НБА
17.25 Свята кожны дзень
17.35 Конкурс маладых кінематаграфістаў
18.40 Кліп-антракт
18.45 Кінамарафон
19.25 "Людвіг", м/ф, с. 1
21.05 Зусім сакрэтна
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаімгненне
22.30 Спартыўная карусель
22.35 Хакей. Расія — Фінляндыя
0.40 Зоркі гавораць

**Санкт-Пецярбург**
8.55 Гадзіна Фрэйзера
9.30 Чароўная лінія
9.45 Я і мой кот
10.00 Мультфільм
10.10 "Алі-Баба і сорак разбойнікаў", м/ф
11.20 Музыка на заказ
11.50 "Калыма. Гісторыя аднаго трэста"
13.00 Хуткая дапамога
13.30 "Атэла", м/ф
15.20 Музычны фільм
15.50 Мультфільм
16.05 Аб'ектыў
17.05 "Антрэ"
17.25 Студыя "Уяві"
17.40 Экспрэс-кіно
17.55, 21.15 "Уік-энд з дэтэктывам"
18.30, 21.30 Інфарм ТБ
18.55 "Яны і мы", т/ф
19.10 Вялікі фестываль
19.25 Тэлефільм
19.40, 23.05 "Далей — цішыня". Спектакль тэатра Масавета
21.45 Ваш стыль
21.55 "Не хочаш — не глядзі"
24.00 "Алека", муз. фільм

## НЯДЗЕЛЯ, 18.12

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Аэробіка для ўсіх
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.40 Слова да чалавека
9.10 Добрыя весткі
9.10 Справы вайсковыя
9.40 Беларускі тур
10.00 Як нараджаецца музыка?
10.30 Свята танца
11.15 "Тэлебом"
11.55 АВС-клуб
12.15 Мультфільмы
12.45 "Віншуем вас!", муз. праграма
13.20 Трэці тайм
14.05 Аўта-парк
14.25 Сваімі рукамі
14.45 "Маіх продкаў няма без Беларусі..." Творчы вечар В. Аколавай
16.30 "Чарапашкі ніндзя"
16.55 "Усё за ўсмешку"
17.30 "Кааператыў "Палітбюро", ці Будзе доўгім развітанне", м/ф
19.05 Праспект
19.35 Фаварыты года
20.00 Панарама
20.40 Калыханка
21.00 Пяць хвілін на жарты
21.10 Пад купалам Сусвету
21.20 Вячэрні роздум
21.35 "Сінема" прадстаўляе
21.40 "1871-ы", м/ф
23.20 Валейбол. "Амкадор" (Мінск) — "Ауціма" (Каўнас)

**Канал "Астанкіна"**
7.20 Алімпійская раніца
7.50 Спортлато
8.00 Марафон-15
8.30 Раным-рана
9.00 Палігон
9.30 Пакуль усе дома
10.00 Ранішняя зорка
10.50 Пад знакам "пі"
11.35 "Мы так танцуем" (Вялікабрытанія)
12.10 "Не вер, не бойся, не прасі...", д/ф
12.55 Шпаргалка
13.00 "Падводная адысея каманды Кусто"
13.50, 17.05, 23.55 Навіны
14.00 "Стратэгія Перамогі", с. 12
14.55 Клуб падарожнікаў
15.45 Жывое дрэва рамёстваў
15.50 Вялікі тэатр
16.35 Японія з А. Калошыным
17.15 Тэлелоцыя
17.30 "Баскетбольная ліхаманка", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды" (ЗША)
18.25 Малыя гарады Расіі. Ціхвін
18.55 Надвор'е
19.05 "Аперацыя "Святы Януарый", м/ф
21.00 Нядзеля
21.50 Спартыўны уік-энд
22.05 Хакей. Італія — Расія. 2-гі і 3-ці перыяды. У перапынку (22.45) — Навіны
23.35 "Я вам спяю", т/ф

**Канал "Расія"**
7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 "Свет Віктара Васняцова", д/ф
7.45 Студыя "Рост"
8.15 Наш сад
8.45 Добрай раніцы
9.15 Рэпартажы з Каліфорніі
9.45 Аты-баты...
10.15 Рускае лата
11.00 "Эдэра"
11.55 Белая варона
12.40 Сялянскае пытанне
13.20 Не высечы...
13.35 Сусветная вёска
14.00 Хакей. Швецыя — Чэхія
16.25 Астралогія кахання
17.00 "Гуфі і яго каманда", "Качыныя гісторыі"
17.55 "Вялікая Дудзінская"
19.25 У Ксюшы
20.05 Каробка перадач
20.20 "Людвіг", м/ф, с. 2
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаімгненне
22.30 Спартыўная карусель
22.35 "Людвіг", м/ф, с. 3
0.25 Зоркі гавораць

**Санкт-Пецярбург**
8.55 Гаючае слова
9.30 Чароўная лінія
9.45 Мультфільм
10.00 Экспрэс-кіно
10.15 Парад парадаў
10.45 Паглядзім...
11.00 Нядзельны лабірынт
12.35 "Легенда старажытных гор", м/ф
13.45 Этнасы Зямлі
14.15 Балет "Тэрэза Ракэн"
15.25 Чэмпіянат Італіі па футболе
17.20 Залаты ключ
17.35 Зебра
18.20 "Саракавы дзень", м/ф
19.30 Інфарм ТБ
19.55 "Маэстра з нітачкай", м/ф
21.35 Ваш стыль
21.40 Паглядзім...
21.55 "Праверка на дарогах", м/ф
23.45 Адам і Ева +

12-18 снежня